ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАРТЫЙНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ XI

№ 9. Верасень 1937 г.

ЗМЕСТ

Стар.

**Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта СССР—„Аб дні выбараў у Вярхоўны Совет СССР“** 2
**Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта СССР—„Аб зацвярджанні складу Цэнтральнай Выбарчай Камісіі па выбарах у Вярхоўны Совет СССР“** . . . . . . . . . . . . . . . 3
**Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта СССР—„Аб выбарчых акругах па выбарах у Совет Саюза і Совет Нацыянальнасцей“** . . . 5
**ПЕРАДАВЫ**—Роля большэвіцкага друку ў падрыхтоўцы да выбараў у Вярхоўны Совет . . . . . . . . . 9
**РОХКІНД і ШАМЕС**—Выканаць пастанову ЦК ВКП(б) аб прыёме ў партыю . . . . . . . . . . . . 13
**НОВІКАВА**—Становішча ў Камарынскай партарганізацыі . 17
**ФРОЛАЎ**—Партпрапаганда і палітагітацыя—магутная зброя ў выхаванні кадраў . . . . . . . . . . . 20
**КАЗІМІРАЎ**—Як мы перабудоўваем партмасавую работу . 23

*У дапамогу прапагандысту і агітатару*

Арганізацыя Вярхоўнага Совета Саюза ССР і двухпалатная сістэма ў буржуазных краінах . . . . . . . . 27
Прыкладны план работы гуртка па вывучэнню „Палажэння аб выбарах ў Вярхоўны Совет СССР“ . . . . . 32
Хроніка рэвалюцыйных падзей у Беларусі ў красавіку—верасні 1917 года . . . . . . . . . . . . 37
**Н. АБУЗАЎ**—Гестапо . . . . . . . . . . . . . 62

Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.,
ЦК КП(б)Б, пакой 8.
Тэлефон рэдакцыі па камутатару
20000, даб. 50.



# Аб дні выбараў у Вярхоўны Совет СССР

*ПАСТАНОВА ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТА СССР*

*На падставе пастановы Надзвычайнага VIII З'езда Советаў і арт. 72 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР" аб устанаўленні дня выбараў у Вярхоўны Совет СССР не пазней, чым за два месяцы да тэрміна выбараў і ў нерабочы дзень, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт СССР ПАСТАНАЎЛЯЕ:*

*1. Назначыць выбары ў Вярхоўны Совет СССР на 12 снежня 1937 года.*

*2. Аб'явіць пачатак выбарчай кампаніі па выбарах у Вярхоўны Совет СССР з 12 кастрычніка 1937 года.*

*Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта СССР М. КАЛІНІН.*

*За сакратара Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта СССР—член прэзідыума ЦВК СССР А. АНДРЭЕЎ.*

Масква, Крэмль. 11 кастрычніка 1937 г.

# Аб зацверджанні складу Цэнтральнай Выбарчай Камісіі па выбарах у Вярхоўны Совет СССР

*ПАСТАНОВА ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТА СССР*

На падставе арт. арт. 34 і 35 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР», Цэнтральны Выканаўчы Камітэт СССР **ПАСТАНАЎЛЯЕ** зацвердзіць Цэнтральную Выбарчую Камісію па выбарах у Вярхоўны Совет СССР у складзе наступных прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных:

Старшыня Цэнтральнай выбарчай Камісіі **МАСКАТАЎ Пётр Георгіевіч**—ад Усесаюзнага Цэнтральнага Совета Прафесіянальных Саюзаў.

Намеснік старшыні Цэнтральнай Выбарчай Камісіі **ШМІДТ Отто Юльевіч**—ад прафесіянальнага саюза работнікаў вышэйшай школы і навуковых устаноў.

Сакратар Цэнтральнай Выбарчай Камісіі **МАЛЕНКОЎ Георгій Максіміліянавіч**—ад прафесіянальнага саюза работнікаў палітыка-асветных устаноў.

Члены Цэнтральнай Выбарчай Камісіі:

**ХРУШЧОЎ Нікіта Сергеевіч**—ад Маскоўскай комуністычнай арганізацыі,

**УГАРАЎ Александр Іванавіч**—ад Ленінградскай комуністычнай арганізацыі,

**МЕХЛІС Леў Захаравіч**—ад калектыва работнікаў газеты «Правда»,

**ШОЛАХАЎ Міхаіл Александравіч**—ад Саюза совецкіх пісьменнікаў,

**КОСАРЭЎ Александр Васільевіч**—ад Усесаюзнага ленінскага комуністычнага саюза моладзі,

**ГАРШЭНІН Павел Сідаравіч**—ад Цэнтральнага совета таварыства садзейнічання абароне і авіяцыйна-хімічнаму (будаўніцтву СССР. (Асоавіяхім),

**ШАПАВАЛАВА Таццяна Петроўна**—ад калгаснікаў калгаса «Большевик», Варонежскай вобласці,

**КАЛЕСНІК Нікалай Філіпавіч**—ад рабочых, служачых і інжынераў Харкаўскага трактарнага завода,

**СІМАНЖЭНКАВА Матрона Кузмінічна**—ад рабочых, служачых і інжынераў фабрыкі імя «Октябрьской Революции»,

**ШАПАВАЛАЎ Еўдакім Іларыёнавіч**—ад калгаснікаў калгаса «Новый мир», Краснадарскага края,

**ЕЎТУШЭНКА Дзімітрый Матвеевіч**—ад Кіеўскай комуністычнай арганізацыі,

**ЮСУПАЎ Усман**—ад Узбекскай комуністычнай арганізацыі.

**Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта СССР**
**М. КАЛІНІН.**

**За сакратара Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта СССР—**
**член прэзідыума ЦВК СССР А. АНДРЭЕЎ.**

Масква, Крэмль, 11 кастрычніка 1937 г.

# З пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта СССР аб выбарчых акругах па выбарах у Совет Саюза і Совет Нацыянальнасцей

На падставе артыкулаў 34 і 35 Канстытуцыі СССР і артыкулаў 21, 22, 23 і 24 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР» ЦВК СССР 11 кастрычніка г. г. пастанавіў стварыць 569 выбарчых акруг па выбарах у Совет Саюза і 574 выбарчыя акругі па выбарах у Совет Нацыянальнасцей.

**Па Беларускай ССР** створаны наступныя выбарчыя акругі:

**А) ПА ВЫБАРАХ У СОВЕТ САЮЗА:**

**Полацкая выбарчая акруга** № 471 (цэнтр—г. Полацк). Горад Полацк і раёны: Полацкі, Ветрынскі, Дрысенскі, Асвейскі, Расонскі і Сіроцінскі.

**Віцебская гарадская выбарчая акруга** № 472 (цэнтр—г. Віцебск). Горад Віцебск і раёны: Мехаўскі, Гарадоцкі і Суражскі (Суражскі местачковы совет і сельсоветы: Суражскі, Запольскі, Пудоцкі, Шаброўскі, Полаўскі, Курынскі, Камароўскі, Астроўскі, Марчанскі і Краўцоўскі).

**Віцебская сельская выбарчая акруга** № 473 (цэнтр—г. Віцебск). Раёны: Віцебскі, Лёзненскі, Багушэўскі, Сенненскі, Бешанковіцкі і Суражскі (Янавіцкі местачковы совет і сельсоветы: Янавіцкі, Батаніцкі, Пышнікоўскі, Станькаўскі, Войтаўскі і Котаўскі).

**Лепельская выбарчая акруга** № 474 (цэнтр—г. Лепель). Горад Лепель і раёны: Лепельскі, Ушацкі, Бягомльскі, Чашніцкі, Халопеніцкі і Плешчаніцкі.

**Аршанская выбарчая акруга** № 475 (цэнтр—г. Орша). Раёны: Аршанскі, Дубровенскі, Талачынскі і Круглянскі.

**Барысаўская выбарчая акруга** № 476 (цэнтр—г. Барысаў). Раёны: Барысаўскі, Смалявіцкі, Крупскі і Бярэзінскі.

**Магілеўская выбарчая акруга** № 477 (цэнтр—г. Магілеў). Горад Магілеў і раёны: Магілеўскі, Бялыніцкі і Шклоўскі.

**Горацкая выбарчая акруга** № 478 (цэнтр—г. Горкі). Раёны: Крычаўскі, Чавускі, Мсціслаўскі, Дрыбінскі і Горацкі.

**Клімавіцкая выбарчая акруга** № 479 (цэнтр—г. Клімавічы). Раёны: Клімавіцкі, Хоцімскі, Касцюковіцкі, Чэрыкаўскі, Чырвонапольскі і Прапойскі.

**Менская гарадская выбарчая акруга** № 480 (цэнтр—г. Менск). Горад Менск.

**Менская сельская выбарчая акруга** № 481 (цэнтр—г. Менск). Раёны: Менскі, Лагойскі, Заслаўскі, Уздзенскі і Смілавіцкі.

**Асіпавіцкая выбарчая акруга** № 482 (цэнтр—г. Асіпавічы). Раёны: Асіпавіцкі, Чэрвеньскі, Пухавіцкі, Старадарожскі і Клічаўскі.

**Бабруйская выбарчая акруга** № 483 (цэнтр—г. Бабруйск). Раёны: Бабруйскі, Кіраўскі, Глускі і Парыцкі.

**Рагачоўская выбарчая акруга** № 484 (цэнтр—г. Рагачоў). Раёны: Жлобінскі, Рагачоўскі, Журавіцкі і Быхаўскі.

**Слуцкая выбарчая акруга** № 485 (цэнтр—г. Слуцк). Горад Слуцк і раёны: Слуцкі, Грэскі, Капыльскі, Чырвонаслабодскі, Старобінскі і Любаньскі.

**Мазырская выбарчая акруга** № 486 (цэнтр—г. Мазыр). Горад Мазыр і раёны: Мазырскі, Даманавіцкі, Капаткевіцкі, Петрыкаўскі, Жыткавіцкі, Тураўскі і Лельчыцкі.

**Рэчыцкая выбарчая акруга** № 487 (цэнтр—г. Рэчыца). Раёны: Рэчыцкі, Хойніцкі, Нараўлянскі, Ельскі, Камарынскі і Брагінскі.

**Гомельская гарадская выбарчая акруга** № 488 (цэнтр—г. Гомель). Горад Гомель і раёны: Веткаўскі, Свяцілавіцкі, Чачэрскі і Кармянскі.

**Гомельская сельская выбарчая акруга** № 489 (цэнтр—г. Гомель). Раёны: Гомельскі, Лоеўскі, Уваравіцкі, Буда-Кашалёўскі, Добрушскі і Церахоўскі.

## Б) ПА ВЫБАРАХ У СОВЕТ НАЦЫЯНАЛЬНАСЦЕЙ АД БЕЛАРУСКАЙ ССР:

**Полацкая выбарчая акруга** № 51 (цэнтр—г. Полацк). Горад Полацк і раёны: Полацкі, Дрысенскі, Асвейскі і Расонскі.

**Віцебская гарадская выбарчая акруга** № 52 (цэнтр—г. Віцебск). Горад Віцебск і раёны: Лёзненскі, Суражскі (местачковы совет Янавіцкі і сельсоветы: Янавіцкі, Батаніцкі, Пышнікоўскі, Станькаўскі, Войтаўскі і Котаўскі).

**Віцебская сельская выбарчая акруга** № 53 (цэнтр—г. Віцебск). Раёны: Віцебскі, Мехаўскі, Гарадоцкі, Сіроцінскі, Суражскі (местачковы совет Суражскі і сельсоветы: Суражскі, Запольскі, Пудоцкі, Шаброўскі, Полаўскі, Курынскі, Камароўскі, Астроўскі, Марчанскі і Краўцоўскі).

**Лепельская выбарчая акруга** № 54 (цэнтр—г. Лепель). Горад Лепель і раёны: Лепельскі, Ветрынскі, Ушацкі і Чашніцкі.

**Аршанская гарадская выбарчая акруга** № 55 (цэнтр—г. Орша). Горад Орша і раёны: Талачынскі, Бешанковіцкі і Сенненскі.

**Аршанская сельская выбарчая акруга** № 56 (цэнтр—г. Орша). Раёны: Аршанскі, Дубровенскі, Багушэўскі і Круглянскі.

**Барысаўская гарадская выбарчая акруга** № 57 (цэнтр—г. Барысаў). Горад Барысаў і раёны: Халопеніцкі, Бягомльскі, Плешчаніцкі і Лагойскі.

**Барысаўская сельская выбарчая акруга** № 58 (цэнтр—г. Барысаў). Раёны: Барысаўскі, Смалявіцкі, Крупскі і Бярэзінскі.

**Горацкая выбарчая акруга** № 59 (цэнтр—г. Горкі). Раёны: Крычаўскі, Мсціслаўскі, Дрыбінскі і Горацкі.

**Магілеўская гарадская выбарчая акруга** № 60 (цэнтр—г. Магілеў). Горад Магілеў і раёны: Шклоўскі і Бялыніцкі.

**Магілеўская сельская выбарчая акруга** № 61 (цэнтр—г. Магілеў). Раёны: Магілеўскі, Чавускі, Прапойскі і Чэрыкаўскі.

**Клімавіцкая выбарчая акруга** № 62 (цэнтр—г. Клімавічы). Раёны: Клімавіцкі, Хоцімскі, Касцюковіцкі і Чырвонапольскі.

**Быхаўская выбарчая акруга** № 63 (цэнтр—г. Быхаў). Раёны: Быхаўскі, Клічаўскі, Журавіцкі, Кармянскі, Кіраўскі (сельсоветы: Грыбавецкі, Падсельскі, Чыгірынскі, Бераснёўскі, Асаўніцкі, Гарадзецкі і Ляшчынскі).

**Асіпавіцкая выбарчая акруга** № 64 (цэнтр—г. Асіпавічы). Раёны: Асіпавіцкі, Пухавіцкі, Чэрвеньскі і Смілавіцкі.

**Менская гарадская выбарчая акруга** № 65 (цэнтр—г. Менск). Горад Менск.

**Менская сельская выбарчая акруга** № 66 (цэнтр—г. Менск). Прыгарады г. Менска па Магілеўскай і Барысаўскай шасе і раёны Менскі і Заслаўскі.

**Слуцкая гарадская выбарчая акруга** № 67 (цэнтр—г. Слуцк). Горад Слуцк і раёны: Старобінскі, Любаньскі, Глускі і Старадарожскі.

**Слуцкая сельская выбарчая акруга** № 68 (цэнтр—г. Слуцк). Раёны: Слуцкі, Уздзенскі, Капыльскі, Грэскі і Чырвонаслабодскі.

**Бабруйская выбарчая акруга** № 69 (цэнтр—г. Бабруйск). Раёны: Бабруйскі, Парыцкі, Кіраўскі (сельсоветы: Баравіцкі, Капусцінскі, Казуліцкі, Любоніцкі, Мышкоўскі, Падрэцкі, Паўлаўскі, Старцаўскі і Харлапаўскі).

**Жлобінская выбарчая акруга** № 70 (цэнтр—г. Жлобін). Раёны: Жлобінскі, Рагачоўскі і Будакашалёўскі.

**Мазырская гарадская выбарчая акруга** № 71 (цэнтр— г. Мазыр). Горад Мазыр і раёны: Мазырскі, Даманавіцкі, Нараўлянскі і Хойніцкі.

**Мазырская сельская выбарчая акруга** № 72 (цэнтр—г. Мазыр). Раёны: Жыткавіцкі, Тураўскі, Лельчыцкі, Петрыкаўскі, Капаткевіцкі і Ельскі.

**Рэчыцкая выбарчая акруга** № 73 (цэнтр—г. Рэчыца). Раёны: Рэчыцкі, Лоеўскі, Брагінскі і Камарынскі.

**Гомельская гарадская выбарчая акруга** № 74 (цэнтр—г. Гомель). Горад Гомель і раёны: Добрушскі і Церахоўскі.

**Гомельская сельская выбарчая акруга** № 75 (цэнтр—г. Гомель). Раёны: Гомельскі, Уваравіцкі, Веткаўскі, Свяцілавіцкі і Чачэрскі.

**Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта СССР.**
**М. КАЛІНІН**

**За сакратара Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта СССР—член прэзідыума ЦВК СССР**
**А. АНДРЭЕЎ.**

Масква, Крэмль, 11 кастрычніка 1937 г.

# Роля большэвіцкага друку ў падрыхтоўцы да выбараў у Вярхоўны Совет

Ленін і Сталін заўжды высока цанілі друкаванае слова. Друк—гэта сугуба партыйная справа.

> «Друк—адзіная зброя, пры дапамозе якой партыя штодзённа, штогадзінна гаворыць з рабочым класам на сваёй, патрэбнай ёй мове. Іншых сродкаў працягнуць духоўныя ніці паміж партыяй і класам, іншага такога гібкага апарата ў прыродзе не існуе».

Гэтыя геніяльныя словы вялікага Сталіна—правадыра і настаўніка нашай партыі і ўсіх працоўных—неабходна моцна ўясніць кожнаму і асабліва цяпер, у перыяд падрыхтоўкі да выбараў у вярхоўныя органы краіны па новай Сталінскай Канстытуцыі, калі друк павінен адыгрываць агромную ролю.

Пастановай Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта СССР дзень выбараў у Вярхоўны Совет прызначан **на 12 снежня** 1937 года.

Уся наша большэвіцкая партыя, уся совецкая краіна і яе народ з энтузіязмам рыхтуюцца да гэтага дня. Зараз завяршаецца ўся падрыхтоўчая работа па арганізацыі выбарчых акруг і ўчасткаў. Рыхтуюцца памяшканні, складаюцца спісы выбаршчыкаў, праводзіцца палітмасавая работа сярод насельніцтва.

Сталінская Канстытуцыя і Выбарчы закон у мільёнах экземпляраў выданы нашымі выдавецтвамі. Гэтыя важнейшыя дакументы сталінскай эпохі чытаюцца і вывучаюцца многамільённым насельніцтвам нашай радзімы з велізарнай актыўнасцю і захапленнем.

Рабочыя і работніцы, калгаснікі і калгасніцы, працоўная інтэлігенцыя, чырвонаармейцы—увесь совецкі народ перажывае зараз нябачаны палітычны ўздым. У выбарах у Вярхоўны Совет прыме ўдзел каля ста мільёнаў грамадзян нашай квітнеючай соцыялістычнай радзімы.

Выбары ў Вярхоўны Совет СССР і дваццатая гадавіна Вялікай соцыялістычнай рэволюцыі па сутнасці з'яўляюцца адной вялікай датай, бо кожнаму зразумела, што толькі ў выніку Вялікага Кастрычніка наша краіна за дваццаць год здолела ўстанавіць самую дэмакратычную ў свеце Канстытуцыю.

Веліч Сталінскай Канстытуцыі і Выбарчага закона павінен штодзенна паказваць наш друк, як калектыўны прапагандыст, агітатар і арганізатар. Рэспубліканскія, акруговыя і раённыя газеты, шматтыражкі і насценны друк на канкрэтных фактах і прыкладах з жыцця свайго горада, раёна, сельсовета, завода, фабрыкі, калгаса павінны адлюстраваць дасягнутыя перамогі на ўсіх участках соцыялістычнага



будаўніцтва, настойліва і смела выкрываць ворагаў народу, шкоднікаў, шпіёнаў, дыверсантаў, якія будуць імкнуцца прабрацца ў члены вярхоўных органаў краіны, выкарыстаць выбары ў сваіх контррэвалюцыйных мэтах.

Пярвейшы абавязак газеты—рашуча змагацца за палепшанне работы советаў, іх секцый і іншых масавых арганізацый, паказваць лепшыя ўзоры і выкрываць недахопы ў совецкай рабоце, папулярызаваць на сваіх старонках лепшых людзей, кандыдатуры якіх могуць быць выстаўлены пры выбарах у советы.

Узмацненне партыйнага кіраўніцтва друкам—адна з важнейшых задач кожнай партарганізацыі. Сакратары і члены райкомаў і парткомаў абавязаны штодзённа цікавіцца сваёй газетай, самі пісаць ў газету і прыцягваць да ўдзелу ў газеце ўсіх кіруючых работнікаў раёна, прадпрыемства, калгаса, соўгаса. Яны павінны ставіць перад рэдактарам актуальныя пытанні, дапамагчы яму наладзіць сістэматычнае асвятленне ходу і падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны Совет СССР па кожнай установе, прадпрыемству, калгасу, соўгасу свайго раёна.

Кожны партыйны кіраўнік павінен добра памятаць указанне цэнтральнага органа нашай партыі—газеты «Правда»:

> «Мала мець у раёне газету! Трэба, каб палітычная лінія газеты была бездакорнай, каб кожны нумар, кожны надрукаваны матар'ял умацоўваў совецкі лад, наносіў бязлітасны ўдар ворагам партыі і народу. Вострасць, аўтарытэт, сувязь з масамі і ўплыў большэвіцкай газеты перш за ўсё і раней за ўсё залежаць ад таго, як яна ўмее біць ворагаў, выкрываць трацкісцка-бухарынскіх здраднікаў, быць вернаю зброяй Сталінскага Цэнтральнага Камітэта партыі і Совецкага Ўрада.
>
> Мала мець у раёне газету! Трэба, каб яна да апошняга радка рабілася чыстымі, чэснымі рукамі партыйных і непартыйных большэвікоў, каб яна апіралася ў раёне на найшырэйшыя колы партыйнага і беспартыйнага актыва, стаханаўцаў і ўдарнікаў заводаў і палёў. Ні адзін палітычна няпэўны чалавек не мае права на супрацоўніцтва ў газеце. А спробы, надзеўшы лічыну рабкора або селькора, пралезці, выкарыстаць нашы раённыя газеты вораг робіць.
>
> Мала мець у раёне газету! Трэба па-майстэрску, так, як гэтаму вучыў Ленін, так, як гэтаму нястомна вучыць таварыш Сталін, уладаць і кіраваць гэтай выдатнай па сваёй сіле і ўплыву партыйнай зброяй. Кіраваць цяпер без газет ніяк нельга. Гэта трэба добра памятаць кожнаму партыйнаму работніку і актывісту. Партыйны работнік, які гэтага не разумее, не варты высокага звання большэвіцкага кіраўніка».

Зараз задача друку—палітычна падрыхтаваць і павесці на выбары ўсіх нашых выбаршчыкаў пад лозунгамі Леніна і Сталіна. У гэтай справе роля большэвіцкага друку выключна вялікая.

Выбары дэпутатаў у Вярхоўны Совет будуць праводзіцца па выбарчых акругах. Кожная такая акруга будзе ахапляць некалькі раёнаў. Зусім зразумела, што раённым газетам, дзе будуць выбарчыя акругі, прыдзецца шмат папрацаваць над тым, каб з гонарам выканаць задачы, пастаўленыя перад імі партыяй. Газеты павінны шырока разгарнуць масава-палітычную работу сярод працоўных мас, стаць са-

праўды большэвіцкім агітатарам і арганізатарам ва ўсёй выбарчай кампаніі.

Вось чаму зараз кожны раённы камітэт партыі, кожны партком завода, фабрыкі павінны паставіць перад сабою пытанне: ці падрыхтавана іх газета да выканання сваёй буйнейшай палітычнай ролі.

А падрыхтаванасць нашага раённага нізавога друку яшчэ і цяпер, напярэдадні выбараў, трэба сказаць, вельмі слабая. Такія раёны, як Гомель, Віцебск, Магілеў, Барысаў і нават Менск, дзе будуць цэнтры выбарчых акруг, не маюць нават сталых рэдактароў раённых газет. Ва ўсіх цэнтрах выбарчых акруг яшчэ не праверацы і не падабраны сакратары рэдакцый, не кажучы ўжо пра астатнія кадры газетных работнікаў, падборам якіх яшчэ не зацікавіліся ні раённыя камітэты партыі, ні аддзел друку ЦК КП(б)Б.

«Правда» ад 5 кастрычніка ў перадавым артыкуле піша, што ў агромнай колькасці раённых газет няма рэдактароў, што газеты месяцамі падпісваюць «ч.в.а.», наместнікі і т. д., што сярод раённых рэдактароў не мала галавацяпаў, якія дапускаюць скажэнні лініі партыі і савецкага ўрада, што ў раённых рэдакцыях ёсць яшчэ элементы, якія скарыстоўваюць непадрыхтаванасць і няграматнасць рэдактароў для антыпартыйнай, антысавецкай прапаганды. Гэта характарыстыка цалкам адносіцца і да раённых газет БССР.

Задача райкомаў партыі і аддзела друку ЦК КП(б)Б—карэнным чынам змяніць абстаноўку ў раённым друку, падабраць неабходныя кадры, неадкладна праверыць і зацвердзіць рэдактароў і сакратароў, у першую чаргу газет, якія выходзяць у цэнтрах выбарчых акруг. Гэта задача павінна быць выканана літаральна ў бліжэйшыя некалькі дзён.

Наш раённы друк не можа сказаць, што ён як след выконвае задачу прапаганды Сталінскай Канстытуцыі і Выбарчага закона сярод шырокіх мас працоўных. Узяць, напрыклад, газету «Ленінскі шлях» Лёзненскага раёна. Калі райком партыі і яго сакратар Бугроў яшчэ нічога не зрабілі для вывучэння Выбарчага закона, то рэдактара газеты «Ленінскі шлях» Гарбарова гэта зусім не турбуе. Больш месяца прайшло з дня апублікавання Выбарчага закона, а газета змясціла толькі 3—4 агульныя артыкулы, хоць ёй добра вядома, што ў большасці калгасаў і сельсоветаў раёна не вывучалася палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет, што выязджаўшыя ў калгасы раённыя работнікі не здолелі адказаць калгаснікам на элементарныя пытанні аб арганізацыі выбараў. Рэдактар тав. Гарбароў не палічыў патрэбным узняць гэта пытанне на старонках газеты, каб выкарчаваць бюракратычныя метады Лёзненскага райкома партыі ў справе арганізацыі вывучэння новага Выбарчага закона. Не лепш працуюць газеты Мехаўскага, Бешанковіцкага, Ельскага і іншых раёнаў. Калі яны не возьмуцца па-большэвіцку за работу, то не здолеюць узначаліць узрослую ў сувязі з выбарамі актыўнасць мас.

Падрыхтоўка да выбараў у Вярхоўны Совет СССР—большэвіцкі экзамен для ўсяго нашага друку і кожнага яго работніка. Нельга забываць, што ворагі народу, яшчэ не выгнаныя з нашых газет, у час выбарчай кампаніі будуць спрабаваць прасунуць-у друк свае варожыя ідэі пад выглядам «памылак друку», апісак, перастаноўкі слоў і т. п. Гэтым спробам трэба даць своечасова большэвіцкі адпор.

Ужо зараз ворагі, умела маскуючыся, пачынаюць сям-там выкарыстоўваць падрыхтоўку да выбараў у сваіх контррэволюцыйных

мэтах. Задача друку—сарваць маску з ворагаў народу, з верных псоў фашызма—япона-германа-польскіх шпіёнаў, трацкістаў, бухарынцаў і нацфашыстаў, каб не даць магчымасці ні ім, ні іхным падгалоскам пранікнуць у вярхоўныя органы краіны.

Наша партыя будзе дабівацца, каб у Советы былі абраны лепшыя людзі краіны. Друк у гэтай важнейшай справе, як і заўсёды, павінен быць надзейным памочнікам партыі, заўсёды ўзброеным большэвіцкай, рэволюцыйнай пільнасцю.

Наш друк, які нясе ў народныя гушчы большэвіцкае слова ленінска-сталінскай партыі, павінен апраўдаць і апраўдае сваю ролю калектыўнага агітатара, прапагандыста і арганізатара.

Выбары ў Вярхоўны Совет СССР з'явяцца новай дэманстрацыяй давер'я, найвялікшай любві совецкага народу да сваёй цудоўнай радзімы, да сваёй большэвіцкай партыі, да свайго любімага правадыра, друга і настаўніка—таварыша Сталіна.

---

Рохкінд і Шамес

# Выканаць пастанову ЦК ВКП(б) аб прыёме ў партыю

Рашэнне ЦК ВКП(б) аб аднаўленні прыёму ў партыю павысіла адказнасць партыйных камітэтаў за палітычнае выхаванне кожнага непартыйнага большэвіка. Партарганізацыі абавязаны былі павесці сапраўды большэвіцкую палітвыхаваўчую работу сярод рабочых, добра вывучыць людзей з тым, каб у рады партыі прыняць лепшых. Тым часам партарганізацыі дапусцілі ў гэтай справе шкодную спешку і кампанейшчыну. Пасля таго як Цэнтральны Камітэт папярэдзіў аб недапушчэнні падобных памылак, некаторыя партарганізацыі кінуліся ў другую, не менш шкодную крайнасць: калі патрэбен індывідуальны падыход і пільная праверка, то лепш нікога не прымаць, будзе куды спакайней. Гэтыя разважанні нічога агульнага не маюць з большэвізмам. Так разважаюць толькі людзі, якія большэвіцкую пільнасць імкнуцца падмяніць дробнабуржуазнай трусасцю.

Прыём у партыю па Менскай партарганізацыі знаходзіцца іменна ў такім становішчы. Многія партыйныя кіраўнікі не зразумелі важнасці рашэння ЦК ВКП(б) і ў адносінах да прыёму ў партыю праяўляюць прамы сабатаж.

Тым часам на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва выраслі тысячы непартыйных большэвікоў, да канца адданых ідэям комунізма. Іх заветная мара—уступіць у рады вялікай партыі Леніна—Сталіна. Яны разумеюць, што няма больш высокага звання, як званне члена большэвіцкай партыі, што няма большага гонару, як гонар знаходзіцца ў радах той партыі, якая пад сцягам Леніна—Сталіна беззаветна змагаецца за канчатковую перамогу комунізма.

У справе выхавання лепшых, праверaных, адданых партыі непартыйных большэвікоў і падрыхтоўкі іх да прыёму ў партыю Менскі гарком і райкомы зрабілі вельмі мала. Па ўсіх пярвічных партарганізацыях горада паступіла ўсяго 85 заяў аб прыеме ў кандыдаты партыі. Пры разглядзе гэтых заяў ствараецца недапушчальная валакіта. Даволі сказаць, што партарганізацыі «паспелі» разгледзець толькі 19 заяў, райкомы—17, а гарком партыі—усяго 5. Гэта значыць, што за час пасля апублікавання пісьма ЦК ВКП(б) у кандыдаты партыі прынята толькі 4 чалавекі. Так безадказна адносяцца партыйныя кіраўнікі да прыёму ў партыю.

Наша соцыялістычная краіна мае невычарпальныя рэзервы непартыйных большэвікоў, якіх зрадніла з партыяй сумесная творчая работа, адданасць справе соцыялізма, клопаты аб росквіце нашай краіны.

Не лепш пастаўлена справа пераводу кандыдатаў у члены партыі. У Менскай партарганізацыі—1.494 кандыдаты партыі з кандыдацкім стажам ад 5 да 7 год. З усёй гэтай паўтаратысячнай арміі кандыдатаў пададо заявы аб пераводзе ў члены партыі толькі 169 чалавек. Прычым з паданых заяў пярвічныя партарганізацыі разабралі 58, райкомы—44, а гаркомы—усяго 20. Сталінскі райком за ўвесь час прыняў у партыю двух чалавек і перавёў з кандыдатаў у члены партыі 10 чалавек. Многія партарганізацыі гэтага раёна не прынялі ў кандыдаты і не перавялі ў члены партыі ні аднаго чалавека. Сюды адносяцца такія буйныя вытворчыя арганізацыі, як МГС-2, Мясакамбінат, Спіртзавод, Аўтарэмстанцыя, усе навукова-даследчыя і савецкія арганізацыі: Акадэмія Навук, Наркомлес, пошта, тэлеграф, АТС і інш.

Павольны рост партарганізацый з'яўляецца вынікам слабой арганізацыйна-палітычнай работы ў масах і ў першую чаргу з беспартыйным актывам. Ні сакратары, ні члены парткома, ні агітатары, якія працуюць у масах, не ведаюць добра беспартыйнага актыва. Работа са спачуваючымі зусім закінута. За апошні год колькасць спачуваючых у раёне нават скарацілася з 250 да 229 чалавек. У радзе партарганізацый (тэлеграф, электрапром і інш.) зусім няма груп спачуваючых.

Многія парткомы і парторгі прыём у партыю пусцілі самацёкам, таму сярод пераведзеных у члены партыі зусім нязначны процант рабочых, недапушчальна затрымліваюць разгляд і афармленне матар'ялаў аб прыёме, праяўляюць палітычную бесклапотнасць, прымаючы ў партыю людзей неправераных, выклікаючых сумненне.

Бюро райкомаў своечасова не выпраўляюць дапушчаныя партарганізацыямі памылкі, не дапамагаюць ім наладзіць работу па падрыхтоўцы ў партыю.

Асабліва дрэнна пастаўлена гэта справа на заводзе імя Варашылава. Са спачуваючымі і кандыдатамі партыі партком зусім не працуе, ігнаруючы работу па прыёму і пераводу ў члены партыі. У партком паступіла толькі 2 заявы аб пераводзе ў члены партыі, але ні адна яшчэ не разгледжана. Партыйны камітэт зусім адарваўся ад беспартыйнага актыва, дрэнна кіруе комсамольскай арганізацыяй.

Ва многіх арганізацыях, дзе слаба пастаўлена палітычная работа ў масах, дзе не ведаюць актыва, дзе пагардліва адносяцца да выхавання спачуваючых і комсамольцаў, прыём у партыю фактычна закрыты, бо жадаючыя ўступіць у партыю не могуць атрымаць рэкамендацыю. Было-б няправільным, вядома, даваць рэкамендацыю па якой-небудзь старой сувязі, не ведаючы, што зараз прадстаўляе сабою чалавек. Але таксама далёкі ад большэвізма і труслівая перастрахоўка, безадказная боязнь рэкамендаваць чалавека, вартага быць у радах партыі. Ганьба для арганізацыі, калі яна гатова прыняць у партыю рабочага-стаханаўца, але не мае магчымасці зрабіць гэта, бо члены партыі баяцца за яго паручыцца. Ясна, што ў такой арганізацыі комуністы адарваны ад беспартыйных, не ведаюць сваіх лепшых актывістаў.

Некаторыя парткомы настолькі бюракратычна адносяцца да работы з кандыдатамі і спачуваючымі, што адштурхваюць іх ад партыі.

На скурзаводзе «Большэвік» у ліпені гэтага года быў такі выпадак. Кандыдат партыі з 1931 г. тав Наточын А. падаў заяву аб выхадзе з партыі. Хто такі Наточын. Можа ён варожы чалавек і баіцца партыі? Аказваецца, што тав. Наточын—рабочы з 25-гадовым вытворчым

стажам, 18 год працуе на заводзе «Большэвік», з якіх 10 год— майстрам зольнага аддзела 2-га хромавага цэха. Тав. Наточын падаў заяву аб выхадзе з партыі з-за нячулых да яго адносін парткома і сакратара Мінкіна, якія за апошні год зусім не займаліся ім і адштурхнулі ад партыі.

Работа з кандыдатамі партыі на заводзе забыта. Многія кандыдаты нідзе не вучацца. Кандыдат партыі тав. Максімаў, залічаны ў ВСПШ, у мінулым годзе толькі два разы быў на занятках, а сёлета ні разу не наведаў школу.

За 1937 год многія кандыдаты партыі з 40 заняткаў у ВСПШ наведалі ад 11 да 20. У стаханаўскай школе кандыдат Богарад не займаецца са студзеня. Шамес Б., Рагозін наведалі 20—27 заняткаў з 52. Няма ніводнага кандыдата, які-б рэгулярна наведваў гурток. Пачынаючы з паловы чэрвеня, кандыдаты партыі наогул нідзе не займаюцца. Усё кіраўніцтва тав. Мінкіна зводзілася да таго, што час ад часу ён выклікаў у партком кандыдатаў і выясняў прычыны няўкі на заняткі.

Кандыдаты не чытаюць партыйных журналаў і мастацкай літаратуры. Толькі некаторыя прачыталі «Як гартавалася сталь» Астроўскага і «Цусіму» Новікава-Прыбоя. Многія кандыдаты яшчэ не чыталі «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР». Рад таварышоў працуе прафоргамі цэхаў, рэдактарамі насценных газет, але партком не дапамагае ім у гэтай рабоце. Калі кандыдат партыі тав. Зархін падаў заяву аб пераводзе ў члены партыі, то партком і заводскі партсход адмовілі яму на той падставе, што ён не выконвае свайго партыйнага даручэння, як рэдактар газеты (з пачатку 1937 г. насценгазета не выходзіла). Пасля партсходу тав. Зархін звярнуўся за дапамогай у партком, да рэдактара шматтыражкі, але ніхто не дапамог, і газета па-ранейшаму не выходзіць.

Ёсць на заводзе і другая група кандыдатаў (тт. Барыбін, Крэндзель, Міхлін, Перавозкін), якая ніякіх даручэнняў не выконвае. На нарадзе кандыдатаў тав. Крэндзель прама заявіў, што зрабіўся пасіўным пасля таго, як яму перасталі даваць заданні.

Такая работа парткома не магла прывіць кандыдатам жаданне рыхтавацца да пераводу ў члены партыі. І зусім не дзіва, што з 27 кандыдатаў толькі 2 падалі заявы аб пераводзе, ды знашліся такія, якія падалі заявы аб выхадзе з партыі.

Не лепш пастаўлена работа на фабрыцы «Окцябр», імя Кагановіча, з-дзе імя Молатава і радзе іншых буйнейшых партарганізацый горада.

Адметнаю рысай большэвікоў была заўсёды іх кроўная сувязь з беспартыйнымі масамі. Партыя заўсёды расла за лік беспартыйнага актыва фабрык і заводаў. За гады, на працягу якіх прыём быў закрыты, усюды накапіўся рэзерв актывістаў, якія горача мараць аб уступленні ў комуністычную партыю. Асабліва гэта адносіцца да комсамола. Сярод комсамольцаў нямала дастойных быць у радах партыі. Ёсць пераросткі—людзі, якія прашлі школу двух пяцігодак. Але і аб гэтым папаўненні радоў партыі думаюць мала. Чым вытлумачыць, што з часу аднаўлення прыёму ў партыю пярвічныя партарганізацыі горада разгледзелі толькі 8 заяў, прынялі ў кандыдаты ўсяго 3 і перавялі ў члены партыі ўсяго 7 комсамольцаў? Адказ шукаць недалёка. Многія кіраўнікі партыйных арганізацый стараюцца ўхіліцца ад прамой адказнасці за ўцягненне ў партыю лепшых, правераных, адданых справе партыі Леніна—Сталіна маладых патрыётаў соцыялістычнай радзімы, загартаваных у барацьбе з ворагамі комунізма. Пара пакон-

чыць з такімі ганебнымі, небольшэвіцкімі адносінамі да прыёму ў партыю.

Партыя ачышчае свае рады ад варожых, чуждых, перарадзіўшыхся элементаў, ад усякай трацкісцкай і правай погані, ад японанямецка-польскіх шпіёнаў, дыверсантаў і шкоднікаў, якія шляхам абману пралезлі ў партыю.

Непахісна выконваючы статут партыі, праводзячы строга індывідуальны адбор, трэба самым рашучым чынам прысякаць усякія элементы кампанейшчыны, шуміхі і лёгкадумных адносін да прыёму ў партыю. Нічога агульнага з большэвізмам не мае агульны, неабдуманы, фармальны падыход да рэкамендацыі, так сама як і безадказная боязнь рэкамендаваць у партыю дастойных людзей. У партыю неабходна прымаць сапраўды лепшых, да канца правераных, палітычна даспелых і беззаветна адданых партыі Леніна—Сталіна людзей.

Многія тысячы рабочых-стаханаўцаў, калгаснікаў, лепшыя людзі з совецкай інтэлігенцыі прагнуць змагацца ў радах большэвіцкай партыі. Задача гаркома, райкомаў і пярвічных партарганізацый— нястомна працаваць над большэвіцкім выхаваннем гэтых людзей, не дапускаючы самацёку ў прыёме новых членаў, цвёрда памятаючы, што партыю трэба берагчы ад засмечвання чуждым элементам, што прымаць у партыю трэба толькі такіх людзей, якія варты пачэснага звання комуніста, члена вялікай партыі Леніна—Сталіна.

Новікава

## Становішча ў Камарынскай партарганізацыі

Камарынскі райком партыі, у прыватнасці былы сакратар яго Сытаў, яўна ігнаравалі рашэнні лютаўска-сакавіцкага Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанні таварыша Сталіна аб аўладанні большэвізмам.

Партыйная прапаганда і агітацыя ў мінулым годзе былі сарваны. Ворагі народу, пралезшы ў рады прапагандыстаў, працягвалі трацкісцкае разуменне асноўных палажэнняў гісторыі партыі. Калі прапагандыст Бімзо сігналізаваў, што Філіпцоў, Танскі, Гаўрык і іншыя слухачы па-трацкісцку тлумачаць асноўныя палажэнні гісторыі партыі, райком на гэта не рэагаваў, не мабілізаваў партарганізацыю на выкарчоўванне ворагаў народу з асяроддзя прапагандыстаў. Райком сарваў завочную вучобу, прызначаючы сходы ў дні заняткаў завочнікаў, або пасылаючы іх упаўнаважанымі ў сельсоветы.

Партвучоба ў раёне стаяла на выключна нізкім ідэйна-палітычным ўзроўні. Вывучаючы гісторыю партыі па 4 гады, слухачы не ведалі яе. Тав. Луфераў так адзываецца аб сваей вучобе: «Гісторыю партыі я не ведаю, хоць чатыры гады вывучаю яе ў гуртку». Работай прапагандыстаў і агітатараў райком партыі зусім не цікавіўся, сакратар райкома ніколі не наведваў заняткі партыйных гурткоў, перадаверыўшы справу партыйнай прапаганды другарадным асобам. Ні адзін гурток па гісторыі партыі не закончыў праграмы, бо яе свядома зрывалі ворагі народу—былы нам. сакратара райкома і некаторыя прапагандысты.

Слаба пастаўлена партмасавая работа. Сходы пярвічных партарганізацый праводзяцца раз у 2—3 месяцы і то без падрыхтоўкі. Аб сходзе комуністы даведваюцца не раней як за дзве—тры гадзіны да пачатку, дакладчыкі прыходзяць непадрыхтаванымі. Сходы праходзяць на нізкім ідэйна-палітычным ўзроўні.

Ворагі народу, прабраўшыся ў кіраўніцтва райкома партыі і райвыканкома, прымянялі да працоўных аднаасобнікаў яўна шкодніцкія, контррэволюцыйныя дзеянні. Улюбёным метадам іх работы з'ўлялася адміністраванне, штрафы, продаж маемасці. За 1936—37 гады па Асарэвіцкаму сельсовету аштрафавана было 75, па Кукаўскаму—45 гаспадарак. Штрафы накладаліся за ўсякую дробязь: за няяўку на прэзідыум сельсовета, за парушэнне парадку, без указання, у чым яно заключалася, і т. п. Падатак налічаўся без уліку даходнасці, з яўна варожым падыходам да гаспадаркі. Райвыканком і ў прыватнасці заг. райфа Танскі зусім свядома праводзілі такую палітыку ў адносінах да аднаасобнага сялянства з мэтай выклікаць яго азлабленне супроць совецкай ўлады, супроць калектывізацыі. Райком партыі ігнараваў аднаасобнікаў, сакратар райкома ніколі не гутарыў з імі. Рашэнне партыі і ўрада аб дапамозе беларускаму сялянству і ліквідацыі вынікаў шкодніцтва сакратар райкома Сытаў і старшыня райвыканкома Саракалетаў проста сабатавалі.

Соўгас імя Молатава створан з яўна шкодніцкай мэтай. Пад соўгас было адрэзана 5 тысяч га ад зямлі калгаснай і зямлі аднаасобнікаў. Для 200 соўгасных кароў няма аборы і неабходных тэхнічных прыстасаванняў для перапрацоўкі малочных прадуктаў. У якасці рабочых соўгас прытуліў у сябе кулакоў і раскулачаных. Зярно ляжыць пад адкрытым небам. Не гледзячы на яўна шкодніцкую ўстаноўку пры арганізацыі соўгаса, раённае кіраўніцтва не паставіла пытання аб яго ліквідацыі.

У раёне ёсць МТС з паркам у 40 трактароў. Ворагі народу давялі гаспадарку да поўнага развалу. Трактары рамантаваліся пашкодніцку і ў большасці прастойвалі ў час пасеўнай і ўборачнай кампаній. Дырэктар—п'яніца Вдавенка—свядома разваліў работу МТС. Яго намеснік Слабко, ён-жа член райкома партыі, не забяспечыў большэвіцкага кіраўніцтва МТС. Аб шкодніцтве на МТС нікому не сігналізаваў, не дабіваўся зняцця з работы дырэктара Вдавенка, дый сам не хоча працаваць. У час уборкі Слабко невядома дзе прападаў 20 дзён, пакінуўшы МТС на волю лёсу. Комуністы не раз заяўлялі на сходах, што ў МТС арудуюць ворагі народу і разлажыўшыяся элементы, але сакратар райкома і старшыня райвыканкома ніякіх мер не прымалі, чым па сутнасці самі дапамагалі ворагам разараць МТС.

Комсамольская арганізацыя, якую ўзначальваў Філіпцоў, засмечана варожымі элементамі. Палітвучоба сарвана. Некаторыя пярвічныя арганізацыі комсамола развалены. У Камарынскай комсамольскай школе пануе групоўшчына, антысемітызм. Філіпцоў, які не забяспечыў большэвіцкага кіраўніцтва комсамолам, быў знят з работы толькі 14 верасня па настаянню комсамольскай арганізацыі і зараз выключан з радоў партыі.

Раённым аддзелам асветы да апошняга часу кіраваў выкрыты зараз вораг народу. Пры непасрэдным удзеле Сытава і Саракалетава ў школы пралазілі варожыя элементы, якія ідэалізавалі трацкісцкафашысцкія лозунгі. Якасць вучобы вельмі нізкая. Процант непаспяваючых у Камарынскай школе за першую чвэрць мінулага года даходзіў да 80. Палітыка-выхаваўчая работа ў школах была закінута. Не гледзячы на поўны развал работы, раённы камітэт партыі ўсяляк васхваляў дырэктара Камарынскай школы Прымачова і па настаянню сакратара Сытава правёў яго ў члены райкома.

Рэдактар раённай газеты «Калгасны сцяг» Аўдзюшын не ператварыў газету ў баявы орган партарганізацыі, не мабілізаваў мас на барацьбу з ворагамі народу. Райком партыі ў работу газеты не ўнікаў. На яе старонках папулярызаваліся контррэволюцыйныя фашысцкія лозунгі, трацкісцкая пашляціна, глушылася здаровая крытыка і самакрытыка, культывавалася падхалімства і ўгодніцтва перад Сытавым і Саракалетавым.

Члены партыі Сцепаненка і Даніленка заяўляюць: «Мы не смелі гаварыць поўным голасам аб усіх бясчынствах у раёне. Нас не толькі не слухалі, але вельмі часта пагражалі вынесці вымову або зняць з работы».

Сытаў і Саракалетаў трымалі цесную сувязь з ворагамі народу, высоўвалі іх на адказныя пасады, разам п'янствавалі. Ужо арыштаванага, як ворага народу, былога нам. сакратара райкома Сытаў не рашаўся выключыць з партыі. Пад сваю апеку ён браў усякія варожыя элементы. Невыпадкова, што ўчотам у райкоме да апошняга часу загадвае нейкі Пенькоў, брат якога расстраляны за контррэво-

люцыйную работу. Сам Сытаў у мінулым працаваў з польскім шпіёнам, наладжваў папойкі з ворагамі народу ў Камарыне.

Калі была выяснена падрыўная, шкодніцкая дзейнасць Сытава, ён прасіў аслабаніць яго ад абавязкаў сакратара, як няспраўіўшагася з работай. Раённы партыйны сход пастанавіў зняць Сытава з работы і выключыць з радоў партыі за сабатаж рашэнняў партыі, за развал партпрапаганды і агітацыі, заціск крытыкі і самакрытыкі, нерэагаванне на заявы комуністаў, комсамольцаў і беспартыйных, за абарону ворагаў народу.

Саракалетаў—былы старшыня РВК—да Камарына працаваў з ворагам народу, пры дапамозе якога атрымаў пасаду намесніка старшыні Магілеўскага райвыканкома. Будучы два гады старшынёю РВК у Камарыне, ён не забяспечыў большэвіцкага кіраўніцтва раёнам, яўна сабатаваў рашэнні партыі і ўрада, дапусціў вялікую засмечанасць апарата РВК і сельсоветаў. Пад «кіраўніцтвам» Саракалетава праводзілася шкодніцкая палітыка ў адносінах да аднаасобнікаў. Саракалетаў адарваўся ад мас, дапусціў развал работы МТС. За ўсё гэта раённы партыйны сход выключыў яго з партыі. Партсход выключыў з партыі і былога загадчыка райфа Танскага за яўна варожую лінію ў падатковай палітыцы і сабатаж рашэнняў партыі і ўрада.

Партыйны сход зрабіў большэвіцкія вывады ў адносінах усіх, хто пасмеў сабатаваць рашэнні партыі і ўрада.

Новае кіраўніцтва райкома і ўся партыйная арганізацыя абавязаны тэрмінова прымаць канкрэтныя меры па ліквідацыі вынікаў шкодніцтва, усіх недахопаў у рабоце партыйных і савецкіх арганізацый раёна і безагаворачна выканаць сталінскі дэкрэт аб дапамозе беларускаму калгаснаму сялянству.

---





**Фролаў**

Нач. палітаддзела Аршанскага аддз. Зах. чыгункі

# Партпрапаганда і палітагітацыя—магутная зброя ў выхаванні кадраў

Лютаўска-сакавіцкі пленум ЦК ВКП(б) заклікаў партыйныя арганізацыі рашуча пакончыць з бесклапотнасцю ў справе палітычнага выхавання кадраў.

Таварыш Сталін з выключнай яснасцю фармуляваў значэнне лозунга аўладання большэвізмам:

> «Я думаю, што калі-б мы змаглі, калі-б мы здолелі нашы партыйныя кадры, знізу даверху, падрыхтаваць ідэалагічна і загартаваць іх палітычна такім чынам, каб яны маглі свабодна арыентавацца ва ўнутранай і міжнароднай абстаноўцы, калі-б мы здолелі зрабіць іх зусім зрэлымі ленінцамі, марксістамі, здольнымі вырашаць без сур'ёзных памылак пытанні кіраўніцтва краінай, то мы вырашылі-б гэтым дзевяць дзесятых усіх нашых задач».

Такая вострая пастаноўка пытання аб палітычным выхаванні кадраў прадыктавана ўсёй сучаснай міжнароднай і ўнутранай абстаноўкай.

Партыйныя арганізацыі Аршанскага аддзялення Заходняй чыгункі, вывучаючы рашэнні пленума і ўказанні таварыша Сталіна, шырока разгарнулі работу ў галіне партасветы.

На верасень гэтага года па аддзяленню працуюць 56 партыйна-комсамольскіх гурткоў палітычнага навучання і 18 гурткоў па гісторыі ВКП(б). Гэтымі гурткамі ахоплена 112 членаў партыі, 63 кандыдаты, 19 спачуваючых і 25 комсамольцаў.

У 7 гуртках палітграматы вучыцца 10 членаў партыі, 25 кандыдатаў, 29 спачуваючых і 6 комсамольцаў.

У 4 школах палітгутарак вучыцца 6 членаў партыі, 15 кандыдатаў, 28 спачуваючых і 1 комсамолец.

У вузлавой школе малапісьменных—17 комуністаў.

Па сетцы завочнага партыйнага навучання (БІМЗО пры ЦК КП(б)Б)—37 чалавек партактыва.

Па лініі палітычнага выхавання комсамольцаў маем 10 гурткоў па гісторыі ВКП(б) на 190 чалавек і 18 гурткоў па палітграмаце на 284 чалавекі. Працуе школа комсамольскага актыва вузла на 18 чалавек.

Усе партыйна-комсамольскія прапагандысты паўторна правераны. За страту палітычнай пільнасці і якшанне з ворагамі народу знят з

работы і выключан з партыі былы прапагандыст паравознага дэпо. За пасобніцтва ворагам народу зняг з работы і выключан з комсамола комсамольскі прапагандыст.

Вузел мае добра арганізаваныя гурткі:

На вагонным участку добра працуе гурток па гісторыі ВКП(б)— прапагандыст тав. Сенчыла. Усе 17 членаў гуртка рэгулярна рыхтуюцца да заняткаў. Тт. Касцюкевіч, Кляўза, Данілаў акуратна наведваюць парткабінет. Сам. тав. Сенчыла заўсёды прыходзіць падрыхтаваным, займаецца на прапагандысцкім семінары.

Дыстанцыя сувязі Орша добра паставіла вучобу ў школе па гісторыі ВКП(б). 15 чалавек акуратна наведваюць школу, старанна канспектуюць вучэбны матар'ял. Прапагандыст тав. Грушанаў умела скарыстоўвае на занятках наглядны матар'ял. Лепшыя слухачы: тт. Крысіна, Гронскі, Малкаў, Юрчанка, Магірка.

У паравозным дэпо доўгі час арудвала шайка ворагаў народу. Яны зараз выкрыты і ізаляваны органамі НКУС. Былыя партыйныя кіраўнікі паравознага дэпо глуха адносіліся да сігналаў радавых комуністаў. Стары рабочы, член партыі тав. Рэменчус дзесяткі раз сігналізаваў аб шкодніцтве ў паравозным дэпо. Ворагі, што сядзелі ў партыйным кіраўніцтве, пастараліся гэтага чэснага рабочага абярнуць у склочніка, у няўжыўчывага комуніста і перакідалі яго з месца на месца. Прапагандыст паравознага дэпо Мішкін абыякава глядзеў на дрэнную пастаноўку партвучобы і такім чынам дапамагаў яе разваліваць. Мішкін зняг з работы, атрымаўшы партыйнае спагнанне— суровую вымову з папярэджаннем.

Прапагандысцкія семінары для партыйных і комсамольскіх прапагандыстаў з адрывам ад вытворчасці праводзяцца рэгулярна 2 разы ў месяц. Але, не гледзячы на ўсе магчымасці, індывідуальная кансультацыя прапагандыстаў перад заняткамі арганізавана дрэнна.

Парткабінет забяспечвае ўсіх прапагандыстаў падручнікамі і геаграфічнымі картамі.

За апошні час вырасла значная колькасць прапагандыстаў: тт. Сенчыла, Гонакаў, Лагойскі, Грушанаў, Арэф'еў, Балакін і інш. Аднак парткомы слаба імі кіруюць. Неабходна рэзка палепшыць якасць вучобы, павысіць наведванне слухачамі гурткоў.

Па аддзяленню праведзен рад палітыка-масавых мерапрыемстваў. На аднадзенным семінары пуцявыя абходчыкі 5, 6, 7 і 15 дыстанцый пуці з вялікай цікавасцю знаёміліся з некаторымі метадамі каварнай дзейнасці замежнай разведкі і контрразведкі. Абходчыкі забяспечаны літаратурай.

Рэгулярна праводзяцца двухдзенныя семінары чытчыкаў і агітатараў. На семінарах вывучаюцца рашэнні лютаўска-сакавіцкага пленума ЦК ВКП(б), Палажэнне аб выбарах у вярхоўныя органы ўлады, разведка і контрразведка, пастанова СНК СССР і ЦК ВКП(б) аб ліквідацыі вынікаў шкодніцтва і дапамозе калгаснаму сялянству Беларусі.

Асобную ўвагу партарганізацыя вузла ўдзяляе вывучэнню «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР». З гэтай мэтай у верасні арганізавана 68 гурткоў, якімі ахоплена 2555 чалавек. Аднак не ўсе рабочыя ахоплены гурткамі. Партыйнае кіраўніцтва павінна арганізаваць семінары і кансультацыі, каб ахапіць усіх рабочых і членаў іх сямей, асабліва лінейных станцый. На-жаль, тэрытарыяльныя партарганізацыі ўдзяляюць гэтаму ма́ла ўвагі.

Парткабінет забяспечыў усіх 185 чытчыкаў літаратурай (даклад і заключнае слова таварыша Сталіна на VIII з'ездзе Советаў і на лю-

тэўска-сакавіцкім пленуме ЦК ВКП(б), Канстытуцыі СССР і БССР, «Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР», геаграфічныя атласы і брашуры «разведка і контрразведка»).

За кароткі час у нас выраслі добрыя агітатары-бяседчыкі тт. Каршуноў, Васільеў, Мураўёў, Швабо і інш. Аднак парткомы павінны карэнным чынам палепшыць сваё кіраўніцтва, дапамагчы ва ўмацаванні агіткалектываў, у правядзенні рэгулярных заняткаў. Недастатковае веданне людзей, забыццё палітычнай работы былым кіраўніцтвам палітаддзела прывяло да засмечання агітатараў.

Партарганізацыя Аршанскага аддзялення павінна яшчэ лепш паставіць справу марксісцка-ленінскай прапаганды і агітацыі, каб выхаваць партыйных і непартыйных большэвікоў у духу вернасці пралетарскаму інтэрнацыяналізму, у духу большэвіцкай пільнасці і непрымірымасці да ворагаў народу. Неабходна цвёрда памятаць, што пільнасць—гэта перш за ўсё ідэйнае ўзбраенне комуністаў, аўладанне вучэннем Леніна—Сталіна, гэта ўменне выкрываць і зніштажаць трацкісцка-правых, германа-япона-польскіх шпіёнаў і дыверсантаў, буржуазных нацыяналістаў розных масцей.

———————

Казіміраў

# Як мы перабудоўваем партмасавую работу

Чатыры месяцы назад комуністы Крычаўскай партарганізацыі на справаздачна-перавыбарчым сходзе моцна крытыкавалі кіраўніцтва райкома партыі за адарванасць ад пярвічных партарганізацый, за слабую масава-палітычную работу па ажыццяўленню рашэнняў лютаўскага пленума ЦК ВКП(б) і даклада таварыша Сталіна. Па заслугах крытыкавалі яны работу інструктароў райкома і кіраўнікоў пярвічных партарганізацый.

Прамысловасць Крычава, чыгуначны транспарт, калгасы не выходзілі з прарываў. Адно з буйнейшых прадпрыемстваў БССР—Крычаўскі цэментны завод з квартала ў квартал не дадаваў дзяржаве сотні тон цэменту, так неабходнага новабудоўлям СССР. За сем месяцаў запазычанасць дзяржаве выразілася ў 1000 тон цэменту.

Новаму кіраўніцтву райкома партыі прышлося многа ўвагі ўдзяліць цэментнаму заводу. Адной з важнейшых прычын прарываў аказалася слабасць масава-палітычнай работы, очкаўцірацельства дырэктара Цімафеева, засмечанасць завода ворагамі народу, шпіёнамі, дыверсантамі, якія выводзілі машыны са строю, каб выклікаць прастоі.

У апошні час праведзены два сходы заводскага актыва, прынят рад мер па разгортванню масава-выхаваўчай работы, стаханаўскага руху і ачысткі завода ад ворагаў народу.

У сваім пісьме наркому цяжкай прамысловасці тав. Кагановічу, якое падпісалі больш 600 лепшых рабочых і інжынерна-тэхнічных работнікаў, цэментнікі Крычава абавязаліся зрабіць свой завод перадавым прадпрыемствам цэментнай прамысловасці, ліквідаваўшы недахопы і запазычанасць дзяржаве. За гэта абавязацельства зараз змагаецца заводскі калектыў.

Ва ўстановах і прадпрыемствах раёна, на чыгуначным вузле да апошняга часу сядзела не мала шпіёнаў, дыверсантаў і шкоднікаў. За апошнія чатыры месяцы партарганізацыя выкрыла 12 чалавек. Прыкрываючыся службовым становішчам і партыйным білетам, гэтыя ворагі народу наносілі вялікую шкоду дзяржаве. Зараз яны выключаны з радоў партыі, а многія арыштаваны.

Ачышчаючы свае рады ад ворагаў, партарганізацыя вылучыла на кіруючую работу лепшых людзей, бязмежна адданых партыі Леніна—Сталіна.

Загадчыкам райаддзела аховы здароўя вылучана работніца цэментнага завода тав. Волкава. Прапагандыстам чыгуначнага вузла—машыніст паравоза тав Мізгачоў, сакратаром парткома чыгуначнага вузла—рабочы акалодка тав. Кайкоў. Інструктарам райкома партыі—рабочы цэментнага завода тав. Лапшуноў. Старшыня калгаса Качанаў вылучан наместнікам загадчыка райза. Слесар дэпо стаханавец тав. Якіменка—майстрам водаснабжэння чыгуначнага вузла. Калгасніца тав. Іванова вылучана старшынёю калгаса. Не мала чэсных, адданых калгаснікаў, апраўдаўшых сябе на рабоце, вылучана загадчыкамі ферм, брыгадзірамі, старшынямі калгасаў і сельсоветаў.

Парторг Кашанскай кандыдацкай групы, ён-жа старшыня сельсовета, тав. Тупіцын накіраван на гадовыя курсы прапагандыстаў пры ЦК.

Райком партыі сур'ёзна ўзяўся за паляпшэнне справы большэвіцкай агітацыі і прапаганды. У горадзе ўжо другі месяц бесперабойна працуе вячэрняя партыйная школа. Рэгулярна працуюць партшколы на цэментным заводзе, чыгуначным вузле і ў большасці сельсоветаў.

Да калгасаў для масава-выхаваўчай работы прымацавана 50 чалавек з райпартактыва. У кожным сельсовеце вылучана 20—35 агітатараў з праверaных комсамольцаў, настаўнікаў і сельскіх актывістаў. Інструктары райкома і загадчык парткабінета наладзілі для агітатараў планавыя кансультацыі. У работу ўцягваюцца пазаштатныя інструктары райкома, а таксама 5 прапагандыстаў-міжнароднікаў, якім перыядычна даюцца паасобныя даручэнні.

Пасля справаздачна-выбарчага сходу адбыліся ўжо 4 раённыя партсходы, 2 пленумы райкома і нарады сакратароў парткомаў і парторгаў. За гэты час праводзіліся нарады і злёты старшынь калгасаў і сельсоветаў, брыгадзіраў і калгаснікаў, спецыялістаў сельскай гаспадаркі.

Райком партыі вялікую ўвагу ўдзяліў падрыхтоўцы да выбараў па новай Сталінскай Канстытуцыі, вывучэнню Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет. Пытанне гэта абмяркоўвалася ў школах партасветы, на партыйных сходах. Пры парткабінеце спецыяльна праведзены 3 семінары прапагандыстаў-агітатараў для абмену вопытам, а таксама нарада кіраўнікоў профсаюзных і комсамольскіх арганізацый. На прадпрыемствах, у калгасах і ўстановах пытанню аб выбарах было прысвечана 395 дакладаў, якія праслухала 13 245 чалавек. Акрамя таго, праведзена 240 гутарак з ахопам 21 130 чалавек.

Вялікую выхаваўчую ролю адыгрываюць палітдні на прадпрыемствах, у калгасах, установах. На-жаль, гэта важнейшая справа доўгі час ігнаравалася ў нашым раёне. Большасць партарганізацый не ішла далей агульных размоў аб правядзенні палітдня. Узросшы культурны ўзровень рабочых і калгаснікаў пры гэтым не ўлічваўся, набыты вопыт не вывучаўся.

Калгаснікі Крычаўскага раёна сабралі сёлета высокі ўраджай. На працадзень кожнага калгасніка ў сярэднім прыпадае 3,2 кіло збожжа, 12 кіло бульбы, 3—5 кіло грубых кармоў, акрамя грошай. З ростам заможнасці растуць і культурныя запатрабаванні. Калгаснікі цікавяцца самымі рознастайнымі пытаннямі палітыкі, міжнароднага і ўнутранага становішча СССР, калгаснага будаўніцтва.

У сувязі з пастановай СНК і ЦК ВКП(б) аб дапамозе беларускаму сялянству райком партыі з 10 па 20 верасня арганізаваў па ўсіх калгасах і прадпрыемствах раёна палітдні. Для падрыхтоўчай работы было накіравана ў калгасы 59 чал. райпартактыва.

У калгасах Баеўскага сельсовета для падрыхтоўкі палітдня было прыцягнута каля 40 комуністаў, комсамольцаў, настаўнікаў і беспартыйнага сельсовецкага актыва.

На цэментным заводзе палітдзень рыхтавалі 25 комуністаў, 35 комсамольцаў і 15 беспартыйных актывістаў.

К палітдню рыхтаваліся памяшканні, вывешваліся аб'явы і скрынкі для збору пытанняў, рабіліся абходы кватэр рабочых і калгаснікаў.

На цэментным заводзе было сабрана 341 пытанне. Рабочыя цікавіліся тым, якія меры прыняў Саюзны ўрад у адносінах да піратаў, патапіўшых наш параход і цеплаход, што такое грошы, адкуль паходзяць назвы большэвікі і меншавікі, дзе адбыўся першы з'езд партыі, якія пытанні ён абмеркаваў і т. п. 65 рабочых фасфарытнага завода задалі 50 пытанняў, 75 рабочых спіртазавода—57 пытанняў, калгаснікі калгаса «Барацьбіт»—78 пытанняў, калгаса «XVII партз'езд»—45 пытанняў і т. д. Па прадпрыемствах горада і калгасах раёна сабрана ўсяго каля 2 000 пытанняў.

Партактыву прышлося грунтоўна папрацаваць над падрыхтоўкай адказаў, заглянуць у гісторыю партыі, у геаграфічныя карты, слоўнікі, энцыклапедыі, атрымаць кансультацыю ў парткабінеце.

Палітдзень пачаўся з адказаў на заданыя рабочымі і калгаснікамі пытанні. Рабочыя і калгаснікі ў сваіх выступленнях дзякавалі партыю, урад і асабіста таварыша Сталіна за клопаты і дапамогу беларускаму народу. Яны бралі на сябе абавязацельствы па перавыкананню норм, каб дастойна сустрэць XX гадавіну Кастрычніцкай рэволюцыі. Большасць калгаснікаў прасіла арганізаваць гурткі па вывучэнню палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет.

На палітдні калгаснікі ўскрылі варожую дзейнасць выпадкова пралезшых у калгасы «Маяк» і імя Леніна былых кулакоў Калаціла і Іванюшына, зладзеяў Даніленка і Варанцова і патрабавалі выключыць іх з калгасаў. Калгаснікі выкрылі старшыню калгаса «На варце» Ульянкова, які з групай ворагаў знішчаў калгасную жывёлу. Праверыўшы гэту справу, райком выключыў Ульянкова з радоў партыі і аддаў пад суд.

Райком партыі заслухаў справаздачу кіраўнікоў райспажыўсаюза і гарпо—Вержліба і Іванова, аб якіх калгаснікі адзываліся, як аб дрэнных работніках кааперацыі. Для палепшання работы спажыўкааперацыі і ачысткі яе ад варожых элементаў прыняты належныя меры.

Прысутнасць на паліднях 6.775 рабочых, калгаснікаў, служачых і інжынерна-тэхнічных работнікаў дала магчымасць раённым арганізацыям выявіць хворыя месцы і прыняць меры да іх выпраўлення.

Райком партыі прапусціў праз семінар 150 комуністаў і комсамольцаў і разаслаў іх па калгасах і прадпрыемствах у якасці кіраўнікоў гурткамі па вывучэнню палажэння аб выбарах у Вярхоўны совет. Такіх гурткоў працуе ўжо 171. На цэментным заводзе гурткамі па вывучэнню палажэння аб выбарах у Вярхоўны совет ахоплена 1.150 чалавек. На чыгуначным вузле—564 чал.

Калгаснікі вельмі цікавяцца вывучэннем Палажэння аб выбарах і рэгулярна наведваюць заняткі.

Палітдзень дапамог яшчэ шырэй разгарнуць работу па дастойнай сустрэчы 20-годдзя вялікай Кастрычніцкай рэволюцыі.

Слаба яшчэ пастаўлена ў нас работа па ўцягненню ў партыю лепшых стаханаўцаў, комсамольцаў, ударнікаў. У горадзе і раёне налічваецца да 5.000 рабочых; не мала праверанных, надзейных людзей у 72 калгасах, 2 соўгасах і МТС, аднак з усёй гэтай масы ў партыю ўцягнуты толькі адзінкі. За ўвесь час пасля пастановы ЦК ВКП(б) аб аднаўленні прыёму ў партыю прынята ў кандыдаты 4 чалавекі і пераведзена з кандыдатаў у члены партыі 9 чалавек.

Не ўсе партарганізацыі добра арганізавалі работу са спачуваючымі. Калі на чыгунцы сёе-тое і робяць, то пярвічныя партарганізацыі вёскі мала зрабілі для ўцягнення ў спачуваючыя лепшых, праверанных калгаснікаў.

Адсталы ўчастак—работа сярод жанчын, настаўніцтва, антырэлігійная і абарончая работа. Сюды райком партыі павінен накіраваць максімум сваёй ўвагі.

---

# Арганізацыя Вярхоўнага Совета Саюза ССР і двухпалатная сістэма ў буржуазных краінах

Канстытуцыі буржуазных краін, як мы ведаем, абмяжоўваюць дэмакратыю ўсякімі спосабамі. Цэнз аседласці, патрабаванні граматнасці на мове пануючай нацыі, павышаны ўзрост для кандыдатаў у дэпутаты і т. д.—усё гэта накіравана к таму, каб затрудніць удзел працоўных у палітычным жыцці краіны. Буйнейшым абмежаваннем дэмакратыі з'яўляецца пазбаўленне выбарчых праў жанчын у цэлым радзе краін.

Ні адна буржуазная канстытуцыя не можа ісці ў параўнанне са Сталінскай Канстытуцыяй Совецкага саюза, дзе прынцыпы сапраўднай дэмакратыі разгорнуты шырока і паслядоўна, што магчыма толькі ў краіне соцыялізма.

Буржуазія не задавольваецца тым, што яна абмяжоўвае выбарчыя правы працоўных: яна шукае яшчэ дадатковых форм забеспячэння свайго панавання ў законадаўстве і палітыцы. Такой немалаважнай дадатковай формай з'яўляецца так званая двухпалатная сістэма, якая прымяняецца ў тых капіталістычных краінах, дзе існуе парламентарызм.

**Што-ж такое двухпалатная сістэма ў капіталістычных краінах?**

Гэта—такое ўстройства дзяржавы, пры якім законадаўчая ўлада належыць двум арганізацыям (палатам), з якіх адна, якая выбіраецца больш шырокім колам насельніцтва, называецца ніжняй палатай, а другая—верхняй палатай. Верхняя палата складаецца з прадстаўнікоў радавітай знаці (напрыклад палата лордаў у Англіі) ці абіраецца буржуазнымі арганізацыямі або вузка абмежаванай колькасцю выбаршчыкаў.

Пры двухпалатнай сістэме кожны праект закона становіцца законам і ідзе на зацверджанне прэзідэнта (або караля) толькі пасля таго, як яго прынялі абедзве палаты. Тое-ж самае робіцца і з зацвярджэннем дзяржаўнага бюджэта—гэтым важнейшым палітычным момантам у жыцці кожнай краіны. У некаторых краінах абедзве палаты злучаюцца ў аб'яднаны нацыянальны сход для выбараў прэзідэнта, для вырашэння пытання аб вайне, для зацвярджэння мірных дагавораў.

Значыць, нават абмежаванай, з пункту погляду дэмакратыі, ніжняй палаце буржуазія не давярае ўсёй паўнаты законадаўчай, палітычнай і бюджэтнай улады. Яна ставіць **над** ніжняй палатай яшчэ нейкі тормаз у асобе верхняй палаты, склад якой падабраны такім чынам, каб у ёй буйная буржуазія і памешчыкі мелі бясспрэчную перавагу.

У **Англіі** раздзяленне парламента на дзве палаты склалася яшчэ ў той час, калі англійскія феадалы—буйныя землеўласнікі—змагаліся

з маладой гарадской буржуазіяй за палітычную ўладу. Члены верхняй палаты лордаў нікім не выбіраліся: яны назначаліся ўказамі караля,—і ў склад палаты лордаў маглі ўваходзіць толькі главы самых багатых, самых «радавітых» памешчыцкіх сем'яў, а таксама архіепіскапы і кіраўнікі старэйшых універсітэтаў, у якіх навучалася англійская арыстакратыя.

З той пары часы змяніліся. Англія стала буйнейшай прамысловай і фінансавай дзяржавай; у краіне вырас агромны пролетарыят, але палата лордаў, гэты ўродлівы перажытак мінулага, існуе па-ранейшаму. Праўда, склад яе змяніўся. Сярод членаў палаты лордаў мы бачым ужо не толькі землеўладальнікаў і епіскапаў, але і буйнейшых банкіраў і прамыслоўцаў, узведзеных у лордскую годнасць. Удастоіліся каралеўскай «міласці» і сталі лордамі таксама некаторыя лідэры рабочай партыі Англіі, гэтага найбольш рэакцыйнага крыла II інтэрнацыянала.

Змяніліся і поўнамоцтвы палаты лордаў. Закон 1911 года абмежаваў яе права ўмяшання ў дзеянні ніжняй палаты. Практыкай жыцця цэнтр палітыкі перанесен у ніжнюю палату.

І, тым не менш, палата лордаў у Англіі яшчэ існуе і паміраць не збіраецца. Чаму? Ды проста таму, што ў арсенале наступлення буржуазіі на працоўных і гэта зброя можа спатрэбіцца. Фронт класавай барацьбы ў Англіі праходзіць у наш час не па водападзелу паміж буржуазіяй і феадаламі, як гэта было ў перыяд узнікнення англійскага парламента, а па лініі супярэчнасці інтарэсаў пролетарыята і буржуазіі. Абноўленая палата лордаў знаходзіцца, вядома, цалкам на баку буйнай буржуазіі. Карыстаючыся гэтай сваёй вернай зброяй, буржуазія мае магчымасць пахаваць любое мала-мальскі нявыгаднае для яе мерапрыемства, якое асмелілася-б высунуць ніжняя палата.

У сучаснай **Францыі,** якая з'яўляецца адной з найбольш дэмакратычных буржуазных краін, таксама існуе верхняя палата, імянуемая сенатам. Арганізацыя гэтага сената ясна паказвае, якавы яго задачы. Члены сената выбіраюцца на дзевяць год, у той час як палата дэпутатаў выбіраецца на чатыры гады. Зусім ясна, што сенат, які выбіраецца раз у дзевяць год, ніяк не адлюстроўвае тых перамен у палітычных настроях мас, якія могуць адбыцца за такі доўгі тэрмін. К таму-ж сенат выбіраецца не насельніцтвам, а муніцыпалітэтамі, шляхам шматступенных выбараў. Французскі сенат мае такія правы, якіх не мае палата дэпутатаў. Так напрыклад па справах аб злачынствах прэзідэнта і міністраў, а таксама па справах аб пасяганнях на бяспаснасць дзяржавы сенат ператвараецца ў вярхоўны суд рэспублікі.

У складзе сената Францыі мы бачым заўсёды найбольш буйных буржуазных «тузоў»: банкіраў, фабрыкантаў, буйных каланіяльных дзяльцоў. Такі сенат з'яўляецца актыўнаю зброяй буржуазіі. Даволі ўспомніць, што ў гэтым годзе іменна сенат зваліў першы ўрад, які падтрымліваўся народным фронтам ва Францыі, пасля таго, як спробы заправіл буржуазіі разбіць народны фронт у палаце дэпутатаў пацярпелі няўдачу.

У **Злучаных Штатах Амерыкі** члены сената (верхняй палаты) выбіраюцца ўсеагульным галасаваннем, але... сенатары выбіраюцца на шэсць год, тым часам як члены ніжняй палаты—на два гады; сенатар павінен быць не маладзей трыццаці год і з'яўляцца не менш дзевяці год грамадзянінам ЗША.

У ЗША, як і ва Францыі, сенат судзіць вышэйшых урадавых асоб рэспублікі.

Амерыканскія сенатары—гэта ў пераважнай большасці самыя багатыя і самыя ўплывовыя прадстаўнікі буржуазіі. Гэтым вызначаецца іх палітыка ў адносінах да больш дэмакратычнай ніжняй палаты. За апошнія гады, калі амерыканскі «добрабыт» захістаўся, іменна сенат станавіўся поперак дарогі ўсякім, нават робкім пачынанням, якія мелі на мэце палегчыць становішча фермераў або правесці тое ці іншае дэмакратычнае мерапрыемства. На выпадак-жа, калі і сенат акажацца недастатковым тормазам, які ўздзейнічае на ніжнюю палату, да паслуг буйнай амерыканскай буржуазіі ёсць яшчэ вярхоўны суд. Гэта рэакцыйнейшая ўстанова мае права прыпыняць дзеянне любога закона пад выглядам неадпаведнасці яго з канстытуцыяй. Усе ўдары вярхоўнага суда, вядома, накіраваны не супроць буржуазіі, а супроць рабочых, фермераў, неграў.

У ваенна-фашысцкай **Японіі,** дзе ў першым артыкуле яе канстытуцыі гаворыцца, што «імперыя кіруецца безупыннай на вечныя часы імператарскай дынастыяй», ёсць, па сутнасці кажучы, нават не двухпалатная, а трохпалатная сістэма. Ніжняя палата выбіраецца насельніцтвам, але ад удзелу ў выбарах адхілены жанчыны, ваенныя, студэнты і ўсё мужчынскае насельніцтва маладзей дваццаці пяці год. Па сутнасці, ніякіх праў гэта палата не мае, бо нават прадстаўленне ў яе дзяржаўнага бюджэта неабавязкова для ўрада. Але на ўсякі выпадак над ёй стаіць верхняя «палата пэраў», якая, як гаворыць канстытуцыя, «складаецца з членаў імператарскай фаміліі, з носьбітаў дваранскіх тытулаў і з асоб, прызначаных ў яе імператарам». Зусім ясна, што такая верхняя палата з'яўляецца сканцэнтраваннем рэакцыі і паслухмянаю зброяй у руках імператара і тых ваенна-фашысцкіх колаў, якія стаяць за яго спіной. Але гэтага мала. Японская канстытуцыя яшчэ ўпамінае глуха аб вярхоўным Тайным совеце. З газет мы ведаем, што гэты Тайны совет і ёсць тая невялікая кучка людзей, праз якую японскія феадалы, ваеншчына і банкіры фактычна кіруюць краінай. Тайны совет (склад якога вызначаецца імператарам) прызначае і змяшчае міністраў, зацвярджае бюджэт, вырашае пытанні вайны і міру. За яго спіной стаяць мільянеры—уладальнікі буйнейшых японскіх фірм і банкаў, старажытнейшыя сем'і феадалаў-памешчыкаў, кіраўнікі арміі і флота, лідэры фашысцкіх арганізацый. Так выглядае ў рэчаіснасці японскі «парламентарызм».

Калі мы возьмем так званыя малыя краіны, то нават у самых дэмакратычных з іх верхняя палата знарок ствараецца з асоб, якія маглі-б найбольш актыўна абараняць інтарэсы буржуазіі.

У **Аўстрыі** існуе вельмі складанае ўстройства саюзнага совета, які па сутнасці не выбіраецца насельніцтвам непасрэдна. Побач з саюзным советам існуе дзяржаўны совет, аб якім канстытуцыя вельмі характэрна гаворыць, што члены яго прызначаюцца прэзідэнтам на дзесяць год з ліку асоб, «ад якіх паводле іх папярэдніх паводзін і спраў дазваляецца чакаць поўнага разумення патрэбнасцей і задач дзяржавы».

У рэакцыйнай **Венгрыі** верхняя палата носіць яўны саслоўна-ахавальны характар: яе членамі з'яўляюцца бароны, вышэйшыя ваенныя і судовыя чыны, вышэйшыя царкоўныя чыны, каронны пракурор, старшыня нацыянальнага банка і т. д. Ясна, што такая верхняя палата не можа быць не чым іншым, як зброяй самай агалцелай рэакцыі.

Усе гэтыя прыклады паказваюць, як праў быў таварыш Сталін, які гаварыў у сваім гістарычным дакладзе на Надзвычайным VIII Усе-

саюзным з'ездзе советаў, што ў буржуазных краінах «...другая палата выраджаецца звычайна ў цэнтр рэакцыі і тормаз супроць руху наперад... гэта адбываецца таму, што ў гэтых краінах паміж палатамі няма роўнасці. Як вядома, другой палаце даюць нярэдка больш праваў, чым першай, і затым, як правіла, другая палата арганізуецца недэмакратычным шляхам, нярэдка шляхам прызначэння яе членаў зверху».

* * *

Наша вялікая Канстытуцыя, выходзячы з пачаткаў поўнай і паслядоўнай соцыялістычнай дэмакратыі, утварыла **дзве палаты Вярхоўнага Совета СССР: Совет Саюза і Совет Нацыянальнасцей.**

Чым-жа выклікана ўтварэнне ў нас двухпалатнай сістэмы? Па гэтаму пытанню таварыш Сталін даў вычарпальнае тлумачэнне ў сваім дакладзе на Надзвычайным VIII з'ездзе советаў. «Аднапалатная сістэма,—указаў таварыш Сталін,—была-б лепш двухпалатнай, калі-б СССР прадстаўляў адзіную нацыянальную дзяржаву. Але СССР не ёсць адзіная нацыянальная дзяржава. СССР ёсць, як вядома, шматнацыянальная дзяржава. У нас ёсць вярхоўны орган, дзе прадстаўлены **агульныя** інтарэсы ўсіх працоўных СССР незалежна ад іх нацыянальнасці. Гэта—Совет Саюза. Але ў нацыянальнасцей СССР акрамя агульных інтарэсаў ёсць яшчэ **свае асобыя, спецыфічныя** інтарэсы, звязаныя з іх нацыянальнымі асаблівасцямі. Ці можна пагарджаць гэтымі спецыфічнымі інтарэсамі? Не, нельга. Ці патрэбен спецыяльны вярхоўны орган, які-б адлюстроўваў гэтыя іменна спецыфічныя інтарэсы? Безумоўна патрэбен. Не можа быць сумнення, што без такога органа немагчыма было-б кіраваць такой шматнацыянальнай дзяржавай, як СССР. Такім органам з'яўляецца другая палата, Совет Нацыянальнасцей СССР».

Мы бачым, такім чынам, з гэтых слоў таварыша Сталіна, што мэтай нашай совецкай двухпалатнай сістэмы з'яўляецца толькі імкненне забяспечыць максімум магчымасцей для нацыянальнага развіцця ўсіх народаў, якія насяляюць нашу шматнацыянальную дзяржаву, выяўляць спецыфічныя нацыянальныя інтарэсы, клапаціцца аб найлепшым задаволенні інтарэсаў кожнай народнасці. У стварэнні двухпалатнай сістэмы ў СССР выражана ўся мудрасць ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, якая прывяла нашу краіну да вялікіх перамог і згуртавала ўсе народы СССР у адзіную, дружную сям'ю.

У нас няма і не можа быць небяспекі, што адна з палат ператворыцца ў тормаз для руху наперад.

Наша Сталінская Канстытуцыя, якая выражае прынцыпы паслядоўнага да канца соцыялістычнага дэмакратызма, стварае ўсе ўмовы для поўнай роўнасці абодвух палат.

Абедзве палаты—і Совет Саюза і Совет Нацыянальнасцей—выбіраюцца на адзін і той-жа тэрмін—на чатыры гады. Сесіі абодвух палат пачынаюцца і заканчваюцца адначасова.

Згодна Сталінскай Канстытуцыі, «абедзве палаты Вярхоўнага Совета СССР: Совет Саюза і Совет Нацыянальнасцей роўнапраўны» (артыкул 37-мы). «Совету Саюза і Совету Нацыянальнасцей у аднолькавай меры належыць заканадаўчая ініцыятыва» (артыкул 38-мы). «Закон лічыцца зацверджаным, калі ён прынят абодвума палатамі Вярхоўнага Совета СССР простай большасцю кожнай» (артыкул 39-ты). «У выпадку рознагалоссяў паміж Советам Саюза і Советам Нацыянальнасцей пытанне перадаецца на вырашэнне ўзгадняючай камісіі,

створанай на парытэтных пачатках. Калі ўзгадняючая камісія не прыходзіць да згоднага рашэння ці калі яе рашэнне не задавольвае адну з палат, пытанне разглядаецца паўторна ў палатах. Пры адсутнасці згоднага рашэння двух палат, Прэзідыум Вярхоўнага Совета СССР распускае Вярхоўны Совет СССР і прызначае новыя выбары» (артыкул 47-мы).

У сваім дакладзе на Надзвычайным VIII з'ездзе советаў таварыш Сталін асабліва падтрымаў дадаткі да праекта Канстытуцыі аб тым, каб колькасць членаў абодвух палат была ўроўнена і каб дэпутаты ў Совет Нацыянальнасцей выбіраліся так сама, як і ў Совет Саюза, шляхам прамых выбараў. Першая прапанова дае «яўныя палітычныя плюсы, бо падкрэслівае роўнасць палат», другая-ж «павінна павысіць аўтарытэт Совета Нацыянальнасцей». Абедзве прапановы былі прыняты з'ездам і ўвайшлі ў Канстытуцыю.

Наш выбарчы закон да драбнейшых дэталяў прадугледжвае ўсе падрабязнасці для арганізацыі выбараў у Совет Саюза і ў Совет Нацыянальнасцей у поўнай адпаведнасці са Сталінскай Канстытуцыяй.

Парадак выбараў, за выключэннем разбіўкі на выбарчыя акругі, аднолькавы для абодвух палат Вярхоўнага Совета СССР.

Розніца ёсць толькі ў арганізацыі выбарчых акруг. Але і ў гэтай розніцы закладзен глыбокі палітычны сэнс. У гэтым сказваюцца выключныя клопаты аб інтарэсах кожнай нацыянальнасці, сказваецца сутнасць ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. У Совеце Нацыянальнасцей будуць прадстаўлены ўсе саюзныя рэспублікі, усе аўтаномныя рэспублікі, усе аўтаномныя вобласці і ўсе нацыянальныя акругі, бо ў нас няма нацый поўнапраўных і няпоўнапраўных: у нас усе нацыі і расы поўнапраўны і роўны.

Успомнім, што гаварыў аб гэтым таварыш Сталін:

«... нацыі і расы СССР карыстаюцца аднолькавымі правамі ва ўсіх сферах гаспадарчага, палітычнага, грамадскага і культурнага жыцця краіны. Стала быць, не можа быць і гутаркі аб ушчымленні нацыянальных праў».

Вось чаму пры выбарах у Совет Нацыянальнасцей, як гаворыць дваццаць другі артыкул «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР», «выбарчая акруга па выбарах у Совет Нацыянальнасцей складаецца па прынцыпу: 25 акруг па кожнай саюзнай рэспубліцы, 11 акруг па кожнай аўтаномнай рэспубліцы, 5 акруг па кожнай аўтаномнай вобласці і 1 выбарчая акруга ў кожнай нацыянальнай акрузе. Кожная выбарчая акруга па выбарах у Совет Нацыянальнасцей пасылае аднаго дэпутата».

Значыць, выбарчыя акругі для выбараў у Совет Саюза і ў Совет Нацыянальнасцей будуць рознымі, але выбарчыя ўчасткі будуць агульнымі. Выбары ў абедзве палаты будуць праводзіцца ў адзін і той-жа дзень.

Ствараючы ў нашай дзяржаўнай сістэме двухпалатны вярхоўны орган, Сталінская Канстытуцыя не толькі забяспечвае роўнасць палат, але і ўмацоўвае адзінства працоўных усіх нацыянальнасцей, умацоўвае нашу дзяржаўнасць і выражае ўсямерныя клопаты аб задавальненні інтарэсаў усіх без выключэння нацый.

І ў гэтым пытанні вялікая Сталінская Канстытуцыя з'яўляецца неперавышаным узорам сапраўднага соцыялістычнага дэмакратызма, дакументам найвялікшай палітычнай мудрасці.

**Д. Кутузаў.**

# Прыкладны план работы гуртка па вывучэнню „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР“

## 1-шы ЗАНЯТАК

### Вярхоўны Совет СССР (Совет Саюза і Совет Нацыянальнасцей)

Дзяржаўнае ўстройства СССР: саюзныя рэспублікі, якія ўваходзяць у СССР, аўтаномныя рэспублікі і аўтаномныя вобласці, нацыянальныя акругі (па геаграфічнай карце СССР).

Вярхоўны Совет СССР—вышэйшы орган дзяржаўнай улады СССР. Вярхоўны Совет СССР—вышэйшая законадаўчая ўлада СССР.

Дзве палаты Вярхоўнага Совета СССР: Совет Саюза і Совет Нацыянальнасцей. Задачы Совета Саюза і Совета Нацыянальнасцей. Дзве палаты Вярхоўнага Совета СССР—ажыццяўленне ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

Дзве палаты ў буржуазных парламентах.

Росквіт дружбы народаў у СССР. Нацыянальнае прыгнечанне ў краінах капіталізма.

#### Літаратура

**Канстытуцыя СССР**, раздзел II. Дзяржаўнае ўстройства, раздзел III. Вышэйшыя органы дзяржаўнай улады Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

**Сталін.** Аб праекце Канстытуцыі Саюза ССР. Раздзел II. Змены ў жыцці СССР за перыяд ад 1924 да 1936 года. Раздзел III. Асноўныя асаблівасці праекта Канстытуцыі.

**Сталін.** Прамова на нарадзе перадавых калгаснікаў і калгасніц Таджыкістана і Туркменістана з кіраўнікамі партыі і ўрада (Асобная брашура, выд. 1937 г.).

**Сталін.** Нацыянальныя моманты ў партыйным і дзяржаўным будаўніцтве. Даклад на XII з’ездзе РКП(б) (Асобная брашура або ў зборніку «Марксізм і нацыянальна-каланіяльнае пытанне», стар. 123—124).

**Молатаў.** Канстытуцыя соцыялізма. Раздзел III. СССР і мір паміж народамі.

**Карта СССР.**

## 2-гі ЗАНЯТАК

### Усеагульнае, роўнае, прамое пры тайным (закрытым) галасаванні выбарчае права ў СССР (Выбарчая сістэма)

Буржуазная дэмакратыя—дэмакратыя для багатых, прыкрытае панаванне буржуазіі. Абмежаванні ў буржуазна-дэмакратычных канстытуцыях праў працоўных (абмежаванні ўсеагульнага выбарчага права па ўзросту, па полу, па аседласці, па нацыянальнасці і т. д.). Немагчымасць для шырокіх працоўных мас ва ўмовах капіталізма выкарыстаць прадастаўляемыя законам правы (цяжар умоў жыцця, галеча, беспрацоўе; усе сродкі агітацыі ў руках капіталістаў і т. д.). Фармальны характар буржуазнай дэмакратыі.

Наяўнасць матар'яльных умоў для росквіту паслядоўнага соцыялістычнага дэмакратызма ў СССР: зніштажэнне эксплаатацыі чалавека чалавекам, права на працу, на адпачынак, на асвету і на матар'яльнае забеспячэнне ў старасці, а таксама—у выпадку хваробы і страты працаздольнасці. Росквіт заможнага жыцця працоўных. Росквіт культуры ў СССР.

Усеагульнае выбарчае права ў СССР і ў чым яно выражаецца. Хто мае права выбіраць і быць выбраным у СССР. У СССР пазбаўляюцца права ўдзельнічаць у выбарах толькі страціўшыя розум і асобы, асуджаныя судом з пазбаўленнем выбарчых праў. Абмежаванні ўдзелу ў выбарах, што ўводзіліся ранейшай Канстытуцыяй. Адмена ўсякіх абмежаванняў у новай Канстытуцыі СССР. У СССР—самае шырокае ў свеце ўсеагульнае выбарчае права.

Роўнае выбарчае права ў СССР і ў чым яно выражаецца? Не зусім роўнае права выбараў па ранейшай Канстытуцыі СССР і адмена гэтага ў новай Канстытуцыі СССР. Артыкул 136 Канстытуцыі СССР і артыкул 3 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР» аб роўных выбарах.

Прамое выбарчае права ў СССР і ў чым яно выражаецца. Шматступенныя выбары па ранейшай Канстытуцыі СССР і адмена гэтага ў новай Канстытуцыі СССР. Артыкул 139 Канстытуцыі аб прамых выбарах у СССР.

Тайнае (закрытае) галасаванне і ў чым яго значэнне. Адмена раней існаваўшых адкрытых выбараў.

#### Літаратура

**Канстытуцыя СССР,** раздзел X. Асноўныя правы і абавязкі грамадзян. Раздзел XI. Выбарчая сістэма.

**Канстытуцыя СССР 1924 года** (Партвыдат, 1934), раздзел III. Аб з'ездзе советаў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

**Палажэнне аб выбарах ў Вярхоўны Совет СССР,** раздзел I. Выбарчая сістэма.

**Ленін.** Тэзісы і даклад аб буржуазнай дэмакратыі і дыктатуры пралетарыята. Творы, т. XXIV, стар. 7—20.

**Сталін.** Аб праекце Канстытуцыі Саюза ССР. Раздзел III. Асноўныя асаблівасці праекта Канстытуцыі.

**Сталін.** Гутарка са старшынёй амерыканскага газетнага аб'яднання «Скрыпс Говард Ньюспейперс» панам Рой Говардам (апошняе пытанне).

**Молатаў.** Аб зменах у совецкай Канстытуцыі. Даклад на VII з'ездзе советаў 6 лютага 1935 г. Раздзел II. Задачы далейшай дэмакратызацыі совецкай выбарчай сістэмы.

**Молатаў.** Канстытуцыя соцыялізма. Раздзел II. Нашы адносіны да дэмакратызма.

**Калінін.** Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет Саюза ССР і задачы Советаў. Першая частка артыкула («Правда» ад 2 верасня 1937 г. ці асобная брашура).

**Выбары ў капіталістычных краінах** («В помощь партийной учебе» № 20—21, ліпень 1937 г.)

**Два светы—дзве выбарчыя сістэмы** («Спутник агитатора» № 15).

## 3-ці ЗАНЯТАК

## Як будуюцца выбарчыя акругі і выбарчыя ўчасткі па выбарах у Вярхоўны Совет СССР

Выбарчыя акругі па выбарах у Совет Саюза—300.000 насельніцтва на акругу.

Выбарчыя акругі па выбарах у Совет Нацыянальнасцей: 25 акруг па кожнай саюзнай рэспубліцы, 11 акруг па кожнай аўтаномнай рэспубліцы, 5 акруг па кожнай аўтаномнай вобласці, 1 выбарчая акруга ў кожнай нацыянальнай акрузе. Як будуць будавацца выбарчыя акругі ў Маскве, у гор. Казані (Татарская АССР) і т. д.

Значэнне совецкага выбарчага закона ў забеспячэнні праў нацыянальнасцей СССР.

Выбарчыя ўчасткі агульныя для выбараў у Совет Саюза і Совет Нацыянальнасцей. Як будуюцца выбарчыя ўчасткі ў горадзе і ў вёсцы. Вытворчы прынцып пабудовы выбарчых участкаў у ранейшай Канстытуцыі СССР і тэрытарыяльны прынцып у новай Канстытуцыі СССР.

Як выбарчы закон клапоціцца аб выбаршчыках аддаленых паўночных і ўсходніх раёнаў, аб выбаршчыках у воінскіх часцях, на плаваючых суднах, аб выбаршчыках, якія знаходзяцца ў больніцах, радзільных дамах, санаторыях, дамах інвалідаў.

Кім утвараюцца выбарчыя акругі і выбарчыя ўчасткі.

### Літаратура

**Канстытуцыя СССР,** раздзел III. Вышэйшыя органы дзяржаўнай улады Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, артыкулы 34 і 35.

**Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР,** раздзел III. Выбарчыя акругі па выбарах у Совет Саюза і Совет Нацыянальнасцей. Раздзел IV. Выбарчыя ўчасткі.

**Калінін.** Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет Саюза ССР і задачы Советаў. Раздзелы: «Аб выбарчых акругах па выбарах у Совет Саюза і Совет Нацыянальнасцей» і «Аб выбарчых участках».

**Выбарчая сістэма соцыялістычнай дзяржавы** («Большевик» № 13 за 1937 г.).

## 4-ты ЗАНЯТАК

### Выбарчыя камісіі, спісы выбаршчыкаў. Парадак выстаўлення кандыдатаў

Цэнтральная выбарчая камісія па выбарах у Вярхоўны Совет СССР. Выбарчыя камісіі па выбарах у Совет Нацыянальнасцей ў саюзных і аўтаномных рэспубліках, у аўтаномнай вобласці і нацыянальнай акрузе. Склад гэтых выбарчых камісій, іх функцыі і кім яны зацвярджаюцца.

Акруговыя выбарчыя камісіі па выбарах у Совет Саюза, іх склад, іх функцыі і кім яны зацвярджаюцца. Акруговыя выбарчыя камісіі па выбарах у Совет Нацыянальнасцей, іх склад, іх функцыі і кім яны зацвярджаюцца.

Участковыя выбарчыя камісіі, іх склад, функцыі і кім яны зацвярджаюцца.

Прыём участковай выбарчай камісіяй выбарчых бюлетэняў. Устанаўленне вынікаў выбараў па акрузе акруговай выбарчай камісіяй.

Тэрміны складання выбарчых камісій.

Кім складаюцца спісы выбаршчыкаў. Хто ўключаецца ў спісы выбаршчыкаў. Хто не ўносіцца ў спісы выбаршчыкаў. Як уносяцца ў спісы выбаршчыкаў грамадзяне, якія змяняюць месца жыхарства. Як праводзіцца абскарджанне выключэння са спісаў выбаршчыкаў або няправільнае ўключэнне ў спісы выбаршчыкаў. Парадак унясення ў спісы выбаршчыкаў ваеннаслужачых. Як забяспечваецца грамадзянам магчымасць азнаямлення са спісамі выбаршчыкаў.

Якія арганізацыі маюць права выстаўляць кандыдатаў у Вярхоўны Совет СССР. Парадак выстаўлення і рэгістрацыі кандыдатаў. Парадак апублікавання прозвішчаў вылучаных кандыдатаў.

Выбарчыя бюлетэні.

Выдаткі па выбарах праводзяцца за кошт дзяржавы.

Права бесперашкоднай агітацыі за кандыдатаў. Артыкул 125 Канстытуцыі СССР аб свабодзе слова, друку, сходаў і мітынгаў, вулічных шэстваў і дэманстрацый—«у адпаведнасці з інтарэсамі працоўных і ў мэтах умацавання соцыялістычнага ладу».

#### Літаратура

**Канстытуцыя СССР,** раздзел X. Асноўныя правы і абавязкі грамадзян, раздзел XI. Выбарчая сістэма.

**Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР,** раздзел II. Спісы выбаршчыкаў. Раздзел V. Выбарчыя камісіі. Раздзел VI. Парадак выстаўлення кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР.

**Калінін.** Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет Саюза ССР і задачы Советаў. Раздзелы: аб спісах выбаршчыкаў, аб выбарчых камісіях, аб парадку выстаўлення кандыдатаў.

**Выбарчая сістэма соцыялістычнай дзяржавы** («Большевик» № 13 за 1937 г.).

# 5-ты ЗАНЯТАК

## Парадак галасавання і вызначэнне рэзультатаў выбараў

Парадак устанаўлення дня і гадзін выбараў у Вярхоўны Совет СССР.

Выбарчы бюлетэнь па выбарах у Совет Саюза і выбарчыя бюлетэні па выбарах у Совет Нацыянальнасцей. Канверт. Выбарчыя скрынкі. Памяшканне для запаўнення бюлетэняў у выбарчым участку і памяшканне для апускання канвертаў у скрынку.

Неабходнасць асабістай яўкі выбаршчыка ў выбарчую камісію для падачы голасу. Парадак выдачы ў выбарчай камісіі выбарчых бюлетэняў і канвертаў. Парадак запаўнення выбарчых бюлетэняў (у асобным пакоі для запаўнення бюлетэняў). Як запаўняюць бюлетэні няграматныя, інваліды. Заклейванне бюлетэня ў канверт і апусканне яго ў выбарчую скрынку (у пакоі, дзе знаходзіцца ўчастковая выбарчая камісія).

Парадак падліку галасоў на аснове выбарчых бюлетэняў і аб'яўлення вынікаў галасавання па выбарчаму ўчастку. Якія бюлетэні прызнаюцца несапраўднымі. Парадак падліку галасоў на аснове пратаколаў участковых выбарчых камісій у акруговай выбарчай камісіі. Парадак аб'яўлення кандыдата, выбранага па акрузе. Неабходнасць атрымання абсалютнай большасці галасоў па акрузе для выбрання.

Парадак перабалаціроўкі кандыдатаў у выпадку адмены выбараў.

Недапушчальнасць гвалту, абману, пагроз, подкупу, пры выбарах.

### Літаратура

**Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР,** раздзел VII. Парадак галасавання. Раздзел VIII. Вызначэнне рэзультатаў выбараў.

**Калінін.** Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет Саюза ССР і задачы Советаў. Раздзелы: «Аб парадку галасавання». «Аб вызначэнні рэзультатаў выбараў».

**Выбарчая сістэма соцыялістычнай дзяржавы** («Большевик» № 13 за 1937 г.).

---

# ХРОНІКА

## рэволюцыйных падзей у Беларусі (красавік—верасень)

**16 (3) красавіка.**

✱ Позна ўвечары ў Петраград з-за граніцы прыехаў **Ленін.**

На вакзале Ленін быў сустрэнут ганаровым воінскім караулам. Па выхадзе з вакзала Ленін з бранявога аўтамабіля звярнуўся да сабраўшыхся з кароткай прамовай, якую скончыў лозунгам «Няхай жыве сусветная соцыялістычная рэволюцыя!» Адразу пасля прыезду Ленін прыняў удзел у сходзе адказных партыйных работнікаў Петраграда.

**Менск.** Менскім Камітэтам Усерасійскага Сялянскага саюза пад старшынствам тав. Фрунзе (Міхайлава) прынята рэзалюцыя па пытанню аб адносінах да «Беларускага нацыянальнага камітэта». У рэзалюцыі гаворыцца, што «Беларускі нацыянальны камітэт» ні ў якім разе не можа быць прызнан выразнікам думак усяго беларускага народу і не мае ніякага права гаварыць ад яго імя, паколькі беларускі народ у асобе працоўных класаў—сялян і рабочых—у рабоце «Нацыянальнага з'езда» ніякага ўдзелу не прымаў.

«Беларускі нацыянальны камітэт» з'яўляецца па свайму складу арганізацыяй маемасных слаёў беларускага народу і асабліва памешчыкаў, а па характару сваіх выступленняў, чыста нацыяналістычных, пагражае інтарэсам сялян і рабочых».

**17 (4) красавіка.**

**В. І. Ленін** выступіў з тэзісамі «Аб задачах пролетарыята ў данай рэволюцыі» («Красавіцкія тэзісы»).

✱ Ленін уваходзіць у рэдакцыю «Правды» і працягвае яе рэдагаваць да разгрому рэдакцыі юнкерамі ў ліпеньскія дні.

**18 (5) красавіка.**

У буржуазнай прэсе і газетах згодніцкіх партый пачалася ўзмоцненая траўля **В. І. Леніна.**

**19 (6) красавіка.**

✱ У № 25 газеты «Правда» надрукован артыкул **В. І. Леніна** «Два светы».

**Гомель.** Арганізацыйны сход большэвікоў у Гомелі, на якім прымала ўдзел 35 чал. Афармлена Палеская арганізацыя большэвікоў, выбран Палескі Камітэт з 5 чалавек.

**20 (7) красавіка.**

✱ У «Правде»—апублікаваны «Красавіцкія тэзісы» Леніна.

**21—29 (8—16) красавіка.**

**Менск.** Франтавы з'езд ваенных і рабочых дэпутатаў арміі і тылу Заходняга фронта. Старшынёй з'езда выбран Позерн (большэвік).

З'езд заслухаў даклады: 1) аб Петраградскай нарадзе Советаў, 2) аб 8-гадзінным рабочым дні, 3) аб вайне і міры, 4) аб адносінах да Часовага ўрада і інш.

Па дакладах аб вайне і міры, аб адносінах да Часовага ўрада прыняты рэзалюцыі Петраградскага Совета Р. і С. Д. з папраўкай аб уключэнні ў Советы Салдацкіх і Рабочых таксама і Сялянскіх Дэпутатаў.

З'езд пастанаўляе прыняць удзел ва Ўсерасійскім З'ездзе Советаў Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў.

З'езд абраў Выканаўчы камітэт Заходняга фронта—«Франтавы камітэт» у складзе 75 чалавек, у тым ліку 10 большэвікоў (тт. Мяснікоў, Фрунзе і інш.).

**22 (9) красавіка.**

✱ У № 28 газеты «Правда» апублікован артыкул **В. І. Леніна** «Аб двоеўладдзі».

**Канец (сярэдзіна) красавіка.**

✱ Ленін піша «Пісьмы аб тактыцы». Пісьмо першае «Ацэнка бягучага моманту» выходзіць затым асобнай брашурай.

**24 (11) красавіка.**

✱ У № 29 газеты «Правда» змешчан артыкул **І. В. Сталіна** «Дзве рэзалюцыі».

**26 (13) красавіка.**

✱ У № 31 газеты «Правда» надрукован артыкул **В. І. Леніна** «Вайна і Часовы ўрад».

**27 (14) красавіка.**

**В. І. Ленін** зрабіў даклад на Петраградскай усеагульнай канферэнцыі большэвікоў аб бягучым моманце.

✱ Сход Петраградскага раённага камітэта большэвікоў прыняў рашэнне аб неадкладнай арганізацыі Чырвонай гвардыі.

✱ Маскоўскі камітэт большэвікоў прыняў рашэнне арганізаваць Чырвоную гвардыю.

**28 (15) красавіка.**

✱ У № 33 «Правды» змешчана заметка Леніна «Добравольнае пагадненне» паміж памешчыкамі і сялянамі?»

✱ На Петраградскай канферэнцыі большэвікоў прынята рэзалюцыя, прапанаваная **Леніным,** аб адносінах да Часовага ўрада.

✱ Выйшаў першы нумар газеты «Солдатская правда».

**29 (16) красавіка.**

✱ Вялікая дэманстрацыя рабочых, салдат і матросаў у Петраградзе супроць траўлі Леніна і большэвікоў.

**1 мая (18 красавіка).**

✱ Ленін трымае прамову з трыбуны ЦК перад рабочымі на святкаванні 1 мая.

**Заходні фронт.** Салдаты ўсюды ўдзельнічалі ў першамайскім свяце. У парадавых акопах выкідвалі чырвоныя флагі. На большасці ўчасткаў поўнае зацішша. Многа выпадкаў братання.

**Менск.** Грандыёзная першамайская дэманстрацыя і мітынг рабочых і салдат. Свята працягвалася да позняй ночы.

**Гомель.** Грандыёзная першамайская дэманстрацыя ў Гомелі. Пад большэвіцкімі сцягамі і лозунгамі ішлі ўзброеныя шматтысячныя масы рабочых і салдат, ваенна-тэхнічных часцей: завода ВОПС, 3-га карэннага парка, 2 воздухаплавацельнага парка, 2 авіяцыйнай базы і каля тысячы беспартыйных рабочых і салдат, якія адкалоліся ад згодніцкіх дробна-буржуазных партый, кабісці пад большэвіцкім лозунгам «Уся ўлада советам рабочых і салдацкіх дэпутатаў».

Дэманстрацыя прашла з вялікім рэволюцыйным уздымам.

**3—4 мая (20—21 красавіка).**

✱ На вуліцах Петраграда праходзяць масавыя дэманстрацыі, арганізаваныя большэвікамі.

**3—6 мая (20—23 красавіка).**

**Менск.** Адбыўся з'езд сялянскіх дэпутатаў Менскай і Віленскай губерній. Прыбыло звыш 800 дэлегатаў. Старшынёй з'езда абраны большэвік Фрунзе (Міхайлаў). Па зямельнаму пытанню з'езд выказаўся за знішчэнне прыватнай уласнасці на зямлю. З'езд патрабаваў удаліць усіх павятовых камісараў Часовага ўрада і пераглядзець склад павятовых камітэтаў, абнавіўшы іх прадстаўнікамі сялян. Пастаноўлена ўдаліць ксяндзоў і папоў—прыхільнікаў старога рэжыму.

**4 мая (21 красавіка).**

**В. І. Ленін** прымае ўдзел у пасяджэнні ЦК па пытанню аб крызісе, выкліканым нотай Мілюкова. ЦК прымае рэзалюцыю, прапанаваную Леніным.

**5 мая (22 красавіка).**

**Менск.** Менскім Советам Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў прымаецца рэзалюцыя, накіраваная супроць ноты Часовага ўрада саюзным дзяржавам аб вайне да пераможнага канца.

**Гомель.** У «Дзень рабочага друку» кружачным зборам сабрана на большэвіцкі друк каля 6000 рублёў.

**6 мая (23 красавіка).**

**Менск.** Рабочымі мясцовых друкарань явачным парадкам уведзен 8-гадзінны рабочы дзень.

**Гомель.** Агульны сход членаў і спачуваючых Палескай арганізацыі большэвікоў у Гомелі. Прынята рэзалюцыя пратэсту супроць ноты Мілюкова ад 18/IV 1917 г.

У рэзалюцыі адзначалася: «Нота Часовага ўрада ад 18/IV г. г. з вычарпальнай паўнатою і яснасцю даказала, што гэты ўрад, у сілу сваёй цеснай сувязі з інтарэсамі імперыялістычных капіталістычных колаў, не можа шчыра і справядліва весці барацьбу за спыненне бяссэнснай братазабойчай вайны, выкліканай імперыялістычнымі рабаўнічымі імкненнямі таго класа, прадстаўнікамі якога яны з'яўляюцца. Адзіная ўлада, якая адна здольна дабіцца хутчэйшага скан-чэння гэтай бойні і заключэння міру на аснове адмаўлення ад анексій і кантрыбуцый і свабоднага самавызначэння народаў—гэта Советы рабочых, салдацкіх, сялянскіх і батрацкіх дэпутатаў, вакол якіх мы заклікаем згуртавацца рэволюцыйны народ і рэволюцыйную армію» (партархіў Беларусі, справа 147, стар. 157).

**7 мая (24 красавіка).**

✸ Адчыненне Ўсерасійскай красавіцкай канферэнцыі большэвікоў у Петраградзе. Даклад Леніна па бягучаму моманту. У спрэчках выступае таварыш Сталін.

**Гомель.** Шматлікія масавыя мітынгі і сходы на фабрыках, заводах і ў казармах Гомеля і Нова-Беліцы пад кіраўніцтвам большэвікоў Палескай арганізацыі. Рабочыя і салдаты пратэстуюць супроць ноты Мілюкова ад 18/IV.

**8 мая (25 красавіка).**

✸ На пасяджэнні красавіцкай канферэнцыі па прапанове Леніна прымаецца рэзалюцыя аб адмаўленні ад удзелу ў Стокгольмскай канферэнцыі.

✸ У газеце «Правда» № 40 публікуецца артыкул таварыша Сталіна «Аб нарадзе ў Марыінскім палацы».

**11 мая (28 красавіка).**

✸ На вячэрнім пасяджэнні красавіцкай канферэнцыі большэвікоў **В. І. Ленін** робіць даклады па аграрнаму пытанню і аб пераглядзе партыйнай праграмы.

**12 мая (29 красавіка).**

✵ На красавіцкай канферэнцыі большэвікоў таварыш **Сталін** робіць даклад па нацыянальнаму пытанню. **В. І. Ленін** выступіў з заключнай прамовай на закрыцці канферэнцыі.

✵ У «Праўде» апублікован «Праект статута рабочай гвардыі».

**13 мая (30 красавіка).**

**Менск.** У склад дэлегацыі, якая выехала на Ўсерасійскі сялянскі з'езд ад Менскай і Віленскай губ., уваходзіць старшыня Менскага сялянскага саюза Фрунзе (Міхайлаў).

**16 (3) мая.**

✵ Адчыненне Ўсерасійскага з'езда сялянскіх дэпутатаў у Петраградзе.

**Менск.** За апошні час у Менску ўтварылася больш 20-ці прафесіянальных рабочых саюзаў, якія аб'ядналі больш 10 тысяч членаў.

**17 (4) мая.**

✵ У газеце «Праўда» апублікован артыкул таварыша **Сталіна** «Адстаўшыя ад рэволюцыі».

**20 (7) мая.**

✵ Адкрытае пісьмо Леніна да дэлегатаў Усерасійскага з'езда сялянскіх дэпутатаў.

**Ігумен.** З'езд сялянскіх дэпутатаў Ігуменскага павета. Прысутнічае 132 чал.

З'езд далучаецца да рашэння Менскага сялянскага з'езда па зямельнаму пытанню.

**21 (8) мая.**

**Петраград. В. І. Ленін** робіць даклад аб Усерасійскай красавіцкай канферэнцыі большэвікоў на партыйным сходзе ў памяшканні морскага корпуса.

**24 (11) мая.**

**Менск.** Пасяджэнне Совета Р. і С. Д. зацвярджае статут Совета, згодна якому пленум совета ўтвараецца з прадстаўнікоў профсаюзаў, фабрык, заводаў і майстэрань.

Прынята рашэнне аб скліканні на 26 мая (8 чэрвеня) Абласнога з'езда Советаў Заходняй вобласці.

✵ Газета «Фронт» у № 3 друкуе паведамленне, што адна дывізія заходняга фронта не толькі братаецца з немцамі, але і прапаведуе гэтае братанне, як адну з галоўных задач дня.

**28 (15) мая.**

✵ На Паўночным фронце вышаў першы нумар большэвіцкай газеты «Окопная правда».

**31 (18) мая.**

**Менск.** Сход служачых і рабочых Лібава-Роменскай чыгункі. Пры з'яўленні на сходзе чорнасоценца Пурышкевіча рабочыя і частка служачых дэманстрацыйна пакінулі залу з крыкам «далоў пагромшчыкаў». Сход быў сарваны. Пурышкевіч слова не атрымаў.

✱ Забастоўка прачак і гладзільшчыц. Патрабаванні: 8-гадзінны рабочы дзень і павелічэнне зарплаты.

✱ Адбываюцца перавыбары дэпутатаў Менскага Совета Р. і С. Д.

**Марочы.** (Менск. губ.) Сяляне падзялілі паміж сабой усю царкоўную зямлю.

**Мір.** (Менск. губ.). Салдаты разграмілі палац князя Святаполк-Мірскага. Повадам да разгрому паслужыла выяўленне ў маёнтку князя «Чырвоная горка» зарытых у зямлю 3.000 пудоў хлеба і іншых прадуктаў.

**1 чэрвеня (19 мая).**

**Менск.** Першы гарадскі сход большэвікоў. Прынята рашэнне выйсці большэвікам з меншавіцкай аб'яднанкі і стварыць самастойную арганізацыю. Выбрана часовае бюро на чале з тав. Мяснiковым А. Ф.

✱ У Совеце Р. і С. Д. арганізавана большэвіцкая фракцыя.

**3, 6 і 8 чэрвеня (21, 24 і 26 мая).**

✱ У «Правде» публікуюцца артыкулы «Муніцыпальная кампанія» за подпісам **Сталін.**

**4 (22) чэрвеня.**

✱ Даклад **Леніна** па аграрнаму пытанню на I Усерасійскім з'ездзе сялянскіх дэпутатаў.

**5 чэрвеня (23 мая).**

**Менск.** Адкрыўся абласны з'езд прадстаўнікоў Советаў Р. і С. Дэпутатаў. Прысутнічае 100 дэлегатаў ад Менскай, Віленскай, Віцебскай, Магілеўскай і Смаленскай губ. З'езд займаецца абмеркаваннем праграмы Ўсерасійскага з'езда Советаў Р. і С. Д., а таксама ўстанаўлення кантакту ў дзеяннях Советаў свайго края.

**6 чэрвеня (24 мая).**

**Магілеў.** Выходзіць першы нумар газеты «Крестьянское слово», надрукаваны ў захопленай Советам Сялянскіх Дэпутатаў друкарні земства. Газета рэкамендуе сялянам чытаць «Правду», «Солдатскую правду» і байкатаваць буржуазныя газеты.

**9 чэрвеня (27 мая).**

✱ Расфармаванне раду палкоў на фронце за адмаўленне ісці ў наступленне.

**10 чэрвеня (28 мая).**

✱ **В. І. Ленін** у «Правде», у артыкуле «Пераход контррэволюцыі ў наступленне», выкрывае імперыялістычны характар Часовага ўрада, які выдаў пастанову аб расфармаванні 4 палкоў за адмаўленне ісці ў наступленне. В. І. Ленін папярэджвае рабочых, салдат і ўсіх працоўных: «Контррэволюцыя памешчыкаў і капіталістаў пераходзіць ў наступленне».

**Менск.** Адбываецца паседжанне Менскага Совета Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў у новым складзе. Паседжанне прысвячаецца выбарам Выканаўчага Камітэта. Большасць выбраных—большэвікі.

**12 чэрвеня (30 мая).**

**Гомель.** На салдацкім мітынгу ў 143 этапным пункце па дакладу прадстаўніка Палескай арганізацыі (тав. Леплеўскага) была прынята большэвіцкая рэзалюцыя, якая выражала пратэст супроць драпежніцкіх нот англа-французскіх імперыялістаў і супроць заклікаў да наступлення на фронце. Рэзалюцыя заканчвалася так: «У інтарэсах умацавання рэволюцыйных заваёў народу і хутчэйшага сканчэння братазабойчай вайны мы патрабуем, каб уся ўлада ў краіне перайшла ў рукі самога народу ў асобе яго прадстаўнікоў—Советаў Рабочых, Салдацкіх і Сялянскіх Дэпутатаў».

**13 чэрвеня (31 мая).**

**В. І. Ленін** выступае на петраградскай канферэнцыі фабрычна-заводскіх камітэтаў па пытанню аб рабочым кантролі над прамысловасцю.

**Менск.** На сходзе большэвікоў абмяркоўваецца рад арганізацыйных пытанняў, а таксама пытанне аб выданні мясцовага штодзённага друкаванага органа пад назвай «Интернационал».

**15 (2) чэрвеня.**

✱ У «Правде» надрукован артыкул **Леніна** «Недэмакратычна, грамадзянін Керэнскі!» Гэты артыкул напісан супроць забароны Керанскім Усеукраінскага вайсковага з'езда.

**16 (3) чэрвеня.**

✱ Адкрыўся І Усерасійскі з'езд советаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

Па ўсіх асноўных пытаннях большэвікі ўносілі і адстойвалі свае прапановы, ствараючы платформу для мабілізацыі мас на рэволюцыйную барацьбу. Праз галаву эсэра-меншавіцкіх «правадыроў» большэвікі зварачаліся да мас.

У адказ на запэўніванні лідэра меншавікоў Цэрэтэлі, што ў Расіі няма такой партыі, якая згадзілася-б узяць уладу ў свае рукі, **Ленін** з месца заявіў: «Ёсць такая партыя!». Заява **В. І. Леніна** аб гатоўнасці большэвікоў узяць уладу ў свае рукі зрабілася цэнтрам ўвагі ўсяго з'езда.

**18 (5) чэрвеня.**

**Менск.** На экстраным паседжанні выканкома Заходняга фронта большэвік Мяснікоў прапануе рэзалюцыю супроць наступлення. Рэзалюцыя прымаецца пры 16 «за» і 3 устрымаўшыхся.

**21 (8) чэрвеня.**

**Гомель.** На шматлюдным салдацкім мітынгу (з удзелам звыш тысячы салдат) у 3-м карэнным парку, які знаходзіўся пад большэвіцкім уплывам, была прынята большэвіцкая рэзалюцыя па пытанню аб бягучым моманце, прапанаваная дакладчыкам ад Палескага камітэта большэвікоў. У рэзалюцыі гаварылася: «У імя міру, у імя вырaтавання соцень мільёнаў працоўных, якія стаяць на краі пагібелі ад голаду і гаспадарчай разрухі, у імя захавання вялікіх рэволюцыйных заваёў народу—улада ў краіне павінна безадкладна перайсці ў рукі самога народу ў асобе яго рэволюцыйных органаў—Советаў Рабочых, Салдацкіх і Сялянскіх Дэпутатаў».

**21—22 (8—9) чэрвеня.**

**Полацк.** Адбываецца сялянскі з'езд. Прысутнічае 215 дэлегатаў. Частка дэлегатаў патрабуе тэрмінова прыступіць да раздзелу памешчыцкіх зямель.

**22 (9) чэрвеня.**

✱ На І Усерасійскім з'ездзе Советаў **Ленін** выступіў па пытанню аб вайне і міры.

**23 (10) чэрвеня.**

✱ Вышаў першы нумар «Крестьянской газеты»—органа Выканаўчага Камітэта Совета Сялянскіх Дэпутатаў Менскай і Віленскай губ. Рэдактар—Старшыня Выканаўчага Камітэта Сялянскіх Дэпутатаў большэвік Фрунзе (Міхайлаў).

✱ «Крестьянская газета» у № 1 змяшчае артыкул Фрунзе (Міхайлава)—«Аб зямельных камітэтах».

**Менск.** Агульны сход Совета Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў горада выказаўся супроць загаду аб наступленні на фронце.

**26 (13) чэрвеня.**

✷ У «Правде» апублікован артыкул **В. І. Леніна** «На пераломе».

✷ У газеце «Солдатская правда» апублікован артыкул **Сталіна** «Крызіс рэволюцыі».

**Віцебск.** На губернскім сялянскім з'ездзе выступаюць прамоўцы з патрабаваннем неадкладнай перадачы памешчыцкай зямлі без выкупу сялянам.

✷ Аб'яўлена забастоўка ва ўсіх абутковых майстэрнях горада. Патрабаванне—павышэнне заработнай платы.

**27 (14) чэрвеня.**

✷ У «Правде» апублікован артыкул **Сталіна**—«Супроць разрозненых дэманстрацый».

**Гомель.** На сходзе маршавых рот 12 пяхотнага палка і часці 278 палка салдаты, заслухаўшы даклад аб палітычным моманце, у сваёй рэзалюцыі пісалі:

«Горача вітаем дарагія нам газеты «Правду» і «Солдатскую правду», шлем прывітанне таварышу Леніну..., як сапраўднаму барацьбіту за інтарэсы працоўнага народу і заяўляем, што будзем Вас падтрымліваць у гэтай цяжкай барацьбе з нашым агульным ворагам—капіталам.

Пратэстуем усімі сіламі супроць траўлі, якая вядзецца буржуазнымі газетамі супроць «Правды» і «Солдатской правды». Шлем прывітанне рэволюцыйным палкам Петраграда і Кранштата».

**29 (16) чэрвеня.**

✷ У Петраградзе адкрылася ўсерасійская канферэнцыя франтавых і тылавых ваенных арганізацый большэвікоў.

**Гомель.** Прыбыўшы з Ніжняга Ноўгарада на ст. Гомель эшалон ашуканых салдат, даведаўшыся аб тым, што іх накіроўваюць на Заходні фронт у наступленне, запратэставаў і катэгарычна запатрабаваў вярнуць іх назад.

**Канец чэрвеня.**

**Гомель.** Шматтысячная салдацкая маса Гомельскага размеркавальнага пункта (143 этапа) і іншых частак пасля мітынгу накіравалася са сцягамі і лозунгамі: «Далоў вайну», «Мір ва што-б там ні стала»—да ваеннай турмы і вызваліла роту са 157 салдат Дубненскага палка, арыштаваных за забойства жорсткага і ненавіснага ім генерала Пургасава і адмаўленне выканаць яго загад аб наступленні на фронце.

Разам з вызваленымі зняволенымі шматлюдная дэманстрацыя рушыла да памяшкання Совета, дзе быў наладжан мітынг, які выражаў настрой салдат супроць вайны і наступлення на фронце.

**1 ліпеня (18 чэрвеня).**

✱ Масавыя дэманстрацыі ў Петраградзе, Маскве і іншых гарадах пад большэвіцкімі лозунгамі: «Далоў міністраў-капіталістаў!» «Уся ўлада советам!»

**Ленін** па поваду гэтых дэманстрацый пісаў у «Правде» 3 ліпеня: «Дэманстрацыя развеяла ў некалькі гадзін, як жменьку пылу, пустыя гутаркі аб большэвіках-змоўшчыках і паказала з непраракаемай нагляднасцю, што авангард працоўных мас Расіі, прамысловы пролетарыят сталіцы і яе войскі, у пераважнай большасці стаяць за лозунгі, якія заўсёды абараняліся нашай партыяй».

**Менск.** У Менску адбываецца грандыёзная дэманстрацыя. Большэвікі нясуць лозунгі: «Наступленне ў сучасны момант—пагроза рэволюцыі і міру!». «Неадкладнае перамір'е!»

Не гледзячы на правакацыю кадэтаў, дэманстрацыя прайшла паспяхова.

**Віцебск.** Рабочыя-шчаціншчыкі аб'яўляюць забастоўку.

**Замір'е.** У дэманстрацыі, наладжанай мясцовым Советам Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў, прымаюць удзел каля 3000 чалавек. Дэманстрацыя праходзіць пад лозунгамі: «Няхай жыве міжнародны мір!» «Няхай жыве рэволюцыя!» «Няхай жыве соцыялізм!» «Уся ўлада Советам Рабочых, Салдацкіх і Сялянскіх Дэпутатаў!»

**3 ліпеня (20 чэрвеня).**

**Віцебск.** У Бешанковічах адбыўся мітынг сялян, на якім прысутнічала 300 чалавек. Выступіў рабочы Пуцілаўскага завода з патрабаваннем неадкладнага захвату памешчыцкай зямлі.

**5 ліпеня (22 чэрвеня).**

**Гомель.** Рабочыя і салдаты 2 тылавой аружэйнай майстэрні заходняга фронта і іншых частак, сабраўшыся на мітынгу, вынеслі рашучы пратэст супроць траўлі буржуазіяй і соцыял-здраднікамі В. І. Леніна, паслаўшы яму, як правадыру міжнароднага пролетарыята і барацьбіту за ідэі соцыялізма, сваё палкае прывітанне.

**7 ліпеня (24 чэрвеня).**

**Менск.** Агульны сход Менскага Совета Р. і С. Д. прымае рэзалюцыю пратэсту супроць арганізацыі контррэволюцыяй так званых «Ударных батальёнаў».

**8 ліпеня (25 чэрвеня).**

**Гомель.** У Гомелі, у сувязі з чэрвеньскай дэманстрацыяй у Петраградзе, адбылася грандыёзная дэманстрацыя рабочых і салдат 40-тысячнага гарнізона.

Пераважная большасць дэманстрантаў ішла арганізавана пад

баявымі большэвіцкімі лозунгамі: «Уся ўлада Советам!» «Далоў 10 міністраў-капіталістаў!» «Пратэстуем супроць расфармавання рэволюцыйных палкоў», «Мы патрабуем рабочага кантролю над вытворчасцю», і т. д.

**11 ліпеня (28 чэрвеня).**

**Віцебск.** Агульны сход Совета Салдацкіх Дэпутатаў выносіць рэзалюцыю, у якой заяўляе, што не дапусціць існавання «саюза афіцэраў, урачоў і чыноўнікаў».

✱ Экстраны агульны сход салдат 2-ой батарэі 7 запаснага артылерыйскага дывізіёна па пытанню аб узнікненні «Саюза афіцэраў, урачоў і чыноўнікаў гарнізона» прымае рэзалюцыю, у якой прапануе Віцебскаму Совету Салдацкіх Дэпутатаў неадкладна разагнаць гэту арганізацыю, не спыняючыся нават перад прымяненнем узброенай сілы.

**12 ліпеня (29 чэрвеня).**

✱ У Гомельскім павеце працягваецца захоп сялянамі памешчыцкіх лугоў і пасбішчаў. Глешаўскі валасны камітэт пастанавіў адабраць лугі ад землеўладальніка Глешнера.

**13 ліпеня (30 чэрвеня).**

**Віцебск.** Сход тылавой № 5 артылерыйскай майстэрні Паўночна-Заходняга фронта прапануе Совету Салдацкіх Дэпутатаў разагнаць контррэволюцыйны «Саюз афіцэраў, урачоў і чыноўнікаў», не спыняючыся перад прымяненнем узброенай сілы.

(У гэты перыяд у гэтай часці знаходзіўся Н. І. Ежоў).

**14 (1) ліпеня.**

✱ Адчыненне II агульнагарадской канферэнцыі большэвікоў у Петраградзе.

**16 (3) ліпеня.**

**Петраград.** Забастоўка і грандыёзная дэманстрацыя рабочых і салдат петраградскага гарнізона пад большэвіцкімі лозунгамі.

**17 (4) ліпеня.**

**Петраград.** Магутныя дэманстрацыі рабочых пад большэвіцкімі лозунгамі з удзелам воінскіх часцей і прыбыўшых з Кранштата матросаў.

**18 (5) ліпеня.**

✱ Разгром юнкерамі рэдакцыі газеты «Правда» і друкарні «Труд.». Часовы ўрад закрыў большэвіцкія газеты: «Правду», «Окопную правду» і «Солдатскую правду».

**Менск.** Выканаўчы Камітэт Менскага Совета прымае рэзалю-

цыю пратэсту супроць законаў Часовага ўрада (525, 526) аб арышце асоб, якія вядуць агітацыю супроць Часовага ўрада.

**19 (6) ліпеня.**

✱ Позна ўночы Часовы ўрад аддае распараджэнне аб арышце **Леніна.** Уладзімір Ільіч пераходзіць на нелегальнае становішча.

**20 (7) ліпеня.**

✱ Вобыск на кватэры Леніна і Крупскай.

**Пачатак ліпеня** (па старому стылю).

**Гомель.** Стыхійная дэманстрацыя 10-тысячнай масы салдат размеркавальнага пункта перад памяшканнем Совета (у парку был. князя Паскевіча). Эсэра-меншавіцка-бундаўскія дэпутаты Совета, перапалохаўшыся, скрыліся. Толькі большэвіцкай фракцыі Совета гарачымі перакананнямі і тлумачэннем удаецца аўладаць стыхіяй і надаць выступленню арганізаваны і мірны характар.

З Нова-Беліцы пад кіраўніцтвам большэвікоў найбольш арганізавана прыбылі ў парк к будынку Совета 2-тысячная маса рабочых завода ВОПС і іншых прадпрыемстваў, на плакатах і сцягах якіх красаваўся лозунг: «Уся ўлада Советам Рабочых, Салдацкіх і Батрацкіх дэпутатаў!»

Каля памяшкання Совета быў праведзен агульны сумесны мітынг, на якім маса рабочых і салдат выражала сваё грознае абурэнне і пратэст супроць расстрэла ліпеньскай дэманстрацыі ў Петраградзе, супроць вайны, супроць расфармавання рэволюцыйных палкоў і аднаўлення кары смерцю на фронце. На мітынгу была прынята большэвіцкая рэзалюцыя, якая асуджала імперыялістычную палітыку Часовага ўрада і меншавіцка-эсэраўскіх здраднікаў, выражала гатоўнасць мас падтрымаць петраградскіх рабочых, матросаў і рэволюцыйных салдат гарнізона.

**22 (9) ліпеня.**

**Менск.** Рэдакцыя «Крестьянской газеты» змяшчае пісьмо «Аб Беларускім нацыянальным камітэце» за подпісам старшыні Выканаўчага Камітэта Советаў Сялянскіх Дэпутатаў Фрунзе (Міхайлава) і групы настаўнікаў-ваенных, беларусаў:

«... У інтарэсах дэмакратыі ўсёй Беларусі мы лічым сваім доўгам заявіць, што «Беларускі нацыянальны камітэт» з буйнымі мясцовымі памешчыкамі, якія стаяць за ім, не з'яўляецца ні выразнікам волі беларусаў, ні іх прадстаўніком, што выразілася ў пастановах Сялянскага з'езда Менскай і часткі Віленскай губ., Менскага губернскага настаўніцкага з'езда і групы настаўнікаў-ваенных, ураджэнцаў Менскай, Віленскай, Магілеўскай, Віцебскай і Гродненскай губерній—удзельнікаў фронтавага настаўніцкага ваеннага з'езда.

... Выканаўчы камітэт сялянскіх дэпутатаў Менскай і Віленскай губерній і Менскага губернскага настаўніцкага з'езда заяўляюць, што яны ніякіх адносін да збору, арганізаванага «Беларускім нацыянальным камітэтам», не маюць і гэткага не падтрымліваюць».

**24 (11) ліпеня.**

✱ **Ленін** ноччу пераязджае ў Сестрарэцк, дзе і скрываецца ў рабочага Н. А. Емельянава спачатку на чардаку сарая, затым, на працягу некалькіх тыдняў, у шалашы на сенакосе, у некалькіх вярстах да станцыі Разліў.

**Канец ліпеня.**

**Гомель.** У Гомель прыехаў адзін з лепшых ленінцаў, бліжэйшы саратнік таварыша Сталіна—Л. М. Кагановіч. Хутка пасля прыезду Л. М. Кагановіч быў выбран старшынёй Палескага камітэта большэвікоў і членам Выканкома Гомельскага совета.

З часу прыезду Л. М. Кагановіча ў Гомель Палеская арганізацыя фактычна стала выконваць функцыі абласной арганізацыі, пашыраючы сваё кіраўніцтва і ўплыў на Гомель, Нова-Беліцу, Рэчыцу, Рагачоў, Быхаў, Магілеў і інш.

**Канец ліпеня, пачатак жніўня.**

**Гомель.** Палескі камітэт большэвікоў на чале з Л. М. Кагановічам правёў масавую кампанію агітацыі за адкліканне і перавыбары згодніцкіх меншавіцка-эсэраўскіх і бундаўскіх дэпутатаў Совета, якія не апраўдалі давер'я і волі выбаршчыкаў. На буйных прадпрыемствах і ў спецыяльных ваенна-тэхнічных часцях рабочыя і салдаты ў большасці выбіралі дэпутатаў-большэвікоў, замест ранейшых эсэраў, меншавікоў і бундаўцаў.

**2 жніўня (20 ліпеня).**

**Віцебск.** Скончылася забастоўка краўцоў. Патрабаванні рабочых поўнасцю здаволены.

✱ Агульны сход салдат рухомай рамонтнай майстэрні пры Інтэнданцтве штаба арміі ў прынятай рэзалюцыі пратэстуе супроць увядзення кары смерцю.

**3 жніўня (21 ліпеня).**

✱ У Маскве адкрылася Абласная канферэнцыя большэвікоў.

**4 жніўня (22 ліпеня).**

**Менск.** Закрылася нарада Фронтавага Камітэта Заходняга фронта з армейскімі камітэтамі. Прынята прапанова большэвікоў аб неабходнасці папаўнення складу фронтавага камітэта армейскімі

прадстаўнікамі з правам рашаючага голасу. Фармаванне «ударных батальёнаў» нарада прызнала недапушчальным.

**5 жніўня (23 ліпеня).**

✱ Вышаў першы нумар большэвіцкай газеты «Рабочий и солдат».

**6 жніўня (24 ліпеня).**

✱ У газеце «Рабочий и солдат» апублікавана адозва агульнагарадской петраградскай канферэнцыі большэвікоў, напісаная таварышом **Сталіным**,—«Да усіх працоўных, да ўсіх рабочых і салдат Петраграда».

**7 жніўня (25 ліпеня).**

**Масква.** Маскоўскі совет рабочых і салдацкіх дэпутатаў прыняў рэзалюцыю супроць увядзення кары смерцю.

✱ Адбылася папярэдняя нарада дэлегатаў VI з'езда РСДРП. Нарада па прапанове Свердлова, побач з іншымі пытаннямі, намеціла раёны для дакладаў на з'ездзе, у тым ліку быў намечан даклад дэлегата Менска ад усяго Паўночна-заходняга раёна.

**Менск.** Сход Цэнтральнага бюро профсаюзаў з удзелам праўленняў і заводскіх камітэтаў. Па пытанню аб бягучым моманце прынята рэзалюцыя, у якой гаворыцца, што пролетарыят і сялянства абавязаны самастойна давесці рэволюцыю да поўнай перамогі. Сход пратэстуе супроць траўлі і арышту большэвіцкіх правадыроў.

Выносіцца пратэст супроць увядзення кары смерцю.

**8 жніўня (27 ліпеня).**

✱ У Петраградзе на Выбаргскай старане адкрыўся VI з'езд партыі. Пасяджэнні з'езда праходзілі пад непасрэдным кіраўніцтвам таварыша **Сталіна** ў поўлегальных умовах.

Адным з першых абмяркоўвалася на з'ездзе пытанне аб яўцы Леніна на суд. Даклад рабіў **Серго Орджанікідзе.** Ён катэгарычна выказаўся супроць яўкі **Леніна** на суд. З'езд выказаўся супроць яўкі Леніна на суд, чым пацвердзіў пазіцыю таварыша Сталіна, занятую ім адразу-ж пасля разгрому ліпеньскай дэманстрацыі.

**9 жніўня (27 ліпеня).**

✱ VI з'езд партыі большэвікоў заслухаў палітычную справаздачу ЦК—даклад **Сталіна.**

**Менск.** Агульным сходам партыйнай арганізацыі большэвікоў па пытанню аб бягучым моманце прынята рэзалюцыя ЦК РСДРП(б), Петраградскага і Маскоўскага к-та і Маскоўскага абласнога бюро РСДРП(б).

✱ Пры Менскім камітэце РСДРП(б) утварылася Калегія для вядзення агітацыйнай работы.

✷ Вышаў першы нумар «Звязды»—орган Менскага камітэта РСДРП (большэвікоў).

✷ У «Звезде» № 1 змешчана адозва Менскага камітэта РСДРП(б). Адозва ўказвае на мэты і задачы большэвікоў і заклікае масы згуртавацца вакол большэвіцкай партыі.

**12 жніўня (30 ліпеня).**

**Петраград.** З'езд РСДРП(б). Дакладчык ЦК Свердлоў адзначыў, што ў сучасны момант Менск налічвае ў радах арганізацыі 4 тысячы членаў.

**Менск.** Рэдакцыя газеты «Звезда» шле гарачае прывітанне VI з'езду рэволюцыйных соцыял-дэмакратаў (большэвікоў).

**13 жніўня (31 ліпеня).**

✷ VI з'езд РСДРП (большэвікоў)—заключнае слова **Сталіна** па дакладу аб палітычным становішчы.

✷ Адчыненне ў Маскве Ўсерасійскага З'езда Сялянскага Саюза.

**15 (2) жніўня.**

✷ VI з'езд РСДРП (большэвікоў)—прыняцце статута партыі.

**16 (3) жніўня.**

**Гомель.** На сходзе Гомельскага совета па пытанню аб адтэрміноўцы Часовым урадам склікання Ўстаноўчага сходу разгарнулася вострая барацьба большэвікоў з меншавікамі і бундаўцамі.

Большэвікі патрабавалі безадкладнага склікання Ўстаноўчага сходу ў вызначаны I з'ездам Советаў тэрмін (17/IX), ажыццяўлення Советам кантролю і кіраўніцтва выбарамі і забеспячэння поўнай свабоды прадвыбарнай агітацыі ў войсках, у тылу і на фронце. Прапановы большэвікоў былі ўключаны ў рэзалюцыю Совета.

**17 (4) жніўня.**

**Менск.** Заключоныя Часовым урадам у турмы большэвікі-салдаты ў ліку 80 чалавек вітаюць «Звезду» і пасылаюць ў яе фонд грошы ў суме 21 р. 51 к. Паступаюць у газ. «Звезда» прывітанні ад многіх вайсковых частак і сходаў рабочых і сялян.

**18 (5) жніўня.**

**Менск.** Сход членаў Совета С. і Р. Д. г. Менска. У прынятай рэзалюцыі супроць увядзення ў арміі Часовым урадам кары смерцю, Менскі Совет патрабуе ад Часовага ўрада неадкладнай і канчатковай адмены кары смерцю.

**22 (9) жніўня.**

✷ Маскоўскі акруговы камітэт большэвікоў вынес пастанову аб арганізацыі масавых пратэстаў у дзень адкрыцця Маскоўскай дзяржаўнай нарады.

✱ На фронце праводзяцца масавыя арышты рэволюцыйных салдат. У Менск прыбыло з фронта 2000 арыштаваных.

**23 (10) жніўня.**

✱ Закрыццё Часовым урадам большэвіцкай газеты «Рабочий и солдат».

**23 (10) жніўня.**

**Гомель.** У канцы жніўня пад кіраўніцтвам Л. М. Кагановіча ў Гомелі была праведзена абласная партканферэнцыя большэвікоў.

Канферэнцыя праходзіла пад знакам выканання дырэктыў Леніна і Сталіна і рашэнняў VI з'езда партыі аб падрыхтоўцы да ўзброенага паўстання.

К гэтаму часу Палеская арганізацыя большэвікоў налічвала каля 800 членаў партыі. Гэта канферэнцыя яшчэ мацней згуртавала большэвіцкую арганізацыю, мабілізаваўшы яе на падрыхтоўку да ўзброенага паўстання і пашырыла ўплыў і кіраўніцтва Палескага камітэта не толькі ў Гомелі і Новабеліцы, але і на суседнія гарады і раёны: Рэчыцу, Рагачоў, Быхаў, Клінцы, Магілеў і інш.

**24 (11) жніўня.**

✱ Масавы пратэст маскоўскіх рабочых супроць склікання Дзяржаўнай нарады.

**25 (12) жніўня.**

✱ Усеагульная забастоўка ў Маскве ў дзень адкрыцця Дзяржаўнай нарады.

**26 (13) жніўня.**

✱ Выхад першага нумара большэвіцкай газеты «Пролетарий». Апублікаванне маніфеста VI з'езда партыі большэвікоў.

**27 (14) жніўня.**

**Менск.** Адбыўся агульны партыйны сход большэвікоў, на якім быў зроблен даклад аб VI партыйным з'ездзе і аб прынятых Менскім камітэтам мерах па скліканню абласнога з'езда ваеннай і гарадской арганізацыі. Агульны сход у колькасці 400 членаў ухваліў усе рашэнні VI партыйнага з'езда.

**28 (15) жніўня.**

**Замір'е.** Агульны сход Замір'еўскага камітэта РСДРП(б), заслухаўшы рэзалюцыю VI з'езда па пытаннях аб палітычным моманце і вайне, выражае сваё поўнае давер'е VI партыйнаму з'езду, які правільна ацаніў момант, прапануе ўсе свае сілы і сродкі на арганізацыю мас для перамогі над імперыялістычнай буржуазіяй і шле сваё таварыскае прывітанне ЦК партыі.

**29 (16) жніўня.**

✱ У № 3 газеты «Пролетарий» апублікавана пісьмо **Леніна** з рэзкай крытыкай здрадніцкага выступлення Каменева на Ўсерасійскім Цэнтральным Выканаўчым Камітэце советаў 6 жніўня па поваду Стокгольмскай канферэнцыі.

**Менск.** Адбылося адчыненне партыйнай школы. На першую лекцыю з'явілася 50 слухачоў.

**30 (17) жніўня.**

✱ У № 4 газеты «Пролетарий» надрукован артыкул **Сталіна** «Вынікі нарады».

**Менск.** Менскі камітэт РСДРП(б) зварачаецца да ўсіх партыйных арганізацый Паўночна-заходняй вобласці (гарады: Віцебск, Полацк, Магілеў, Гомель, Бабруйск, Слуцк, Барысаў і інш.) з паведамленнем, што з прычыны крайняй неабходнасці ўліку партыйных сіл, іх згуртавання, арганізацыі работы ў арміі і падрыхтоўкі да выбараў ва Ўстаноўчы сход Менскі Камітэт РСДРП(б), згодна пастанове агульнага сходу членаў партыі ў г. Менску і папярэдніх перагавораў з некаторымі прадстаўнікамі іншагародніх арганізацый, склікае на 1 верасня 1917 г. абласную канферэнцыю РСДРП(б), на якую запрашаюцца ўсе большэвіцкія і парваўшыя з абаронцамі соцыял-дэмакраты Паўночна-заходняга края. Норма прадстаўніцтва: па аднаму дэлегату ад кожнай сотні арганізаваных членаў партыі. Парадак дня канферэнцыі: 1) Даклады з месц, 2) Аб бягучым моманце, 3) Аб выбарах ва Ўстаноўчы сход, 4) Арганізацыйныя пытанні, 5) Выбары.

✱ Паседжанне Менскага Совета Р. і С. Д. Выступае Мяснікоў, які гаворыць аб тым, што ўлада пасля ліпеньскіх дзён перайшла да контррэволюцыі, якая разлічвае абаперціся на штык. Але яна памыляецца, бо штык будзе накірован супроць яе-ж.

✱ Паседжанне Менскага Совета Р. і С. Д. прымае рэзалюцыю, якая выражае рашучы пратэст супроць забароны вышэйшымі ваеннымі ўладамі Заходняга фронта схода ротных і палкавых камітэтаў, скліканага на 17 жніўня. Совет заяўляе, што гэты сход будзе склікан.

✱ Выканаўчы камітэт Заходняга фронта пастанаўляе не прымаць ніякага ўдзелу ва Ўсерасійскім Ваенным Саюзе і яго канферэнцыі, як у варожым дэмакратыі органе. Армейскі камітэт 3-й арміі адмаўляецца пасылаць дэлегатаў на канферэнцыю Ўсерасійскага Ваеннага Саюза.

**31 (18) жніўня.**

✱ У № 5 газеты «Пролетарий» надрукаваны артыкул **Сталіна**. «Аб прычынах ліпеньскага паражэння на фронце» і «Правда аб становішчы на фронце».

**Жнівень.**

**Менск.** Менскі Камітэт РСДРП(б) на сваім пасяджэнні ў сувязі з рашэннямі VI партыйнага з'езда аб утварэнні самастойных фракцый ва ўсіх агульнарэволюцыйных органах пастанавіў: звярнуцца да таварышоў большэвікоў фронтавага камітэта з прапановай стварыць сваю фракцыю пры Выканаўчым Камітэце Заходняга фронта.

**1 верасня (19 жніўня).**

**Менск.** Менскі Камітэт РСДРП(б) звяртаецца да ўсіх інтэрнацыянальна-рэволюцыйных соцыял-дэмакратычных арганізацый армій Заходняга фронта з заклікам прыняць удзел у склікаемай на 14 (1-ае) верасня фронтавай канферэнцыі большэвікоў.

**Маладзечна.** Ваенны суд за братанне з непрыяцелем прыгаварыў 5 салдат да катаржных работ на 10 год і аднаго на 4 гады ў арыштанцкія роты.

**6 верасня (24 жніўня).**

✷ Закрыццё Часовым урадам большэвіцкай газеты «Пролетарий».

**7 верасня (25 жніўня).**

**Менск.** Выхад першага нумара большэвіцкай газеты «Рабочий». Пачатак руху карнілаўскіх войск на Петраград.

✷ Па загаду ваеннага міністра закрываецца ў Менску газета «Звезда». № 18 канфіскуецца.

**8 верасня (26 жніўня).**

✷ Заклік Цэнтральнага Камітэта большэвікоў да арганізацыі рабочых дружын у Петраградзе, Маскве і іншых гарадах.

**10 верасня (28 жніўня).**

**Магілеў.** Горад абвешчан Карнілавым на асадным становішчы. Совет Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў распушчан. Забаронены мітынгі, уведзена ваенная цэнзура.

**Менск.** У ноч на 10 верасня атрымана тэлеграма аб мяцежы Карнілава. Менскі Совет Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў арганізаваў Рэволюцыйны Камітэт. Устаноўлены кантроль над тэлефонам, тэлеграфам, чыгункамі, перакідкай войск і т. д. Прынята пастанова не дазваляць перакідку войск з фронта ў тыл без дазволу ВРК.

**Орша.** Прадстаўнікамі Менскага Совета Р. і С. Д. арганізован рэволюцыйны атрад з мэтай затрымаць войскі Карнілава, якія прасоўваюцца на Петраград.

**10 верасня (28 жніўня).**

**Гомель.** На масавым мітынгу рабочых і салдат каля Совета (у парку былога князя Паскевіча), была прынята большэвіцкая рэзалю-

цыя, якая рэзка асуджала трусасць, хістанне і здрадніцтва згоднікаў і патрабавала ад Совета «неадкладных рашучых дзеянняў» і выступлення на рэволюцыйную вайну «супроць контррэволюцыйнага генерала Карнілава».

Салдаты аружэйных майстэрняў і 3-га артылерыйскага парка патрабавалі неадкладнага ўзбраення іх і тэрміновай адпраўкі эшалонам супроць Карнілава, каб бязлітасна разграміць штаб буржуазна-манархічнай контррэволюцыі. На гэтым-жа мітынгу па ініцыятыве большэвікоў быў адкрыт запіс добравольцаў у баявыя дружыны для барацьбы з карнілаўшчынай. У дружыны запісалася шмат рабочых.

**9—10 верасня (27—28 жніўня).**

**Гомель.** Рэволюцыйнымі заградзіцельнымі атрадамі Палескага камітэта на ст. Гомель былі затрыманы і арыштаваны некалькі дзесяткаў буйных агентаў і актыўных супольнікаў Карнілава, якія звараչаліся з карнілаўскай нарады ў штаб Дзенікіна для спешнай арганізацыі дапамогі штабу Карнілава.

Так быў арыштован бліжэйшы памочнік Карнілава, кандыдат на пост міністра гандлю і прамысловасці карнілаўскага ўрада Завойка, вагон Скорападскага і інш.

Палескі камітэт арганізаваў атрад у некалькі сот штыкоў, які з батарэяй рушыў эшалонам да Магілева супроць Карнілава.

**12 верасня (30 жніўня).**

✱ Пісьмо **Леніна** ў Цэнтральны Камітэт большэвікоў аб тактыцы партыі ў сувязі з карнілаўскім паўстаннем.

**Орша.** Аршанскі рэволюцыйны атрад заняў ст. Орша, Шклоў і Латву з мэтай затрымаць перакідку войск на Петраград.

**Менск.** ВРК разаслаў прадстаўнікоў у Оршу, Жлобін і Бабруйск для кантролю за перакідкай войск. У Менску арыштавана да 40 афіцэраў, ехаўшых з Стаўкі на фронт.

**13 верасня (31 жніўня).**

✱ Прыняцце большэвіцкай рэзалюцыі Петраградскім советам.

**Менск.** Профсаюзныя арганізацыі пастанавілі арганізаваць Чырвоную гвардыю.

**Менск.** Часовы рэволюцыйны камітэт Заходняга фронта паведамляе, што ён сканцэнтраваў у сваіх руках агульнае кіраўніцтва ўсімі дзеяннямі рэволюцыйных арганізацый Зах. фронта, дзейнічаючы ў поўнай згодзе з усімі мясцовымі рэволюцыйнымі цэнтрамі.

✱ Часовы Рэволюцыйны камітэт даводзіць да ведама ўсіх Советаў Рабочых, Салдацкіх і Сялянскіх Дэпутатаў Заходняга фронта, усіх партыйных і рэволюцыйных камітэтаў і профсаюзных арганізацый, што ім ажыццяўляюцца наступныя меры супроць контррэволюцыйнай карнілаўшчыны:

1. устанаўленне кантролю над дзейнасцю ўсіх паштовых і тэлеграфных устаноў, тэлефонных станцый як агульных, так і ваенных;

2. устанаўленне кантролю над дзейнасцю ўсіх грамадскіх, партыйных і палітычных арганізацый і ўстаноў, аб якіх ёсць весткі ці якія падазраваюцца ў спачуванні контррэвалюцыянерам;

3. неадкладны арышт усіх асоб, якія вядуць агітацыю за падтрыманне Карнілава;

4. устанаўленне нагляду за друкарнямі і выдавецтвамі.

**14 (1) верасня.**

**Орша.** Аршанскі рэвалюцыйны атрад накіраваўся на Магілеў для арышту Карнілава.

**Гомель.** На агульным сходзе Гомельскага Совета Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў большасцю галасоў (84 супроць 67) упершыню была прынята большэвіцкая рэзалюцыя, якая прызнавала «памылковай усю мінулую згодніцка-абарончую тактыку Совета» і патрабавала неадкладнага пераходу ўсёй улады ў рукі советаў, устанаўлення рабочага кантролю над вытворчасцю і размеркаваннем, нацыяналізацыі банкаў і неадкладнай перадачы ўсёй зямлі сялянам.

Рэзалюцыя меншавіцка-бундаўскай аб'яднанкі аб ўтварэнні новага кааліцыйнага ўрада была адхілена сходам Совета.

**14—15 (1—2) верасня.**

**Менск.** Склікана па ініцыятыве Менскага Камітэта РСДРП (большэвікоў) Заходне-франтавая і абласная канферэнцыя большэвікоў. На канферэнцыю з'явілася 46 дэлегатаў, якія прадстаўлялі 6.061 члена партыі: ад вобласці 15 дэлегатаў, выбраных ад 2.410 членаў партыі і ад фронта—31 дэлегат ад 3.651 члена партыі. З прычыны малой колькасці сабраўшыхся канферэнцыя была аб'яўлена нарадай. Старшынёю нарады выбран Мяснікоў. Прынят наступны парадак дня: 1) даклады з месц, 2) аб палітычных праследваннях, 3) бягучы момант, 4) аб скліканні канферэнцыі, 5) выбары ва Ўстаноўчы сход, 6) арганізацыйныя пытанні і 7) выбары.

Усе даклады з месц аднадушна ўстанаўлялі факт велізарнага росту арганізацый партыі большэвікоў.

Па пытанню аб бягучым моманце выступіў Мяснікоў. Аднагалосна былі прыняты абедзве прапанаваныя дакладчыкам рэзалюцыі: аб вайне і аб бягучым моманце.

Па пытанню аб скліканні франтавай абласной канферэнцыі большэвікоў прынята рашэнне склікаць канферэнцыю ў Менску 15 верасня. Прынят праект статута ваенных арганізацый на фронце.

Выбрана абласное і франтавае бюро РСДРП (большэвікоў) Зах. фронта ў складзе: Мяснікова, Магілеўскага і інш.

**16 (3) верасня.**

✱ Выхад першага нумара большэвіцкай газеты «Рабочий путь», у якім надрукован артыкул таварыша **Сталіна—«Крызіс і дырэкторыя».**

**Менск.** На агульным сходзе членаў Выканкома Зах. фронта разбіраецца пытанне аб кары смерцю. Большэвікі прапануюць рэзалюцыю ў наступнай фармуліроўцы: «Кара смерцю павінна быць неадкладна адменена». Рэзалюцыя прымаецца.

**18 (5) верасня.**

**Менск.** Чарговы сход менскага Совета.

Прымаецца рэзалюцыя па бягучых падзеях з папраўкаю большэвікоў аб неадкладнай перадачы памешчыцкай зямлі ў распараджэнне сялянскіх камітэтаў.

**Гомель.** Агульны сход перасыльных салдат, на якім удзельнічала 2000 чалавек, аднадушна прыняў рэзалюцыю, якая патрабавала: 1) неадкладнага «аддання генерала Карнілава і яго прыхільнікаў рэволюцыйнаму суду і казні, 2) прыняцця Советамі ўсіх мер для барацьбы за мір, 3) захавання ўзброеных рабочых дружын (Чырвонай гвардыі), каб у патрэбны момант устаць на абарону рэволюцыі.

**Мазыр.** 4-ты сялянскі з'езд Мазырскага павета прыняў рэзалюцыю з патрабаваннем: 1) перадачы памешчыцкай зямлі без выкупу сялянскім камітэтам, 2) увядзення рабочага кантролю ў прамысловасці і нацыяналізацыі галоўнейшых яе галін: нафтавай, каменавугальнай, металургічнай, 3) апублікавання тайных дагавораў усім ваюючым краінам свету. Па пытанню аб харчовым крызісе з'езд пастанавіў звярнуцца да сялянства з заклікам аб хутчэйшай дастаўцы хлеба для патрэб арміі і гарадоў, патрабуючы ўзамен забяспечыць вёску жалезам, мануфактурай і інш. прадуктамі прамысловасці.

З'езд яшчэ раз пацвярджае, што толькі народная ўлада, г. зн. улада, якая вышла з нетраў рабочага класа і сялянства, можа справіцца з разрухай.

Рэзалюцыя прынята аднагалосна.

**19 (6) верасня.**

**Магілеў.** Пасяджэнне Выканкома Магілеўскага Совета Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў. Абмеркаваўшы пытанне аб трыманні арыштаванага Карнілава і аб становішчы спраў у Стаўцы, Выканком знаходзіць, што старажавая ахова недастатковая, а памяшканне дае злачынцам магчымасць збегчы. Выканаўчы камітэт прымае рэзалюцыю, у якой патрабуе: узмацнення аховы, пераводу арыштаваных у турму, права бесперашкоднага кантролю месца зняволення ўпаўнаважанаму члену Выканкома Совета Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў, неадкладнага вываду з Магілева карнілаўскага ўдарнага тэкінскага палка і замены яго рэволюцыйнымі часцямі войск.

**20 (7) верасня.**

✱ Пасяджэнне палкавога камітэта артылерыйскай часці штаба 2-й арміі, абмеркаваўшы бягучы момант, вынесла рэзалюцыю, у якой заклікае таварышоў да яднання ў рэволюцыйнай барацьбе супроць

палітыкі імперыялізма, супроць вайны. Рэзалюцыя заканчваецца лозунгам: «Няхай жыве III Рэволюцыйны Інтэрнацыянал!»

**21 (8) верасня.**

✱ Рабочая секцыя Петраградскага Совета Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў выбрала большэвіцкі прэзідыум.

**22 (9) верасня.**

**Гомель.** На сходзе Гомельскага совета большасцю галасоў (122 супроць 112) была прынята рэзалюцыя большэвікоў па пытанню ад адносінах да Дэмакратычнай нарады. У рэзалюцыі падкрэслівалася неабходнасць барацьбы за звяржэнне контррэволюцыйнага буржуазнага ўрада і пераход ўсёй улады да Советаў, за «зямлю сялянам, мір народам, хлеб галодным». На гэтым-жа сходзе ў склад Абласнога выканаўчага камітэта ад Гомеля быў выбран большэвік тав. Леплеўскі.

Меншавіцка-бундаўскае кіраўніцтва Выканкома совета (Сеўрук, Газарх, Крэнцэль і Чэрненка) вымушана было на гэтым сходзе падаць у адстаўку.

**23 (10) верасня.**

✱ 3-яя Петраградская канферэнцыя фабрычна-заводскіх камітэтаў.

**23—27 (10—14) верасня.**

✱ **Ленін** піша брашуру «Пагражаючая катастрофа і як з ёю змагацца».

**25—27 (12—14) верасня.**

✱ **Ленін** напісаў пісьмо Цэнтральнаму, Пецербургскаму і Маскоўскаму Камітэтам партыі: «Большэвікі павінны ўзяць уладу».

**26 (13) верасня.**

**Менск.** Агульны сход РСДРП(б). Прысутнічае звыш 500 чалавек. Выбраны 12 дэлегатаў на абласную канферэнцыю. Праведзены перавыбары ў Менскі Камітэт.

З дакладам па асноўнаму пытанню схода—аб бягучым моманце—выступіў Мяснікоў. Па гэтаму пытанню сход прыняў рэзалюцыю, у якой гаворыцца, што інтарэсам рэволюцыі можа адпавядаць толькі ўлада, якая апіраецца на пролетарыят, вясковую беднату і рэволюцыйных салдат, што пролетарыят павінен імкнуцца да звяржэння існуючай улады і ўстанаўлення сваёй дыктатуры ў краіне.

✱ Фронтавая абласная нарада большэвікоў рашыла шырока арганізаваць партыйную работу ў арміі, утварыўшы ячэйкі: ротныя, батарэйныя, шпітальныя, транспартныя і іншыя для аб'яднання іх затым у дывізійныя, армейскія і фронтавыя камітэты.

**26—27 (13—14) верасня.**

✱ **Ленін** напісаў пісьмо Цэнтральнаму Камітэту партыі большэвікоў: «Марксізм і паўстанне».

**27 (14) верасня.**

✱ Ва ўсіх раёнах Петраграда закончана стварэнне асобных штабаў Чырвонай гвардыі.

**28 верасня—1 кастрычніка (15—18 верасня).**

**Менск.** Паўночна-заходняя Абласная Канферэнцыя РСДРП (большэвікоў).

Прысутнічала 67 дэлегатаў з рашаючым і 21 з дарадчым голасам, усяго 88 чалавек, якія прадстаўлялі 9.190 членаў партыі (6.548 у арміі і 2.642 у тылу). Ад арміі быў 61 дэлегат, а з абласцей 27 (Менск—16, Гомель—3, Бабруйск—2, Слуцк—2, Івенец—2, Замір'е—2).

Старшыня канферэнцыі Мяснікоў.

Парадак дня:

1) Рэпрэсіі супроць РСДРП (большэвікоў), 2) даклады з месц і Абласнога бюро, 3) аб бягучым моманце, 4) аб выбарах ва Ўстаноўчы сход, 5) арганізацыйныя пытанні і 6) бягучыя справы.

З дакладаў з месц выявілася, што на фронце рэпрэсіі супроць большэвікоў яшчэ мацней, чым у тылу. Там практыкуецца ў шырокіх памерах слежка і «вылоўліванне» большэвікоў і спачуваючых ім з радоў арміі. У ролі «дзяржыморд» выступае не толькі рэакцыйнае афіцэрства, але нават і меншавіцкія вайсковыя камітэты. Ва ўсіх дакладах адзначаецца паўсямесны рост у салдацкіх масах ідэй большэвізма.

У рэзалюцыі па пытанню аб эканамічным становішчы краіны канферэнцыя знаходзіць неабходным: перадачу ў рукі дзяржавы буйных і важных галін прамысловасці, увядзенне ўсеагульнай працоўнай павіннасці, устанаўленне кантролю над вытворчасцю з боку советаў, фабрычна-заводскіх камітэтаў, профсаюзаў і т. п.

У галіне сельскай гаспадаркі: увядзенне хлебнай манаполіі і неадкладная перадача ўсёй зямлі—памешчыцкай, манастырскай і т. д.— без выкупу ў рукі сялянскіх советаў і камітэтаў з адначасовым пераходам да іх і памешчыцкага інвентара.

Пераход банкаў к дзяржаве.

Канферэнцыя знаходзіць, што ўсе эканамічныя паляпшэнні магчыма ажыццявіць толькі пры двух умовах: 1) пры спыненні вайны і 2) устанаўленні ў краіне сапраўды рэвалюцыйнай улады—улады Советаў Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў.

Па пытанню аб рэпрэсіях супроць РСДРП (большэвікоў) прынята рэзалюцыя, якая патрабуе:

спынення ўсякага роду рэпрэсій у адносінах да паасобных членаў партыі і яе арганізацый;

спынення ўсіх узнятых судовых спраў палітычнага характару, неадкладнага вызвалення ўсіх арыштаваных і амніставання ўсіх асуджаных большэвікоў.

Па арганізацыйных пытаннях была прынята схема пабудовы партыйных арганізацый большэвікоў на фронце.

Канферэнцыя пастанавіла:

Назваць даную канферэнцыю Першай Паўночна-заходняй Абласной Канферэнцыяй РСДРП (большэвікоў). Паўночна-заходнюю вобласць лічыць створанай з губерній: Менскай, Магілеўскай, Віцебскай, часткі Віленскай і ўсяго Заходняга фронта.

Абласны цэнтр назваць: Паўночна-заходні Абласны Камітэт РСДРП(б). Лічыць газету «Молат» органам Паўночна-заходняга Абласнога Камітэта РСДРП(б).

Склікаць 5 кастрычніка г. г. надзвычайную абласную канферэнцыю па пытанню аб выбарах ва Ўстаноўчы сход.

Да абласной канферэнцыі склікаць на месцах папярэднія акруговыя канферэнцыі.

Выдаваць партыйны двухтыднёвы журнал. Ажыццяўленне даручыць Абласному Камітэту.

Пашырыць выданне партыйнай літаратуры.

Неадкладна прыступіць да стварэння на месцах партыйных школ.

Арганізацыям на месцах абавязкова адлічаць 10 проц. даходу ў касу Абласнога Камітэта.

Канферэнцыя даручыла Абласному Камітэту звярнуцца да арміі з прапановай правесці перавыбары агульнаармейскіх камітэтаў і советаў і ўтварыць агітатарскую калегію для вядзення агітацыі ў вёсцы.

У канцы заняткаў канферэнцыі выбран Паўночна-заходні Абласны Камітэт у колькасці 27 чалавек: 15 з фронта, 7 з Менска і 5 з вобласці.

Канферэнцыя намеціла 12 чалавек кандыдатаў ва Ўстаноўчы сход Зах. фронта і Менскай губ. Па Магілеўскай і Віцебскай губернях кандыдатаў прызначаюць акруговыя партыйныя канферэнцыі названых губерній.

**28 (15) верасня.**

**Менск.** Створана большэвіцкая фракцыя франтавага камітэта армій Заходняга фронта з 8 чалавек.

* Вышаў першы нумар газеты «Молот»—орган Паўночна-заходняга абласнога бюро РСДРП(б) замест закрытай Часовым урадам «Звезды».

**29 (16) верасня.**

**Менск.** Вольнанаёмныя рабочыя Менскай ваеннай паравой хлебапякарні і мукамольні ў колькасці 200 чалавек, абмеркаваўшы пытанне аб бягучым моманце, пастанавілі: 1) улада павінна перайсці толькі к Советам Рабочых, Салдацкіх і Сялянскіх Дэпутатаў, 2) зямля павінна быць зараз-жа адабрана ад памешчыкаў і перадана ў павято-

вын і губернскія сялянскія камітэты, 3) вайну неабходна неадкладна спыніць, 4) пратэставаць самым катэгарычным чынам супроць контррэвалюцыйных загадаў і прысудаў нашых таварышоў на катаргі і ў турмы за іх палітычныя перакананні, за адстойванне інтарэсаў рэвалюцыі. На сходзе сабрана 391 р. 81 кап. у карысць палітычных зняволеных у Менскай турме.

✵ Выдавецтва «Звезда» выпусціла брашуру Ал. Мартуні (Мяснікова)—«Пад чырвоны сцяг», прысвечаную пазіцыі большэвізма.

**30 (17) верасня.**

✵ **Ленін** пераехаў з Гельсінгфорса ў Выбарг для ўстанаўлення больш цеснай сувязі з Петраградам.

✵ У газеце «Рабочий путь» № 13 надрукаван артыкул **Сталіна** «Уся ўлада Советам».

По матар'ялах Інстытута Гісторыі Партыі пры ЦК КП(б) падрыхтавалі: навуковая работніца Інстытута **Андрэева**, па Гомелю матар'ял рыхтаваў **Маневіч**.
Рэдагаваў **Альяс**.

Н. Абузаў

# Гестапо

У сваім дакладзе на лютаўска-сакавіцкім Пленуме ЦК ВКП(б) таварыш Сталін гаварыў, што трэба «Прыняць неабходныя меры для таго, каб нашы таварышы, партыйныя і беспартыйныя большэвікі, мелі магчымасць знаёміцца з мэтамі і задачамі, з практыкай і тэхнікай шкодніцка-дыверсійнай і шпіёнскай работы замежных разведчых органаў».

Найбольш актыўным атрадам замежных разведак з'яўляецца Гестапо (дзяржаўная тайная паліцыя)—орган разведкі фашысцкай Германіі.

Фашысцкая дыктатура з'яўляецца лютай тэрарыстычнай дыктатурай найбольш рэакцыйных элементаў фінансавага капітала. Усе гэтыя рысы зверскай дыктатуры фашызма ўвасоблены ў органе фашысцкай разведкі. Гестапо з'яўляецца дзецішчам фашысцкай дыктатуры, зброяй для выканання яе крывавых мэт. Яна арганізавана пасля фашысцкага перавароту ў Германіі гітлераўскім дэкрэтам ад 26 красавіка 1933 года. Дзейнасць Гестапо найбольш ярка выражае лютыя метады, якімі карыстаецца фашысцкая дыктатура ўнутры краіны для расправы з працоўнымі і з усімі інакшмыслячымі наогул, і тую падрыўную шпіёнскую, тэрарыстычную і дыверсійную работу, якую яна праводзіць за межамі Германіі.

## I. Што прадстаўляе сабой Гестапо і хто ёю кіруе

Гісторыя Гестапо—гэта найбольш яркае выражэнне крывавай гісторыі германскага фашызма. Было-б няправільна лічыць пачатак дзейнасці Гестапо з моманту апублікавання дэкрэта аб яе стварэнні пасля прыходу фашыстаў да ўлады. На самай справе Гестапо вядзе сваё паходжанне ад тых ахранных і штурмавых тэрарыстычных атрадаў, якія існавалі пры фашысцкай партыі яшчэ задоўга да яе прыходу да ўлады. Так званыя штурмавыя атрады „SA" („Sturm-Abteilungen") існавалі ў фашыстаў яшчэ задоўга да іх прыходу да ўлады. Гэта былі групы галаварэзаў, якія ставілі сабе мэтай гвалтоўны зрыў рабочых сходаў, гвалтоўнае ўстараненне сваіх палітычных праціўнікаў, часцей за ўсё шляхам фізічнага іх знішчэння.

Вядомы шматлікія факты з гэтай крывавай дзейнасці фашысцкіх тэрарыстычных атрадаў. Яны выконвалі тэрарыстычныя акты не толькі ў адносінах сваіх праціўнікаў, але і ў адносінах саміх удзельнікаў атрадаў, у чым-небудзь правініўшыхся. Яшчэ да прыходу фашыстаў да ўлады пры штурмавых атрадах фашысцкай партыі існа-

вала так званая «фемегерыхт»—«тайнае судзілішча», якое арганізавала сетку шпіянажу і даносаў і чыніла крывавыя расправы над нягоднымі фашыстам людзьмі. «Фемегерыхт» распаўсюджвала сваю дзейнасць не толькі на Германію, але і на іншыя краіны.

Прамой пераемніцай гэтых тэрарыстычных фашысцкіх арганізацый і з'яўляецца Гестапо. І зараз яшчэ кіраўнік Гестапо Гімлер з'яўляецца адначасова начальнікам «ахранных атрадаў», так званых «SS» „Schutz-Staifeln“). З прыходам Гітлера да ўлады гэтыя атрады фашысцкіх галаварэзаў склалі галоўныя кадры Гестапо. З устанаўленнем фашысцкай дыктатуры яны больш актыўна разгарнулі сваю крывавую дзейнасць. Ад забойстваў паасобных сваіх праціўнікаў яны перайшлі да тэрору супроць шырокіх народных мас і да распальвання вайны на сусветнай арэне.

Усім памятна сусветна-вядомая правакацыя з падпалам рэйхстага, якую германскія фашысты прадпрынялі, каб стварыць прадлог для расправы з рэвалюцыйным рухам. Падрыхтоўка і правядзенне гэтага падпалу, які з'яўляўся адным з першых буйных «подвігаў» Гестапо, наглядна выявілі метады яе дзейнасці. Пасля падпалу рэйхстага фашысты з асаблівай сілай разгарнулі нечувана люты тэрор супроць усіх інакшмыслячых і ў асаблівасці супроць компартыі і яе прыхільнікаў. Фашысты скарысталі гэту правакацыю для таго, каб са зверскай лютасцю падавіць сваіх праціўнікаў. Уся наступная дзейнасць Гестапо—гэта суцэльны ланцуг казней, катаванняў, тэрору і правакацый.

У чэрвені 1934 года Гестапо праславілася тэрарыстычнымі актамі і ў адносінах непакорных у фашысцкім-жа асяроддзі. Калі камандаванне штурмавых атрадаў, якое ўзначальвалася фашыстам Рэмам, стала выражаць скрытае незадаволенне паасобнымі мерапрыемствамі фашысцкага ўрада, кіруемыя Гітлерам агенты Гестапо ў ноч на 30 чэрвеня без суда і следства знішчылі ўсю вярхушку камандавання штурмавых атрадаў на чале з Рэмам.

Гестапо шырока распаўсюдзіла свае шчупальцы па ўсёй Германіі. Яна разгарнула шпіёнскую сетку, працуючую сярод усіх слаёў насельніцтва і, вядома, у першую чаргу сярод рабочых. Сістэма правакацый, хлуслівых даносаў, ілжэсведчанняў—гэта улюбёныя прыёмы ў дзейнасці Гестапо. Усяму свету вядомы зверскія збіенні, нечалавечыя катаванні, якім падвяргаюцца афяры Гестапо. Фізічнае знішчэнне палітычных праціўнікаў, прымушэнне зняволеных да самагубства—такавы прыёмы яе работы. Насаджэнне ўсеахапляючай, разгалінаванай сеткі шпіянажу, падслухоўванне тэлефонных разгавораў, ускрыццё прыватнай карэспандэнцыі, найстражэйшая цэнзура за друкаваным словам,—усе гэтыя метады ўваходзяць у арсенал яе дзейнасці.

Агентура Гестапо з усіх сіл стараецца пранікнуць у нелегальныя антыфашысцкія рабочыя арганізацыі. Для гэтага яна накіроўвае на прадпрыемствы і ў арганізацыі сотні агентаў, скончыўшых курсы Гестапо, спецыяльна абучаных справе правакацыі.

У апошні час Гестапо прымяняе новыя метады шпіёнска-правакацыйнай дзейнасці сваіх агентаў унутры Германіі. У многіх гарадах устаноўлена сістэма так званых «квартальных наглядальнікаў». Кожны такі «наглядальнік» абслугоўвае квартал—5 дамоў. «Наглядальнікі»—шпіёны абавязаны даносіць аб настроях насельніцтва. У найбольш падазроныя па свайму настрою сем'і накіроўваюцца шпіёны Гестапо пад выглядам з'ёмшчыкаў пакояў. У цэрквах некаторых гарадоў Гестапо ўстанавіла мікрафоны ў крэслах, на якіх сядзяць спавядаемыя

прыхаджане, каб выявіць у часе споведзі «небяспечныя мыслі» гараджан.

Такой сістэмай правакацыі, тэрору і шпіянажу Гестапо аблытала ўсё насельніцтва ўнутры краіны. Гэтыя-ж сродкі Гестапо скарыстоўвае і ў іншых краінах для падрыхтоўкі вайны.

Як арганізавана работа Гестапо?

Хоць фармальна Гестапо знаходзіцца ў веданні міністэрства ўнутраных спраў, фактычна яна з'яўляецца самадаўлеючай установай, якая шырока развівае сваю дзейнасць як унутры краіны, так і за граніцай. Гестапо не толькі падтрымлівае сувязь з іншымі ведамствамі, але і дае ім свае распараджэнні.

Спецыяльным законам ад 17 ліпеня 1936 г. начальніку Гестапо Гімлеру падпарадкаваны ўсе паліцэйскія ўстановы. Яму прадастаўлена права прысутнічаць на паседжаннях кабінета міністраў, ён замяняе міністра ўнутраных спраў у час яго адсутнасці.

Штаб Гестапо, які знаходзіцца ў Берліне, падраздзяляецца на некалькі аддзелаў: аддзел разведкі, контрразведкі, аддзел па нагляду за поштай, тэлеграфам, тэлефонам, аддзел нагляду за прэсай,—як германскай, так і замежнай,—аддзел па нагляду за палітычнымі партыямі і за эміграцыяй, аддзел радыё, кіно. Само пабудаванне апарата паказвае, што Гестапо стараецца пранікнуць ва ўсе поры грамадскага жыцця.

Гестапо распалагае шырока разгалінаванай сеткай агентуры. Важным звяном ва ўсёй сістэме Гестапо з'яўляецца агент-наводчык. Роля гэтых агентаў заключаецца ў намячэнні падыходзячых кандыдатаў для шпіёнскай дзейнасці. Наводчыкі збіраюць весткі аб грашовых даходах цікавячых іх асоб, аб іх захапленнях, задаволенне якіх звязана з вялікімі грашовымі выдаткамі, аб сувязях, якія можна скарыстаць для ўстанаўлення кантакту з данай асобай. Наводчыкі, як правіла, не сутыкаюцца непасрэдна з завербаванымі шпіёнамі; іх роля абмяжоўваецца галоўным чынам падборам матэрыялу, неабходнага для вярбоўкі. Такія агенты асабліва небяспечны, бо іх дачыненне да разведчай работы цяжка ўстанавіць. Пасля вывучэння «кандыдата» агентам-наводчыкам справа пераходзіць у рукі вярбоўшчыка Гестапо, які вярбуе новага агента.

Шырока разгорнута ў фашысцкай Германіі спецыяльная ваеннашпіёнская арганізацыя.

Работа па ваеннаму шпіянажу ў Германіі сканцэнтравана ў так званым «Абвераабтэйлунг», які з'яўляецца аддзелам разведкі і контрразведкі германскага ваеннага міністэрства. Цэнтр «Абвер», які знаходзіцца ў Берліне, мае сваю сетку пры 12 ваенных акругах, асабліва густую ўздоўж граніц краіны. Гэтыя аддзяленні «Абвера», так званыя «Абверштэлен», часта працуюць пад выглядам прадстаўніцтваў гандлёвых прадпрыемстваў, агенцтваў прэсы, транспартных кантор і т. д. Так, напрыклад, адна з такіх ваенных разведчых арганізацый, якая знаходзіцца на швейцарскай граніцы, дзейнічала на працягу раду год у якасці аддзялення аднаго германскага грамадзянскага таварыства. Дырэктарам таварыства быў адстаўны афіцэр. Толькі нядаўна гэта арганізацыя была афіцыяльна далучана да «Абвера», і той-жа самы дырэктар быў афіцыяльна прызначан на кіруючую работу ў ведамстве ваеннага шпіянажу.

Мясцовыя арганізацыі «Абвера» у пагранічных акругах, кіруемыя непасрэдна з Берліна, праводзяць работу па вярбоўцы і інструктаванню агентаў разведкі.

Шпіёны, завербаваныя ў «Абвер», звычайна падраздзяляюцца на розныя катэгорыі. Асобна выдзяляюцца людзі, якія дзякуючы свайму палажэнню і сувязям могуць дастаўляць важныя матэрыялы і дакументы. Такія шпіёны звычайна вярбуюцца з ліку дзяржаўных служачых, інжынераў і майстраў ваенных заводаў, работнікаў навукова-даследчых інстытутаў і т. д. Для праверкі атрымліваемых ад іх вестак існуе сістэма так званых «агентаў кантролю». Абавязак гэтых агентаў—даваць весткі для праверкі матар'ялу, прадстаўленага асноўнай агентурай.

У сістэму «Абвера» уваходзяць таксама агенты сувязі. Яны падтрымліваюць сувязь са спецыяльнымі агентамі ваеннага шпіянажу, якія знаходзяцца за граніцай, у краінах, супроць якіх праводзіцца шпіёнская работа. Звычайна такія шпіёны размяшчаюцца паблізу найбольш важных стратэгічных пунктаў, каля ваенных заводаў і чыгуначных вузлоў. Яны абзаводзяцца скрытымі сродкамі зносін: паштовымі галубамі, радыёперадатчыкамі, абсталяваннем светавой сігналізацыі, якія яны рыхтуюць на выпадак вайны.

Трэба яшчэ ўпамянуць спецыяльных агентаў-узломшчыкаў, якія знаходзяцца на службе «Абвера» і працуюць як у Германіі, так і за граніцай. Гэтыя агенты спецыялізуюцца на ўскрыцці незгараемых шафаў, пісьмовых сталоў. Яны стараюцца пранікаць у пасольства, консульства, каб раскрадаць патрэбныя ім шыфры і іншыя матэрыялы.

Нарэшце, «Абвер»—як і Гестапо—распалагае спецыяльным штатам агентаў-дыверсантаў, якія выконваюць заданні па разбурэнню чыгуначных ліній, ліній тэлеграфных і тэлефонных зносін, арганізуюць дыверсіі на ваенных заводах.

Для падрыхтоўкі гэтай шырокай сеткі агентаў пры «Абверы» і Гестапо створаны спецыяльныя школы.

У падпарадкаванні Гестапо знаходзіцца цэлы рад шпіёнска-разведчых дыверсійных арганізацый.

У Германіі створан вялікі лік спецыяльных таварыстваў і ўстаноў, раскінуўшых сетку фашысцкага шпіянажу як унутры краіны, так і за граніцай. Гэтыя таварыствы і ўстановы з'яўляюцца падсобным апаратам у падрыўной рабоце Гестапо. Вось некаторыя з гэтых устаноў і арганізацый: знешнепалітычны аддзел фашысцкай партыі, які працуе пад кіраўніцтвам Розенберга, заграні́чныя арганізацыі германскай фашысцкай партыі пад кіраўніцтвам Боле, нарэшце «Саюз зарубежных немцаў», які працуе пад кіраўніцтвам Штэйнахера і мае 24 тысячы мясцовых груп, шматлікую сетку апорных пунктаў у нямецкіх школах, цэрквах і спецыяльных таварыствах за граніцай. Да ліку гэтых-жа ўстаноў адносіцца заграні́чнае цэнтральнае бюро так званага «працоўнага фронта», асноўныя функцыі якога—шпіянаж на прадпрыемствах іншых краін, стварэнне груп для дыверсійных актаў і т. д. Сюды-ж адносіцца так званае «Усеагульнае аб'яднанне германскіх антыкомуністычных саюзаў», ці скарочана «Антыкомінтэрн». Гэта ўстанова мае сваёй задачай шпіянаж у рабочых арганізацыях і ў першую чаргу падрыўную дзейнасць у СССР.

У сваёй шпіёнскай рабоце Гестапо ўжывае розныя формы маскіроўкі. Адной з такіх форм з'яўляецца сукрыццё шпіёнскіх устаноў пад маркай «навуковых інстытутаў». Да ліку такіх шпіёнскіх інстытутаў належаць: «Заграні́чны інстытут», пад кіраўніцтвам Штрэліна, які займаецца пераважна эканамічным шпіянажам, і «Рускі навуковы інстытут», які ўзначальваецца Адольфам Эртам. «Заграні́чны навуковы інстытут» мае ў сваім распараджэнні картатэку, у якую ўнесены

прозвішчы больш 100 тысяч немцаў, якія пражываюць за граніцай. Супрацоўнікі германскіх консульстваў за граніцай з'яўляюцца агентамі гэтага інстытута.

Ставячы сабе задачай падрыхтоўкі вайны для захопу калоній, Гестапо ў гэтых мэтах стварае спецыяльныя шпіёнска-разведчыя арганізацыі як у Германіі, так і за граніцай. Гэтыя шматлікія арганізацыі носяць наступныя назвы: «каланіяльнае таварыства», «каланіяльныя групы», «акадэмічны каланіяльны саюз», «каланіяльны жаночы саюз» і інш. Гэтыя арганізацыі непасрэдна падначалены знешнепалітычнаму аддзелу германскай фашысцкай партыі, які ўзначальваецца вядомым Розенбергам.

Ва ўсіх гэтых шматлікіх установах, падведамственных Гестапо, працуе велізарная армія шпіёнаў, дыверсантаў і шкоднікаў. Колькасць супрацоўнікаў Гестапо, згодна паведамлення «Нацыянальцэйтунг» ад 23 красавіка 1935 г., была роўна тады 48 тыс. чалавек. Паводле паведамлення гэтай газеты, толькі на адной заграничнай рабоце ў Гестапо ў 1934 годзе знаходзілася 2.450 спецыяльных агентаў і 20 тысяч асведаміцеляў. Пасля 1934 года колькасць заграничных агентаў значна ўзрасла і прадаўжае ўзрастаць з кожным днём.

Хто-ж узначальвае гэту шматлікую армію шпіёнаў, дыверсантаў, падпальшчыкаў вайны?

Кіраўнікі Гестапо—гэта фашысты, якія высунуліся ў тэрарыстычных гітлераўскіх атрадах, праявілі сябе ў барацьбе з рэвалюцыйным рухам, у справе арганізацыі індывідуальнага тэрору і забойстваў сваіх палітычных праціўнікаў, у першую чаргу—кіраўнікоў рэвалюцыйнага руху рабочага класа, а таксама старыя шпіёнскія кадры рэйхсвера.

Характэрна ў гэтых адносінах фігура кіраўніка ўсёй сістэмы Гестапо—Гімлера. Яшчэ малады па ўзросту чалавек—37 год,—Гімлер з'яўляецца адным з найбольш даўніх паплечнікаў Гітлера. Да фашысцкага перавароту Гімлер быў няўдачнікам у сваей жыццёвай кар'еры. Ён вельмі часта мяняў поле дзейнасці: то служыў у палку, то ў канторы па вытворчасці азота, а ў апошні час, да прыходу Гітлера да ўлады, займаўся птушкаводствам. Асноўная-ж дзейнасць гэтага «птушкавода», працякаўшая ў фашысцкіх ахранных атрадах, заключалася ў падаўленні рабочага руху, у разгроме рэвалюцыйных рабочых арганізацый. З прыходам Гітлера да ўлады Гімлер быстра робіць кар'еру. У перыяд жыццёвых няўдач Гімлеру аказаў свае апякунства Грэгор Штрасер, які зрабіў яго сваім сакратаром. Седзячы з ім у яго кватэры за абедзенным сталом, Гімлер не раз кляўся Штрасеру ў сваёй адданасці. Калі-ж Штрасер папаў у няміласць да Гітлера, не хто іншы, як Гімлер, у ноч на 30 чэрвеня 1934 г. арганізаваў забойства Штрасера. Гімлер і з'яўляецца кіраўніком усёй сістэмы правакацый і шпіянажу, шырока практыкуемай у Германіі. Засценкі Гестапо і казармы абаронных атрадаў знаходзяцца непасрэдна ў яго веданні.

Намеснікам Гімлера па Гестапо з'яўляецца Гейдрых. Гэтаму фактычнаму кіраўніку Гестапо ўсяго 33 гады. У 1919—1920 гг. ён быў шпіёнам добраахвотніцкага корпуса ў Гале, які праславіўся сваімі крывавымі расправамі над рабочымі Сярэдняй Германіі. Уступіўшы пасля гэтага на службу ў морскі флот, Гейдрых працаваў галоўным чынам у ведамстве морскага шпіянажу. Пакінуўшы флот, Гейдрых уступае ў ахранныя атрады, дзе ён таксама паказаў сябе ланцужным псом фашызма.

На чале «рускага аддзела» Гестапо стаіць Фенер, вядомы па сваёй мінулай фашысцкай дзейнасці. Фенер сумесна з другім шпіёнам—Геральдам Зіверт прайшоў школу шпіёнскай работы ў берлінскім контрразведчым бюро рэйхсвера, законспіраваным пад маркай камерцыйнай фірмы «Нунцыя».

Кіраўніком спецыяльнага разведчага бюро па пытанню аб немцах, прыбыўшых з СССР, з'яўляецца маёр у адстаўцы Лізер, які таксама прайшоў школу шпіёнскай работы ў арганізацыі «Нунцыя».

Відную ролю ў сістэме Гестапо адыгрывае былы кіраўнік ваеннага шпіянажу ў Германіі ў часе імперыялістычнай вайны Ніколаі. Гэты Ніколаі прымае кіруючы ўдзел у рабоце Гестапо і ваеннай разведкі. Ніколаі мае пры Гестапо спецыяльнае бюро і з'яўляецца кансультантам Гітлера па пытаннях шпіянажу.

Ведамствам ваеннага шпіянажу ў Германіі кіруе контрадмірал Канарыс. Канарыс з'яўляецца буйнейшай фігурай усёй германскай разведкі, бо ён па даручэнню Гітлера арганізуе самыя агідныя злачынствы фашысцкай дыктатуры. Канарыс мае вялікі стаж ваенна-шпіёнскай дзейнасці, стаж барацьбы супроць рэволюцыйнага руху. У 1919 годзе ён разам з другімі афіцэрамі з былой імператарскай гвардыі прыняў удзел у арганізацыі забойства Карла Лібкнехта і Розы Люксембург. Ён-жа ўваходзіў і ў склад «суда» над забойцамі Карла Лібкнехта і Розы Люксембург, вынес мяккі прыгавор забойцам і сам-жа арганізаваў пабег непасрэднага забойцы—Фогеля. Гэты-ж Канарыс прымаў бліжэйшы ўдзел у падрыхтоўцы фашысцкага мяцежу ў Іспаніі і арганізаваў у Франко шпіёнска-разведчую работу.

Цяпер Канарыс перадаў арганізацыю шпіёнска-разведчай дзейнасці ў Франко аднаму са сваіх памочнікаў, агенту Гестапо—Карлу фон-Рау. Рау—стары нямецкі ваенны шпіён. Да 1914 г. ён жыў у Расіі і служыў упраўляючым у маёнтку князя Галіцына. Гэты шпіён уцёрся тады ў давер'е вышэйшых колаў рускага грамадства, атрымліваў узнагароды ад царскага ўрада і ў той-жа час шпіёніў супроць Расіі. Пасля рэволюцыі 1917 г. Рау ўзначальвае ў Берліне новаарганізаванае спецыяльнае бюро па шпіянажу ў СССР. У апошнія гады ён, па даручэнню Гестапо, арганізоўвае за межамі Германіі шпіянаж сярод нямецкіх эмігрантаў, і, нарэшце, кіруе насаджэннем шпіёнскай сеткі Франко ў Іспаніі.

Непасрэдны ўдзел у рабоце Гестапо прымаюць віднейшыя кіраўнікі фашысцкага ўрада Германіі, выкарыстоўваючы свой мінулы шпіёнскі вопыт. Так, у штаб сувязі паміж фашысцкай партыяй і ўсімі шпіёнскімі арганізацыямі ўваходзяць намеснік Гітлера—Гес, міністр прапаганды Гебельс, кіраўнікі знешнепалітычнага аддзела фашысцкай партыі Альфрэд Розенберг, германскі пасол у Англіі Рыбентроп і інш.

## II. Гестапо на міжнароднай арэне

Шпіёнска-падрыўная дзейнасць Гестапо і падведамсцвеных ёй арганізацый за межамі Германіі з'яўляецца перш за ўсё сродкам падрыхтоўкі вайны. У гэтых мэтах Гестапо ствара́е ваенна-фашысцкія групы ў суседніх з Германіяй дзяржавах. Да ліку такіх ваенных арганізацый належаць: аўстрыйскі легіён, балтыйскі легіён і т. д. Гэтыя атрады праходзяць спецыяльнае ваеннае абучэнне ў гітлераўскіх казармах і рыхтуюцца прыняць удзел у фашысцкіх авантурах Гітлера.

Усім памятны ваенна-фышысцкі путч у Аўстрыі ў чэрвені 1934 г. Вядома, што, апіраючыся на меўшыяся ў Аўстрыі групы германскіх фашыстаў, агенты Гестапо забілі прэм'ер-міністра Дольфуса, каб гэтым шляхам змяніць кіраўніцтва аўстрыйскага ўрада ў бок яго фашызацыі і дабіцца далучэння Аўстрыі да Германіі.

Хоць пасля гэтага ў ліпені 1936 года паміж Германіяй і Аўстрыяй было заключана пагадненне, па якому фашысцкая Германія абавязалася не ўмешвацца ва ўнутраныя аўстрыйскія справы, агентура Гестапо тым не менш не спыніла сваёй падрыўной дзейнасці ў Аўстрыі. Яна толькі некалькі змяніла метады сваёй работы. Побач з тактыкай тэрору агенты Гестапо ўкараняюцца ў аўстрыйскія палітычныя арганізацыі для таго, каб знутры іх праводзіць фашысцкую агітацыю за «мірнае прымірэнне з нямецкімі братамі». Гэта «мірнае прымірэнне» фактычна з'яўляецца новай падрыхтоўкай «аншлюса», г. зн. далучэння Аўстрыі да Германіі.

Актыўную шпіёнска-тэрарыстычную работу разгарнула Гестапо і ў Чэхаславакіі. Тут агенты Гестапо апіраюцца на фашысцкую арганізацыю Генлейна («Судэцка-нямецкая партыя»), фінансуемую з Германіі. Праз генлейнаўцаў Гестапо праводзіць сваю падрыўную работу супроць Чэхаславацкай дзяржавы.

Гестапо шырока разгарнула вярбоўку шпіёнаў у Чэхаславакіі. У Тахаве (Паўночна-Заходняя Чэхія) нядаўна было раскрыта спецыяльнае бюро па вярбоўцы шпіёнаў фашысцкай Германіі. Кіраваў гэтым «бюро» чэхаславацкі грамадзянін Грынбауер. Грынбауер сазнаўся ў тым, што ён па заданнях з Германіі займаўся вярбоўкай чэхаславацкіх грамадзян, нібы для работы на прадпрыемствах у Германіі, а на самай справе—для работы ў Гестапо. Такога роду вярбовачная работа разгортваецца і ў іншых раёнах Чэхаславакіі.

Побач з вярбоўкай шпіёнаў з асяроддзя чэхаславацкага насельніцтва, Гестапо засылае ў Чэхаславакію шматлікія кадры спецыяльна падрыхтаваных шпіёнаў з Германіі.

Цікавы рознастайныя прыёмы, да якіх прыбягае агентура Гестапо ў сваёй шпіёнскай рабоце ў Чэхаславакіі. Чэхаславацкая газета «Лідове навіны» паведамляе, што за апошні час у адрас аддзельных асоб, гандлёвых фірм і ўстаноў, а таксама муніцыпалітэтаў пагранічных гарадоў сталі часта прыбываць з Германіі ўсякага роду анкеты і апытальныя лісты. Анкеты гэтыя прысылаюцца на імя нібы «гандлёвых фірм» і «даследчых інстытутаў» Германіі, якія быццам-бы адчуваюць патрэбу ў гэтых вестках для навуковых мэт. Чэхаславацкія ўлады забаранілі адказваць на гэтыя запытанні, бо было ўстаноўлена, што гэтыя анкеты і запытанні з'яўляюцца пэўным прыёмам шпіёнскай дзейнасці Гестапо.

Але агентура Гестапо прыбягае ў Чэхаславакіі не толькі да такіх нявінных прыёмаў сваёй дзейнасці. Да метадаў, якія шырока практыкуюцца агентамі Гестапо ў Чэхаславакіі, адносяцца таксама пахішчэнні эмігрантаў, уцёкшых ад германскага фашызма, забойствы пахішчаных або саджанне іх у турмы Германіі.

Дзейнасць кіраўніка чэхаславацкага філіяла Гестапо ацэнена Гітлерам па заслугах. Нядаўна адбываўся злёт заграчных агентаў германскага фашызма ў сувязі з 20-гадовым юбілеем «Інстытута заграчных немцаў». Упаўнаважаны Гестапо па Чэхаславакіі Генлейн,—які, да-рэчы сказаць, з'яўляецца па сумяшчэнню членам чэхаславацкага парламента,—атрымаў ад Гітлера ордэн за заслугі па вярбоўцы немцаў за граніцай для шпіянажу ў карысць Германіі.

Сапраўды Гестапо ўмее цаніць заслугі сваіх агентаў, правакатараў і дыверсантаў!

Да такіх-жа метадаў шпіёнска-тэрарыстычнай дзейнасці прыбягалі і прыбягаюць агенты Гестапо і ў Швейцарыі. Усім памятны пахішчэнні з Швейцарыі агентам-правакатарам Гестапо германскага эмігранта Бертольда Якоба. Гэта пахішчэнне з'яўляецца не адзіным «подвігам» агентаў Гестапо ў Швейцарыі.

У Румыніі Гестапо мае свой філіял у асобе фашысцкіх груп, якія ўзначальваюцца Фабрыцыўсам. Пад непасрэдным кіраўніцтвам Гестапо ў Румыніі развівае тэрарыстычную дзейнасць фашысцкая арганізацыя «Жалезная гвардыя». «Жалезная гвардыя» арганізавала ў 1933 годзе забойства Дука, прэм'ер-міністра Румыніі, аднаго з яе буйных дзяржаўных дзеячоў. Удзельнікі «Жалезнай гвардыі» тэрарызуюць кіраўнікоў дэмакратычных арганізацый, збіваюць карэспандэнтаў левых газет, спальваюць на плошчах дэмакратычныя газеты і журналы і громяць рэдакцыі гэтых органаў друку. Яны адкрыта мабілізуюць свае сілы для дапамогі іспанскім мяцежнікам, а забітым у войсках мяцежнікаў фашыстам арганізуюць пышнае пахаванне, абвяшчаючы іх «нацыянальнымі» героямі.

Агентура Гестапо актыўна ўмешваецца ва ўнутранае жыццё Румыніі, ставячы сабе галоўнай мэтай падначаленне Румыніі ўплыву фашысцкай Германіі іператварэнне яе ў плацдарм для барацьбы супроць Савецкага Саюза і Чэхаславакіі.

Усяму свету вядома правакацыйная дзейнасць агентуры Гестапо ў Іспаніі. Яшчэ задоўга да ваенна-фашысцкага мяцежу Гестапо раскінула ў Іспаніі шырокую сетку сваёй шпіёнскай тэрарыстычнай агентуры. Апошняя падрыхтоўвала ваенна-фашысцкі мяцеж супроць законнага іспанскага ўрада.

Шматлікія апорныя пункты Гестапо, якія знаходзіліся яшчэ да мяцежу на тэрыторыі Іспаніі і Іспанскага Мароко, фінансаваліся з Германіі і атрымлівалі адтуль распараджэнні па падрыхтоўцы ваенна-фашысцкага мяцежу. Да пары да часу гэтая работа скрывалася пад шыльдай розных гаспадарчых арганізацый. Кіраўніцтва фашысцкімі групамі ў Іспаніі скрывалася пад шыльдай «Імпартнай канторы Гелерман і Філіпі», якая знаходзілася ў цэнтры Барселоны. Узначальвалася гэтая «імпартная кантора» віднымі германскімі фашыстамі Гелерманам і Філіпі. У красавіку 1936 года адзін з кіраўнікоў «імпартнай канторы»—Гелерман—быў афіцыяльна прызначан кіраўніком германскіх фашыстаў ва ўсёй Іспаніі.

Галоўнай апорай Гестапо ў Іспаніі з'яўляецца трацкісцкая арганізацыя ПОУМ. Яна актыўна дапамагае мяцежнікам у іх барацьбе супроць іспанскага народу, арганізоўвае правакацыйныя выступленні ў тылу рэспубліканскай арміі і ажыццяўляе самыя гнусныя здрадніцтвы, каб угадзіць свайму фашысцкаму гаспадару.

Вельмі вялікую ўвагу аддае Гестапо шпіянажу і падрыхтоўцы дыверсій ва Францыі. Лічачы Францыю бліжэйшым праціўнікам, Гестапо стараецца шырока распаўсюдзіць ва Францыі і яе калоніях сваю падрыўную дзейнасць. У пачатку 1936 года ў Парыжы быў адкрыт «Карычневы дом». Фармальна ён існаваў як дом нямецкай калоніі, фактычна-ж у гэтым доме змяшчаўся цэнтр, яднаючы агентуру Гестапо ва Францыі. Гэта агентура праводзіць вялікую «вышуковую» работу па падрыхтоўцы дыверсій і тэрору. Так, у 1934 годзе былі выкрыты вопыты агентаў Гестапо ў Парыжы па атручванню вады ў Сене і атручванню газамі публікі ў метро.

Агентура Гестапо ва Францыі не абмяжоўвае сваю дзейнасць адным Парыжам. Шматлікія апорныя пункты створаны ёю на перыферыі, асабліва ў пагранічных раёнах. Гестапо стварыла свае арганізацыі таксама ва французскіх калоніях.

У апошнія дні друк шырока паведамляў аб дзейнасці агентуры Гестапо на тэрыторыі Англіі. Англійскі ўрад вымушан быў выслаць трох агентаў Гестапо, якія праводзілі сваю шпіёнскую работу пад маскай журналістаў. Англійская газета «Іунінг стандарт» лічыць, што лік агентаў Гестапо ў Англіі дасягае, па скромных падліках, 400 чалавек.

Агентура Гестапо стараецца пранікнуць і ў Злучаныя Штаты Амерыкі. Нават спачуваючая гітлераўскаму рэжыму газета Херста «Іунінг джорнал энд Н'ю-Ёрк амерыкэн» вымушана была паведаміць 27 ліпеня 1937 г. аб выкрыцці вялікай групы нямецкіх шпіёнаў, арудваўшых у Злучаных Штатах Амерыкі. Дзейнасць агентаў Гестапо ў Злучаных Штатах Амерыкі набыла такія размеры, што ў амерыканскім кангрэсе сенатар Дыкштэйн зрабіў спецыяльнае запытанне па гэтаму поваду. Ён паведаміў, што Гестапо мае сваё аддзяленне ў Амерыцы пад назвай «Бунаст».

Такую-ж сетку шпіянажу, дыверсій і тэрору раскінула Гестапо і ў іншых краінах. Фашысцкая Германія ставіць сваёй бліжэйшай мэтай захват калоній. Таму Гестапо насаджае шматлікую агентуру ў каланіяльных краінах, актыўна правакуючы вайну за захват калоній.

Кожны дзень сусветны друк прыносіць ўсё новыя і новыя весткі аб шпіёнска-дыверсійнай рабоце Гестапо ва ўсіх краінах свету, аб рознастайных метадах і прыёмах яе падрыўной дзейнасці.

Побач з падрыхтоўкай непасрэдных ваенных выступленняў Гестапо скарыстоўвае ўсе магчымасці «мірнага» пранікнення ў іншыя краіны.

Для шпіёнскай, шкодніцкай і дыверсійнай работы Гестапо стараецца скарыстаць прамысловыя і гандлёвыя сувязі. Цэнтр такога роду шпіянажу, падначалены Гестапо, існуе пры Саюзе германскай прамысловасці. Узначальвае гэту арганізацыю нейкі Дзюрынг, адстаўны маёр, у мінулым супрацоўнік ваеннай разведкі. Гэты-ж Дзюрынг узначальвае арганізацыю шпіянажу пры Саюзе германскага знешняга гандлю.

Спецыяльныя аддзелы ваенна-эканамічнага шпіянажу пад назвай «аддзелаў безапаснасці» існуюць пры ўсіх буйных прамысловых і гандлёвых прадпрыемствах Германіі. «Аддзелы безапаснасці», таксама як і шырокая сетка коміваяжораў, гандлёвых агентаў і т. д., працуючых як у Германіі, так і за граніцай, з'яўляюцца па справе шпіёнскай агентурай Гестапо. Гэта шпіёнская агентура паасобных фірм знаходзіцца пад кіраўніцтвам Гестапо і злучаецца з ёю.

## III. Каварныя метады падрыўной дзейнасці агентуры Гестапо ў СССР

Калі Гестапо стараецца насаджаць сістэму шпіянажу, дыверсій, тэрору і здрадніцтва ва ўсіх краінах свету, то асобую актыўнасць яна праяўляе ў распаўсюджванні сваёй падрыўной дзейнасці ў Савецкім Саюзе.

Мабілізуючы партыю і працоўных на барацьбу з падрыўной дзейнасцю буржуазнай разведкі, таварыш Сталін падкрэсліваў, што буржуазныя дзяржавы будуць стараца засылаць у СССР больш

сваіх шпіёнаў, шкоднікаў, дыверсантаў, тэрарыстаў, чым яны гэта робяць у адносінах друг да друга. «Ці не вярней будзе, з пункту погляду марксізма, меркаваць, што ў тылы Совецкага Саюза буржуазныя дзяржавы павінны засылаць у два і ў тры разы больш шкоднікаў, шпіёнаў, дыверсантаў і забойцаў, чым у тылы любой буржуазнай дзяржавы?» **(Сталін).**

Фашызм—смяротны вораг социялізма, смяротны вораг Совецкага Саюза, дзе перамог і ўмацаваўся соцыялістычны лад. Зразумела, што фашысцкая разведка—Гестапо—у першую чаргу накіроўвае свае намаганні на арганізацыю шпіянажу, дыверсій, шкодніцтва, тэрору ў СССР.

Фашызм ненавісны найшырэйшым народным масам СССР. Фашысцкая разведка можа таму разлічваць толькі на паасобных адшчапенцаў. Гэта вельмі звужвае базу яе работы ў нашай краіне. Але гэта не значыць, што Гестапо зусім не можа знайсці для сябе рэзерваў. Хоць і вельмі абмежаваныя, такія рэзервы ўсё-ж ёсць. Аб гэтым трэба цвёрда памятаць. Гэтымі рэзервамі з'яўляюцца асколкі разбітых класаў, якія гараць нянавісцю да зацвярдзіўшагася соцыялістычнага ладу, контррэволюцыйныя трацкісцкія і правыя здраднікі, буржуазныя нацыяналісты.

На глебе барацьбы супроць соцыялістычнага ладу ў СССР склаўся крывавы саюз паміж трацкісцка-бухарынскімі бандытамі і Гестапо.

Трацкісцкія і правыя рэстаўратары капіталізма, адчаяўшыся атрымаць якую-небудзь апору ў народных масах, даўно ператварыліся ў платных агентаў фашызма. Яны з'явіліся знаходкай для фашыстаў, выконваючы іх заданні, накіраваныя на падрыў магутнасці Совецкага Саюза і аслабленне яго на выпадак нападу фашыстаў на СССР. Бачачы ў фашызме адзіную сілу, на якую можна абаперціся ў барацьбе супроць соцыялізма, трацкісцкія і правыя мярзаўцы і здраднікі сталі выканаўцамі подлых планаў Гестапо, ажыццяўляючы шпіянаж, тэрор, дыверсіі і шкодніцтва. Адбываўшыяся працэсы трацкісцка-зіноўеўскай банды з усёй відавочнасцю выкрылі ганебную ролю гэтых наймітаў Гестапо і фашысцкіх разведак іншых краін.

Ужо на працэсе Ленінградскага цэнтра ў снежні 1934 г. было відаць, чыя рука накіроўвала выстрал супроць С. М. Кірава. Подлы забойца Нікалаеў сазнаўся, што грошы за арганізацыю забойства ён атрымліваў у консульстве адной з замежных дзяржаў.

У жніўні 1936 года на працэсе трацкістаў і зіноўеўцаў з яшчэ большай відавочнасцю было выяўлена злучэнне зіноўеўска-трацкісцкай банды з агентурай Гестапо. Перад тварам пролетарскага правасуддзя прадсталі тады рэстаўратары капіталізма: Зіноўеў, Каменеў, Мрачкоўскі разам з іншымі шпіёнамі, непасрэдна накіраванымі Гестапо і Іудай-Троцкім для падрыўной дзейнасці ў СССР,—Фрыцам Давідам, Ольбергам, Лур'е і інш. Суд устанавіў тады, што падрыўная дзейнасць усёй гэтай банды на тэрыторыі СССР праводзілася па прамому заказу Гестапо.

З яшчэ большай відавочнасцю выявілася подлая роля трацкісцка-зіноўеўскай банды, як наёмнай агентуры япона-германскага фашызма, у час працэсу антысовецкага трацкісцкага цэнтра. Па заказу сваіх гаспадароў з Гестапо банда Троцкага, Бухарына, Рыкава і іх прыспешнікаў намячала план падзелу нашай краіны з тым, каб перадаць Украіну немцам, а Прымор'е—Японіі. Гестапо і японская разведка давалі прамыя заданні трацкісцка-зіноўеўскім і бухарынска-

рыкаўскім забойцам, плацілі ім чыстаганам за подлую работу: за крушэнне паяздоў, у якіх ехалі чырвонаармейцы, за выбухі на прадпрыемствах з забойствамі рабочых, іх жонак і дзяцей, за абяцанне распрадаць Совецкую краіну оптам і ў розніцу.

На гэтым-жа працэсе высветлілася, што обер-бандыт Троцкі згаварыўся з намеснікам Гітлера—Гесам аб планах і сродках падрыўной дзейнасці ў СССР трацкісцкіх агентаў Гестапо. Выконваючы гэтыя ўказанні, трацкісцкія і зіноўеўскія бандыты ператварыліся ў самы каварны атрад фашысцкай ахранкі. Усім памятны паказанні падсуднага Грашэ. Гэты Грашэ, працаваўшы ў СССР як прамы агент Гестапо, расказваў, як ён звязаўся з трацкістамі на глебе сваёй шпіёнскай дыверсійнай дзейнасці. Паведамляючы аб сваім удзеле ў контррэволюцыйнай трацкісцкай арганізацыі, у якой ён, побач з іншымі трацкістамі, актыўна займаўся шкодніцтвам, дыверсіямі і іншай падрыўной дзейнасцю, Грашэ так ацэньваў сваё супрацоўніцтва з трацкістамі: «З германскай разведкай я звязаўся у 1932 годзе... З трацкізмам я не меў ніколі нічога агульнага... Сутыкнуўся з ім на глебе сваёй шпіёнскай і шкодніцкай работы».

Агенты-вярбоўшчыкі імем Троцкага вербавалі шпіёнаў у Гестапо. Так, шпіён Гестапо Страілаў, прадстаўшы перад совецкім судом, расказваў, што, калі яго вербавалі ў агентуру Гестапо, вярбоўшчык Берг перш усяго рэкамендаваў яму прачытаць кнігу Троцкага. Пасля гэтага ён перайшоў ужо да канкрэтных даручэнняў па шпіёнска-падрыўной дзейнасці.

У самых блізкіх сувязях з Гестапо знаходзіліся главары трацкісцка-бухарынскай бандыцкай зграі. Калі Пятакову трэба было з Германіі пераправіцца ў Нарвегію на спатканне з Троцкім, агенты Гестапо ахвотна прадаставілі яму спецыяльны самалёт для гэтай мэты.

Прамым агентам Гестапо з'яўляўся другі відны дзеяч антысовецкага трацкісцкага цэнтра—Ратайчак. Выкрыты фактамі, Ратайчак вымушан быў прызнацца, што ён атрымліваў адначасова дырэктывы аб падрыўной рабоце з двух крыніц: ад Троцкага і Пятакова і ад германскай разведкі. Гэтыя дырэктывы ішлі ў зусім аднолькавым напрамку. У гэтым-жа напрамку прабавала разгарнуць сваю злачынную дзейнасць у Чырвонай Арміі асуджаная пролетарскім судом ваенна-фашысцкая банда тухачэўскіх, гамарнікаў, якіраў і інш., якія таксама непасрэдна былі звязаны з разведчымі органамі фашысцкіх дзяржаў.

У асобе трацкісцка-бухарынскіх бандытаў Гестапо прабуе ствары́ць сабе апорную базу для сваёй падрыўной работы ў Совецкім Саюзе. Каб выкарчаваць з карэннем шпіёнскую агентуру з нашай социялістычнай краіны, каб даць рашучы адпор усім спробам падрыўной дзейнасці фашысцкай разведкі, нам трэба ведаць прыёмы і метады яе работы. Неабходна ведаць формы маскіроўкі, якія ўжываюць агенты Гестапо для захавання сваёй дзейнасці. А іх маскіроўка бывае надзвычайна differing рознастайнай.

Перш за ўсё фашысцкая разведка стараецца скарыстаць «легальныя» формы работы—нашы дзелавыя сувязі з Германіяй. Яна выкарыстоўвае спецыялістаў і інжынераў, якія едуць на часовую работу ў СССР. Перад ад'ездам у СССР гэтыя спецыялісты абавязкова інструктуюцца не толькі кіраўніцтвам сваёй фірмы, але і агентамі Гестапо. Ім даюць указанні аб характары тых вестак, якія яны павінны здабываць у час сваёй работы на совецкіх прадпрыемствах.

Па звароце з СССР гэтыя спецыялісты павінны запаўняць падрабязныя анкеты, у якіх яны ўжо афіцыяльна выкладаюць матэрыял, сабраны імі на совецкіх прадпрыемствах.

Для збору шпіёнскіх вестак ад спецыялістаў, якія вярнуліся з СССР ці прыязджаючых у водпуск, створана спецыяльнае бюро пад назвай «Руквандэрэрамт» («Rückwandereramt»)—«Кіраўніцтва па справах вяртаючыхся». Ні адзін германскі спецыяліст, які зварочваецца з Совецкага Саюза ў Германію, не можа атрымаць работу без ведама і згоды гэтага бюро. Такім чынам, часта і тыя чэсныя германскія спецыялісты, якія не хацелі-б шпіёніць супроць Совецкага Саюза, пад пагрозай беспрацоўя прымушаюцца да гэтага.

Вядома, што ў Германіі існуе «Рускі камітэт германскай прамысловасці». У гэтым камітэце канцэнтруюцца дзелавыя сувязі з Совецкім Саюзам. Хто-ж узначальвае гэтую арганізацыю? Упраўляючым гэтага «Рускага камітэта» з'яўляецца маёр Чунке, стары германскі разведчык, які ў час акупацыі Украіны знаходзіўся там у якасці афіцэра германскай арміі. Ясна, якой стараною дзейнасці «Рускага камітэта» кіруе гэты «упраўляючы».

Для насаджэння шпіянажу Гестапо скарыстоўвае сувязі з СССР па лініі экспартных арганізацый. Устаноўлена, што агенты Гестапо пранікалі ў такія арганізацыі, як Экспортхлеб, Экспортлес, маючы свае аддзяленні ў партовых гарадах.

Наколькі Гестапо скарыстоўвае дзелавыя сувязі з Совецкім Саюзам у мэтах разгортвання сваёй шпіёнскай работы, відаць з наступных фактаў. Некалькі год назад у СССР існавала германская сельскагаспадарчая канцэсія пад назвай «Друзаг». Дырэктарам гэтай сельскагаспадарчай канцэсіі з'яўляўся нейкі Дзітлоў. Канцэсія звярнула на сябе ўвагу сваёй незвычайнай дзейнасцю. Калі адпаведныя органы заняліся высвятленнем яе работы, то аказалася, што пад прыкрыццём сельскагаспадарчай канцэсіі скрываецца разведчая агентура Гестапо. Следчымі органамі было ўстаноўлена, што дырэктар гэтай канцэсіі Дзітлоў, былы палкоўнік германскага генеральнага штаба, перад ад'ездам у СССР атрымаў ад органаў германскай разведкі спецыяльнае даручэнне па стварэнню разведчай агентуры і па сувязі з буржуазна-нацыяналістычнымі элементамі ў нашай краіне.

У гэтым-жа напрамку разгортвала сваю дзейнасць другая нямецкая фірма, працаваўшая пад назвай «Кантроль-К°». Афіцыяльна ў функцыі гэтай фірмы і яе аддзяленняў уваходзіла ажыццяўленне кантролю над правільнасцю вагі, мер і якасці экспартуемых у Германію тавараў. Калі-ж органы НКУС зацікавіліся падазронай дзейнасцю аддзялення гэтай фірмы, якое знаходзілася на тэрыторыі СССР, то аказалася, што пад маркай фірмы скрываецца шпіёнска-дыверсійная арганізацыя.

Агент гэтай фірмы Х. вербаваў шпіёнаў і агентаў для выканання шкодніцкіх актаў у совецкіх портах. Некалькі год назад гэты агент завербаваў у шпіёнскую агентуру выкладчыка адной з вышэйшых тэхнічных навучальных устаноў П., у мінулым палкоўніка генеральнага штаба царскай арміі. Х. пазнаёміўся з П. праз яго жонку. У 1928-31 гг. Х. бываў у П., сістэматычна вёў з ім разгаворы аб становішчы ў Чырвонай Арміі, аб яе ўзбраенні. Гэтыя разгаворы агент маскаваў спасылannямі на тое, што, як былы афіцэр, ён цікавіцца становішчам Чырвонай Арміі. З атрыманых ад П. вестак ён складаў спецыяльныя пісьмовыя паведамленні, якія перадаваў разведцы. Пры-

ступіўшы да арганізацыі дыверсійнай сеткі, Х. завербаваў П. для дыверсійнай работы. Сутнасць задання, якое П. атрымаў ад агента, складалася ў наступным: як выкладчык вышэйшай тэхнічнай навучальнай установы, П. павінен быў спачатку падшукваць, а потым і «апрацоўваць» падыходзячых студэнтаў гэтай вышэйшай тэхнічнай навучальнай установы, якія пасля, стаўшы інжынерамі на прадпрыемствах, маглі-б быць выкарыстаны для дыверсійных мэтаў. Дзейнасць Х. і П. была прасечана органамі НКУС.

Наступны факт таксама характарызуе прыёмы агентаў Гестапо, якія прымяняліся імі ў фірме «Кантроль-К°». Той-жа агент Х. завербаваў для шпіёнскай работы нейкую М., якую ён устроіў на пасаду машыністкі ў фірме. М. выконвала пасрэдніцкія даручэнні па вывучэнню паасобных людзей, цікавіўшых Гестапо, збірала аб іх весткі. М. была ў курсе дыверсійна-разведчай работы, якая праводзілася пад шыльдай «Кантроль-К°», ведала аб дзейнасці агента Х. Праз некаторы час М. стала праяўляць незвычайную нервознасць, відаць, баючыся выкрыцця. Апасаючыся, што М. можа выдаць яго, Х. угаварыў яе паехаць адпачываць да сваёй прыяцельніцы, якая пражывала па Маскоўска-Казанскай чыгунцы. Захапіўшы з сабою рэвальвер, Х. непрыметна для М. паследваў за ёю і сеў у суседні вагон гэтага-ж поезда, намерваючыся застрэліць яе па дарозе са станцыі. Але падвярнуўся больш зручны выпадак расправы з намечанай афярай. Калі М. вышла на пляцоўку вагона, агент Гестапо быстра перайшоў туды-ж і штурхнуў яе пад поезд. Пераканаўшыся ў тым, што М. загінула пад калёсамі вагона, Х. вярнуўся назад у Маскву.

Але Гестапо выкарыстоўвае не толькі «дзелавыя» сувязі для шпіёнскай і шкодніцкай дзейнасці ў СССР. Яна часта выбірае і больш складаныя шляхі пранікнення ў Совецкі Саюз. Адным з такіх шляхоў з'яўляецца для агентаў Гестапо правакатарская работа ў германскай компартыі. Прабраўшыся ў асяроддзе комуністаў ці членаў іншых арганізацый, якія адносяцца спачуваючы да СССР, агенты Гестапо стараюцца зарэкамендаваць сябе прыхільнікамі Совецкага Саюза, каб такім чынам пранікнуць у СССР.

Наступны факт паказвае, як выкарыстоўваецца агентурай Гестапо гэты шлях пранікнення ў СССР са шпіёнска-дыверсійнымі мэтамі. Адзін з агентаў Гестапо—Г. прабраўся ў комуністычную партыю Германіі і ўвайшоў у давер'е арганізацыі, якая вылучыла яго партыйным функцыянерам у Гамбургу. Як комуніст, «праследуемы» фашысцкімі ўладамі, ён у 1933 годзе прабіраецца ў СССР. Тут Г. выдае сябе за актыўнага барацьбіта супроць фашызма, за друга Совецкага Саюза. Ён усімі мерамі стараецца пранікнуць на работу ў совецкую арганізацыю. Яго паводзіны здаюцца ўсё-ж такі падазронымі, і яму не ўдаецца прабрацца на совецкую работу. Тады, у сувязі з няўдачай свайго прадпрыемства, Г. вяртаецца ў Германію. Тут яго поўнасцю выкрываюць, як платнага агента Гестапо.

Другі агент Гестапо—Р. прыехаў у СССР у якасці інжынера, пакінуўшага Германію і пацярпеўшага ад фашысцкага рэжыма. Р. пастаянна расказваў аб сваёй падпольнай комуністычнай рабоце ў Германіі, аб праследваннях, якім ён падвяргаўся з боку фашысцкага рэжыма. Выдаючы сябе за комуніста, ён у той-жа час звязаўся з іншымі агентамі Гестапо, раней прыехаўшымі ў Совецкі Саюз, і сумесна з імі пачаў праводзіць шпіёнскую работу. Выкрыты органамі НКУС, ён сазнаўся, што ўступіў у падпольную комуністычную арганізацыю

па спецыяльнаму заданню Гестапо, з мэтай прабрацца такім шляхам у Совецкі Саюз.

Але Гестапо не абмяжоўваецца толькі пасылкай сваіх агентаў для шпіянажу ў СССР. Яна стараецца шырока выкарыстаць для гэтай справы варожыя, антысовецкі настроеныя элементы ўнутры краіны. Для вярбоўкі шпіёнаў унутры краіны Гестапо пасылае ў СССР спецыяльныя кадры вярбоўшчыкаў, ствараючы легальныя прыкрыцці для іх вярбовачнай работы.

Пры вярбоўцы шпіёнаў і шкоднікаў германская разведка шырока стараецца выкарыстаць сканцэнтраваныя ў пэўных раёнах вялікія групы нямецкага насельніцтва. Гестапо накіроўвае свае позіркі на значную праслойку немцаў Прыбалтыкі, асеўшых вакол Ленінграда і ў іншых гарадах, на нямецкія сёлы на Украіне. Асаблівую ўвагу звяртае Гестапо на Рэспубліку немцаў Паваложжа.

Праз «Саюз зарубежных немцаў» Гестапо стараецца арганізаваць у гэтых раёнах фашысцкія групы для шпіёнскай, дыверсійнай і шкодніцкай дзейнасці. У раёнах з нямецкім насельніцтвам ёсць пэўная праслойка раскулачаных, былых гандляроў, домаўласнікаў. Многія з іх працуюць спецыялістамі ў совецкіх установах, на прадпрыемствах. На гэтыя кадры робіць стаўку Гестапо пры вярбоўцы сваіх агентаў. З гэтага асяроддзя яе агенты прабуюць ствараць фашысцкія групы, звязваючы іх з Усходнім аддзелам Гестапо.

Характэрны наступны выпадак вярбоўкі агентамі Гестапо студэнта педагагічнага тэхнікума Ц.

Ц. па дарозе з Рэспублікі немцаў Паваложжа ў Ленінград, куды ён ехаў на вучобу, астанавіўся ў Маскве ў сваёй сястры. У Маскве ён пазнаёміўся з адным з агентаў Гестапо, які вельмі сардэчна гутарыў з ім на розныя нявінныя тэмы. Пасля некалькіх сустрэч, перад ад'ездам Ц., агент прыпаднёс яму некаторую грашовую суму, нічога не гаворачы пры гэтым, для якой мэты ён гэта робіць. Ніякіх размоў аб шпіёнскай рабоце на гэтай стадыі знаёмства яшчэ не было. Праз некаторы час, прыкладна праз паўгода, Ц. зноў сустрэўся ў Маскве са сваім старым знаёмым. Паміж імі працягваліся гутаркі аб сістэме выкладання ў педтэхнікуме, аб прафесуры, аб таварышах Ц. па вучобе. Агент пазнаёміў Ц. з сваімі прыяцелямі ў Маскве; яны запрашалі яго на вечарынкі, і Ц. весела праводзіў свой водпуск. Пры ад'ездзе Ц. зноў атрымаў ад свайго «друга» некаторы грашовы падарунак. Толькі пры трэцяй сустрэчы, перад ад'ездам Ц. на канікулы ў Рэспубліку немцаў Паваложжа, агент патрабаваў ад Ц. пакрыцця за атрыманыя грошы і даў яму заданне сабраць матар'ял аб Рэспубліцы немцаў Паваложжа. Выканаўшы гэтае заданне, Ц. быў па звароце з канікул накіраван да іншых агентаў, завербаваных у Ленінградзе. Апошнія, апрацоўваючы Ц. у фашысцкім духу, шантажыруючы яго, дзейнічаючы пагрозамі, выхавалі з Ц. вопытнага шпіёна, здрадніка радзімы. Калі Ц. па сканчэнні тэхнікума зварачаўся ў Рэспубліку немцаў Паваложжа, яму было дано даручэнне разгарнуць там шпіёнска-дыверсійную дзейнасць. Ц. быў выкрыт органамі НКУС пры дапамозе таварышоў з мясцовага нямецкага насельніцтва.

Можна прывесці рад фактаў такой паступовай «апрацоўкі» людзей для ўцягнення іх у рады агентаў Гестапо. Вярбоўшчыкі стараюцца пранікнуць у навучальныя ўстановы, на прадпрыемствы і ва ўстановы, вярбуючы сабе там памочнікаў. Гестапо стараецца ўкараніць сваю агентуру і ў нашы грамадскія арганізацыі. Агентам Гестапо даецца заданне завяваць да сябе давер'е, пралезці ў партыю і ком-

самол, каб такім чынам набыць больш магчымасцей для шпіёнскай, дыверсійнай, шкодніцкай дзейнасці. Некаторых агентаў Гестапо трымае «пра запас», на выпадак вайны.

У апошні час фашысцкай разведцы нанесен сакрушальны ўдар. Гестапо ўскладала вялікія надзеі на сваіх трацкісцка-бухарынскіх наймітаў і асабліва на фашысцкіх шпіёнаў тухачэўскіх, гамарнікаў, якіраў. Совецкая разведка выкрыла гэту подлую агентуру Гестапо, якая арудвала ў СССР, і сарвала яе каварныя планы. Гэтым тлумачыцца шалёны вой у абарону шпіёнаў, узняты фашысцкім друкам.

* * *

Каб замесці сляды сваёй шпіёнскай тэрарыстычнай дзейнасці за граніцай, фашысты ў самыя апошнія дні загаварылі ў сваіх газетах аб шпіянажы замежных дзяржаў супроць Германіі. Цэнтральны орган германскай фашысцкай партыі «Фелькішэр беобахтэр» вышаў 11 жніўня з аншлагам «Увага! Шпіёны на прадпрыемствах!»

Гэты манеўр нагадвае адчаяныя крыкі грабежніка: «трымай злодзея!» Фашысты бачаць, што ў цэлым радзе краін выкрыты страшэнныя, мярзотныя дзеянні Гестапо, што выкрыта вялікая колькасць яе агентаў, якія аблыталі ўвесь свет сеткай шпіянажу. Таму Гестапо стараецца адцягнуць увагу ад гэтых фактаў крыкамі аб шпіянажы іншых краін. Але гэта ёй не ўдасца.

Усё чалавецтва павінна ведаць факты крывавай гісторыі Гестапо. Чым больш і глыбей будзе выкрыт мярзотны твар Гестапо, тым энергічней будуць выкурваць лазутчыкаў фашызма з усіх нор, куды яны прабраліся.

Чарговы з'езд германскіх фашыстаў, які толькі што закончыўся ў Нюрнбергу, служыць, як і мінулыя фашысцкія з'езды, мэтам падрыхтоўкі вайны. Перад з'ездам адбыўся злёт фашысцкіх груп, арудуючых у іншых дзяржавах. Гэта быў па сутнасці злёт арганізатараў шпіянажу і падпальшчыкаў вайны ва ўсіх краінах свету.

У сувязі з узмацняючайся падрыхтоўкай вайны належыць чакаць пасля гэтага шпіёнскага з'езда павышэння актыўнасці Гестапо і яе агентаў, накіраванай у асаблівасці супроць СССР.

Выкрыццё фашысцкай разведкі зрывае планы падпальшчыкаў вайны і ўмацоўвае магутнасць нашай соцыялістычнай радзімы. Совецкая разведка, паказаўшая бліскучыя прыклады выкрыцця агентаў Гестапо, здолее пры дапамозе ўсіх чэсных грамадзян нашай соцыялістычнай радзімы ачысціць Совецкі Саюз ад фашысцкіх гадаў і іх агентуры.

**(„Правда“)**

---

Галоўлітбел № 3309.
Тыраж 6050.
256.960 друк. зн. (4³/₄ друк. арк.)
Здана ў набор 29/IX—37 г.
Падпісана да друку 23/X—37 г.

*Нам. адк. рэдактара Г. СТЫРНЭ*

Менск, друк. імя Сталіна. Зак. № 1560

